Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№6 (4550) 12 лютага 2010 г.

## У нумары:





У павільёне Нацыянальнага выставачнага цэнтра "БелЭКСПА" праходзіць XVII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш "Кнігі Беларусі-2010".
Свята доўжыцца пяць дзён: з 10 па 14 лютага.
Адметна, што гэта, бадай, адзіны кніжны форум у свеце, уваход на які для наведвальнікаў бясплатны.



# І кніга — жыве!

На ўрачыстым адкрыцці міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі зазначыў, што выстаўка-кірмаш садзейнічае збліжэнню кнігавыдаўцоў і тых, для каго працуюць кнігавытворцы, — чытачоў. Асаблівасць у тым, што яна адкрывае каляндар міжнародных выставак. Алег Вітольдавіч падкрэсліў, што нягледзячы на імклівае развіццё інфармацыйных тэхналогій, колькасць прадстаўленых тут краін сведчыць: кніга — жыве.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры выказаў гонар і задавальненне тым, што краіна на выстаўцы прадстаўлена як ганаровы госць. Паводле слоў сп. Рэнеры, кніжнае свята набывае новы сэнс, таму што з'яўляецца першым культурным мерапрыемствам Францыі ў Беларусі пасля падпісання ў Парыжы 20 студзеня дамовы аб супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі ў галіне культуры, адукацыі, навукі, тэхнікі і сродкаў масавай інфармацыі.

Удзельнікаў і гасцей таксама павіталі выконваючы абавязкі старшыні Дзяржаўнага камітэта тэлебачання і радыёвяшчання Украіны Алег Налівайка, міністр адукацыі Беларусі Аляксандр Радзькоў і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

Сёлета ў беларускім кніжным форуме бяруць удзел 619 экспанентаў з 26 краін: Украіны, Расіі, Арменіі, Таджыкістана, Азербайджана, Туркменістана, Германіі, Кітая, Карэі, Кубы, Ірана, Казахстана, ЗША, Грузіі, Балгарыі, Венесуэлы, Швецыі… Па традыцыі, ёсць і ганаровы госць — Францыя. У свой час такі статус мелі Расія, Украіна, Ізраіль і Казахстан. Французскі стэнд, арыгінальны па сваёй задуме і афармленні, дэманструе кніжную прадукцыю рознай тэматыкі і на розны густ вядучых выдавецтваў краіны. Французскія пісьменнікі і спецыялісты ў галіне літаратуры і кніжнай справы Ан-Мары Поль, П'ер Карнюэль, Давід Франкінос, Крысціян Гарсэн, Жан-Поль Кале, Эрык Вінь, Катрын Міле, Цьеры Ленц запрашаюць усіх жадаючых на літаратурныя сустрэчы, аўтограф-сесіі, майстар-класы, "круглыя сталы". Акрамя ўсяго іншага, наведвальнікаў чакаюць прыемныя сюрпрызы: сярод тых, хто набудзе літаратуру на стэндзе Францыі, заўтра будуць



разыграны два білеты на канцэрт Патрысіі Каас. А ў нядзелю французскае пасольства ўручыць прэмію маладому беларускаму літаратару-франкафону, імя якога стане вядома толькі ў дзень закрыцця выстаўкі-кірмашу.

Гэтымі днямі і іншыя краіны-ўдзельніцы ладзяць прэзентацыі кніг, сустрэчы з аўтарамі, выдаўцамі, мастакамі, разнастайныя акцыі. Улічваючы тое, што ганаровым госцем кірмашу з'яўляецца Францыя, беларускія выдаўцы як гаспадары кніжнага форуму таксама падрыхтавалі сюрпрыз: учора адбылася прэзентацыя рамана французскага пісьменніка Мішэля Дэона "Вышэйшае кола", які выпусціла рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Бібліятэка сусветнай літаратуры".

Наведвальнікам свята кнігі прапануецца азнаёміцца са спецыяльнымі выстаўкамі: "Кнігі-лаўрэаты Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2009", "Кнігі беларускіх выдавецтваў — лаўрэаты VI Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" краін-удзельніц СНД, "Сусвет душою беларуса" — рукапісныя кнігі старшага навуковага супрацоўніка Гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе" Юрася Малаша, "Шпацыр па горадзе" — фотаработы Вадзіма Качана, выстаўка дзіцячых малюнкаў... Цікаўных запрашае спецыялізаваная выстаўка-кірмаш "Канцылярская справа-2010". Таксама ў межах кірмашу — бібліятэчны дзень, галоўная падзея якога —"круглы стол" "Электронная кніга — кніга дня сённяшняга і будучага". На Дзень ведаў запрашаюцца школьнікі, студэнты, выкладчыкі, увогуле, усе жадаючыя. Наведвальнікаў каля сваіх стэндаў чакаюць выдаўцы, якія выпускаюць літаратуру для самых розных навучальных устаноў, а таксама дашкольнікаў, выхавацеляў і бацькоў.

Традыцыяй выстаўкі-кірмашу стала правядзенне міжнароднага "круглага стала" па пытаннях узаемаўзбагачэння літаратур і ўзаемных перакладаў. Тэма сёлетняга мерапрыемства — "Мастацкае слова — шлях да ўзаемаразумення", арганізатарамі якога выступілі Саюз пісьменнікаў Беларусі і РВУ "Літаратура і Мастацтва". А ўдзел у ім узялі літаратары нашай краіны, Таджыкістана, Францыі, Літвы ды Украіны.

Сярод іншых акцый — урачыстыя перадачы калекцый кніг у дарунак шэрагу універсітэтаў і абласных бібліятэк Беларусі Пасольствам Германіі ў нашай краіне, ад імя ўрада Масквы — Дому Масквы ў Мінску, з экспазіцыі Саратаўскай вобласці Расіі і расійскіх выдавецтваў — Міністэрству інфармацыі і бібліятэкам Беларусі.

У сваім памкненні пастаянна падтрымліваць міжнародны статус, прыцягваючы да ўдзелу ў мінскіх кніжных выстаўках-кірмашах новых партнёраў па міжнароднай кніжнай супольнасці, беларускі кніжны форум заўсёды быў і застаецца мерапрыемствам, якое шырока прапагандуе нацыянальнае кнігавыданне. У межах кірмашу ў агульным шэрагу шматаблічнай калектыўнай кніжнай экспазіцыі кнігі беларускіх выдавецтваў натуральным чынам уваходзяць у кантэкст сучаснага кнігавыдання, якое прадстаўляюць краіны-экспаненты. Шмат у чым якасна новая і неардынарная кніжная прадукцыя, ва ўсіх яе тэматычных і відавых ракурсах, стварае станоўчы імідж беларускай кнігі.

Практычны бок пытання — бачанне і вызначэнне арыенціраў, новых тэндэнцый у развіцці і ўдасканаленні выдавецкай справы і выпуску запатрабаванай літаратуры, умацаванне і наладжванне прафесійных кантактаў і сувязей, неабходных для практычнай работы і далейшага ўзаемадзеяння.

Такім чынам, Мінская кніжная выстаўка-кірмаш для выдавецтваў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі — яшчэ адна падстава для таго, каб заявіць пра сваю кампетэнтнасць, канкурэнтаздольнасць, мабільнасць, а таксама гатоўнасць быць дастойным удзельнікам агульнасусветнага кнігавыдавецкага працэсу.

Арганізатарамі кніжнага форуму выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама кнігагандлёвае прадпрыемства "Белкніга" і выдавецтва "Макбел". А ў наступным годзе ганаровым госцем чарговай выстаўкі-кірмашу будзе Германія — адзін з лідэраў сусветнага кнігавыдання.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры адкрываюць кніжны форум; ля стэнда РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

• Музей гісторыі горада Мінска плануецца стварыць у сталіцы ў першым квартале гэтага года. Новую ўстанову мяркуецца размясціць у некалькіх будынках па вуліцы Рэвалюцыйнай. Асноўная задача супрацоўнікаў новага музея — праца над стварэннем экспазіцыі і падрыхтоўка да ўводу значных культурна-турыстычных аб'ектаў: Мінскага замчышча, Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу, частковая музеефікацыя помніка архітэктуры XVII — XVIII стагоддзяў па вуліцы Кірылы і Мяфодзія.

• Акцыя "Кніга аб Перамозе — ветэрану Вялікай Айчыннай вайны", арганізаваная Аршанскім гарадскім камітэтам БРСМ і Саветам ветэранаў і прысвечаная 65-годдзю Перамогі беларускага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, стартавала ў Оршы ў снежні мінулага года. Актывісты пярвічак БРСМ, створаных у навучальных установах і працоўных калектывах горада, а таксама ўсе жадаючыя адбіраюць са сваіх хатніх бібліятэк выданні пра гераічныя падзеі, каб падараваць іх Рэспубліканскаму шпіталю інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, які размешчаны ў вёсцы Юрцава Аршанскага раёна. Урачыстая перадача адбудзецца 23 лютага, у Дзень абаронцаў Айчыны.

• Зацверджана папярэдняя праграма падрыхтоўкі горада Ліды да правядзення рэспубліканскага фестывалю працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2010", вызначаны асноўныя аб'екты будаўніцтва і добраўпарадкавання, падлічана, колькі на гэта спатрэбіцца сродкаў. Прынамсі, у планах — рэканструкцыя Лідскага замка. Планеуцца аднавіць разбураную сцяну і паўднёва-заходнюю вежу, уладкаваць інжынерныя сеткі і ўнутраныя збудаванні замка Гедыміна. Усяго ў праграму падрыхтоўкі да "Дажынак" уключана больш як 200 будаўнічых аб'ектаў.

• Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны запрашае наведаць выстаўку "Усе лёсы ў адным паядналы" (Уладзімір Высоцкі пра вайну). Гэта першы сумесны праект музея з Маскоўскім дзяржаўным культурным цэнтрам-музеем У. Высоцкага "Дом Высоцкага на Таганцы", які прадставіў на выстаўцы прадметны і аўдыёвізуальны рад. Экспазіцыя прысвечана тэме Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці акцёра, цэнтральнай фігурай герояў якога выступае просты чалавек са сваімі праблемамі, светаўспрыманнем, надзеямі… Канцэпцыя выстаўкі не прадугледжвае цэласнага расповеда пра падзеі вайны. Яе мэта — даць магчымасць сучаснаму наведвальніку далучыцца да паэзіі У. Высоцкага.

• Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы працягвае серыю музычна-паэтычных вечарын, якія ладзяцца ў межах акцыі "Вечар у музеі". Так, 15 лютага музычны клуб "Спроба актавы", які дзейнічае пры гэтай установе культуры, запрашае наведвальнікаў на адмысловы канцэрт, прысвечаны Дню святога Валянціна. У ім бяруць удзел фольк-рок гурты "ZnaROCK", "Хорыца" і "Alta Mente". Падчас канцэрта будзе праводзіцца гульня на вызначэнне лепшага купалазнаўцы, а ўсе тыя, хто прыйдзе на вечарыну ў пары, змогуць атрымаць падарунак ад святога Валянціна. Да слова, падарункі таксама атрымаюць усе наведвальнікі з імем Валянціна і Валянцін.

Падрыхтавалі
Бажэна СТРОК і Віктар ЗАЯЦ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі







ГІРГЕЛЬ Сяргей Мікалаевіч.
Драматург.
Нарадзіўся 19 снежня 1976 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ, Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці "рэжысура драмы".
Аўтар шэрага п'ес — "Жизнь и смерть Квентина Тарантино", "Зигмунд Фрейд и его деревянные солдаты", "Москва Радиальная", "Я — ОНА — ОНО", "Казнить нельзя помиловать", "Золотая мама", "Пельмешки", а таксама кінасцэнарыяў — "Слепая ярость Такеши Китано", "Этюды Черни", "Делюга", "Семь сорок", "Чудеса", "По первому снегу".

КАЛАШНІКАВА Марына Мікалаеўна.
Празаік.
Нарадзілася 6 кастрычніка 1966 года ў горадзе Орша Віцебскай вобласці. Скончыла фізічны факультэт БДУ. З 2001 года жыве ў Аўстрыі, дзе ўзначальвае Саюз рускамоўных літаратараў Аўстрыі.
Аўтар кніг "Венские прогулки" (2007), "Волшебный кармашек" (2008), "А может я придумала тебя…" (2008), асобныя апавяданні друкаваліся ў часопісах і газетах Аўстрыі, Германіі, Чэхіі, Канады, ЗША, Расіі.

ПРАХІНА Алена Мікалаеўна.
Паэтэса.
Нарадзілася 4 сакавіка 1960 года ў ваенным лётным гарадку каля г. Андзіжан Узбекскай ССР. Па адукацыі — музычны педагог, працуе настаўнікам музыкі і спеваў.
Піша вершы і музыку да сваіх твораў. Друкавалася ў часопісах "Пралеска", "Рюкзачок", "Качели", а таксама ў калектыўных зборніках "З музыкай і песняй: Вершы і музыка", "В стране цветочных фей", у падручніках па спевах для 3-га і 4-га класаў (Эстонія).

ШЧАГЛОЎ Гардзей Эдвардавіч.
Празаік.
Нарадзіўся 10 студзеня 1969 года ў Мінску. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю і Мінскую духоўную акадэмію. Магістр царкоўнай гісторыі.
Аўтар кніг "Степан Григорьевич Рункевич (1867 — 1924). Жизнь и служение на переломе эпох" (2008), "Светильник Христов" (2008), "Сказание о Ельской (Васьковской) чудотворной иконе Божией Матери" (2008) і інш.

ЭЙПУР Аляксандр Уладзіміравіч.
Празаік.
Нарадзіўся 24 сакавіка 1955 года ў Мінску. Скончыў Мінскае гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 23.
Аўтар фантастычных апавяданняў, якія друкаваліся ў часопісах "Парус", "Мега", у калектыўных зборніках "Листья времени", "Люстэрка сусвету".

## Прэс-канферэнцыі

Прэс-канферэнцыя "Аб адкрыцці XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу" адбылася напярэдадні кніжнага форуму ў Прэс-цэнтры Дома прэсы. Распачынаючы яе, намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Лапцёнак распавёў пра дэталі правядзення свята кнігі, пра культурныя праграмы. Асаблівая ўвага выступоўцы надавалася айчынным выдавецтвам і ганароваму госцю — Францыі, аднаму з вядучых кнігавыдаўцоў Еўропы. Да слова, сёлета ў выстаўцы-кірмашы бяруць удзел 619 экспанентаў з 26 краін свету.



# Прыярытэтныя напрамкі

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец зазначыў, што ў творчым саюзе першачарговае значэнне мае выданне кніг. Так, у 2008 годзе ў дзяржаўных і прыватных выдавецтвах іх выдадзена 180, у мінулым — 250. Таксама вялікая ўвага надаецца маладым літаратарам: па выніках літаратурных конкурсаў у гэтым годзе пабачаць свет 3 — 4 кнігі маладых аўтараў — пераможцаў творчых спаборніцтваў. Таксама па 1 — 2 такія кнігі мяркуецца выдаць у кожнай з абласцей краіны. Усё гэта робіцца для таго, каб прыцягнуць у літаратуру маладыя таленавітыя сілы.

Мікалай Іванавіч падкрэсліў, што сёлетні год — юбілейны: святкуецца 65-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. А сярод членаў пісьменніцкай суполкі — 21 удзельнік той жудаснай вайны. У СПБ створана спецыяльная мемарыяльная зала з фотаздымкамі ўсіх пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай, каб прыцягнуць увагу наведвальнікаў да тых, хто змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адметна, што ў мінулым годзе і сёлета да святкавання Дня Перамогі запланавалі выдаць кнігі ўсіх жывых пісьменнікаў-ветэранаў — на сённяшні выдадзена ўжо 18 кніг.

Таксама Мікалай Чаргінец распавёў пра прэстыжную серыю "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", ў якой выдадзены творы айчынных класікаў: Купалы, Коласа, Чыгрынава, Шамякіна, Танка… У мінулым годзе адкрылі новую серыю фантастычнай і прыгодніцкай прозы, дзе выходзяць творы пераважна маладых пісьменнікаў. Пры канцы мінулага года выйшлі першыя 12 тамоў, а ў студзені бягучага года свет пабачылі яшчэ дзве кнігі. У гэтым жа годзе створана новая серыя пад назовам "Дэтэктыў".

Значная ўвага надаецца дзіцячай літаратуры: выйшлі кнігі Уладзіміра Ліпскага, Алеся Савіцкага, Валянціна Лукшы ды іншых.

Беларускія творцы актыўна ўдзельнічаюць у выстаўцы-кірмашы. СПБ ладзіць шматлікія прэзентацыі выданняў саюза, сустрэчы з пісьменнікамі... Мікалай Іванавіч упэўнены, што сёлетні кніжны форум адрозніваецца ад папярэдніх большай насычанасцю мерапрыемстваў і паспрыяе далейшаму развіццю не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры.

Таксама ў прэс-канферэнцыі бралі ўдзел дарадца Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Беларусі па пытаннях культуры і супрацоўніцтва Людавік Руайе, дырэктар "Белкнігі" Юрый Хмыроў і генеральны дырэктар выдавецтва "Макбел" Дзмітрый Макараў.

Віктар КАВАЛЁЎ
Фота Кастуся Дробава

## Увага: конкурс!

# Вялікай Перамозе прысвячаецца

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі праводзіць Міжнародны літаратурны конкурс сярод юных літаратараў на лепшы твор, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Конкурс арганізаваны сумесна з Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім інстытутам развіцця адукацыі, Мінскім гарадскім аддзяленнем Беларускага рэспубліканскага Саюза моладзі. У аргкамітэт конкурсу ўвайшлі як прадстаўнікі беларускіх арганізацый, так і замежных.

Узроставыя катэгорыі ўдзельнікаў конкурсу: 14 — 18 гадоў і 19 — 25 гадоў. Вызначаны намінацыі: верш; апавяданне; нарыс; артыкул.

Творы на беларускай або на рускай мове павінны быць прысвечаны ваенна-патрыятычнай тэматыцы, апяваць подзвіг савецкіх воінаў, партызан, мужнасць народа, працаўнікоў тылу, канкрэтных удзельнікаў баявых падзей, дружбу і духоўнае яднанне народаў, якія перамаглі фашызм.

Адзін і той жа ўдзельнік конкурсу можа прадставіць некалькі твораў і ў розных намінацыях.

Работы, набраныя на камп'ютэры, дасылаюцца ўстановамі, арганізацыямі або непасрэдна ўдзельнікамі конкурсу на адрас: 220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5. Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кабінет 309. З пазнакай "На конкурс". Апошні тэрмін адпраўкі — 15 красавіка 2010 года. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя, імя па бацьку, дакладны адрас, дату нараджэння, месца вучобы або працы, кантактныя тэлефоны.

Да разгляду прымаюцца і работы юных літаратараў з Расіі, Украіны, Літвы і Латвіі.

Прафесіянальнае журы вызначыць пераможцаў. Падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца ў Мінску ў вялікай зале Дома літаратара на літаратурным свяце. Лаўрэаты і пераможцы конкурсу атрымаюць дыпломы і каштоўныя падарункі. Лепшыя творы будуць прапанаваны да друку.

Міхась Пазнякоў,
старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ

## Зорны паход

# Не прымус, а лад жыцця!

Вось ужо ў сорак пяты раз Зорны паход па традыцыі ў канцы другога зімовага месяца сабраў студэнтаў-актывістаў БДПУ імя М.Танка, каб правесці іх па месцах баявой і працоўнай славы беларускага народа. Студэнты, больш як 200 чалавек, прайшлі па Барысаўскім, Крупскім, Пухавіцкім, Стаўбцоўскім, Мядзельскім раёнах, а некаторыя завіталі ў Жодзіна. Яны наведалі школы, дзіцячыя садкі, мемарыяльныя комплексы, сустрэліся з ветэранамі і прадставілі свае канцэртныя праграмы.

Па добрай традыцыі Зорны паход адкрыў урачысты мітынг з удзелам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Радзькова, рэктара БДПУ імя М.Танка Пятра Кухарчыка, іншых прадстаўнікоў універсітэта і цэнтральнага камітэта БРСМ. Адстойваць гонар сваёй alma mater, расказаць пра яе традыцыі, пераняць педагагічны вопыт настаўнікаў — вось толькі некаторыя з тых пажаданняў, якія атрымалі "зорнікі". І заўсёды ў такія моманты ўзнікае пытанне: чаму маладыя людзі ў час зімовых канікул даюць згоду на ўдзел у такім мерапрыемстве? Адказ, аднак, тут вельмі просты. Зорны паход — гэта не прымус, гэта своеасаблівы лад жыцця, той рухавік, які накіроўвае да дабрачыннасці.

Наталля ПЯТРОЎСКАЯ

## Праекты

# З аўтографамі пісьменнікаў

Падведзены вынікі творчага праекта "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў Беларусі — у бібліятэкі краіны" для Цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм (ЦБС) краіны. Мэтай праекта было — вызначэнне ЦБС, дзе найлепш арганізавана падпіска на газету творчай інтэлігенцыі Беларусі "Літаратура і мастацтва".

Паводле вынікаў падпіскі на "ЛіМ" на І паўгоддзе 2010 года, найбольш плённымі падпісныя кампаніі аказаліся ў наступных ЦБС (па кожнай вобласці асобна):

Брэсцкая — Пінская раённая ЦБС,
Віцебская — Наваполацкая гарадская ЦБС,
Гомельская — Буда-Кашалёўская раённая ЦБС,
Гродненская — Ваўкавыская раённая ЦБС,
Магілёўская — Крычаўская раённая ЦБС,
Мінская — Лагойская раённая ЦБС і Салігорская раённая ЦБС.

Усе згаданыя ЦБС-пераможцы ў лютым-сакавіку гэтага года атрымаюць ад рэдакцыі "ЛіМа" унікальныя прызы — па 100 асобнікаў кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў (па Мінскай вобласці — дзве ЦБС-пераможцы — па 50 асобнікаў).

"ЛіМ" шчыра віншуе пераможцаў, зычыць усім супрацоўнікам ЦБС краіны прафесійнага ды жыццёвага натхнення.

## Літ-абсягі

# І гісторыкам, і краязнаўцам



Кніга дзіцячая, мастацкая, даведачная… Спіс можна доўжыць. Але спынімся на кнізе навуковай. Так, героем рубрыкі сёння будзе адметная энцыклапедыя "Гісторыя беларускай кнігі". А адметнасць яе ў тым, што ўпершыню ў такім фармаце выйшла кніга, прабачце за тўталогію, пра кнігу ў гістарычным аспекце. Аўтар яе — наш зямляк, доктар філалагічных навук Мікалай Нікалаеў, а пабачыла свет яна ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі нашай краіны. Гэта першы з двух тамоў, які прысвечаны кніжнай культуры Вялікага княства Літоўскага за ўвесь перыяд існавання гэтай дзяржавы.

Гэтымі днямі ў час правядзення XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу наладжана прэзентацыя выданняў выдавецтва, у тым ліку і гэтай энцыклапедыі.

Са слоў Ларысы Языковіч, загадчыка рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю, у мінулым годзе выпушчана шмат энцыклапедычных выданняў, сярод якіх і "Гісторыя беларускай кнігі", якое пабачыла свет перад самым Новым годам. У ёй М.Нікалаеў даследуе гісторыю беларускай кнігі на тэрыторыі ВКЛ, пачынаючы са старадаўніх часоў, і ўплыў Кіеўскай Русі, распавядае пра друкарні і выдаўцоў… У выданні пададзены вельмі добры ілюстрацыйны матэрыял, які паказвае эвалюцыю мастацкай аздобы беларускай кнігі. Ён збіраўся аўтарам на працягу больш як дзесяці гадоў. Здымкі і сканаванне зроблены ў кнігасховішчах і бібліятэках Санкт-Пецярбурга, Прагі, Вільні, Мінска, Кракава, Кіева, Масквы. У працяг першага тома сёлета плануецца выданне другога, дзе будзе адлюстравана, як развівалася кнігадрукаванне на тэрыторыі Беларусі пасля ўваходжання ў склад Расійскай імперыі, а потым у складзе СССР.

Як зазначае ў прадмове М. Нікалаеў, з усіх помнікаў, што засталіся ад ВКЛ, кнігі найбольш шматлікія і рухомыя. Падобная ўласцівасць спрыяла іх захаванню далёка ад месца стварэння і бытавання, часта тады, калі былі зруйнаваны храмы, для якіх гэтыя кнігі пісаліся, разбураны замкі, манастыры і палацы, у чыіх бібліятэках гэтыя кнігі знаходзіліся. Аднак раскіданыя па музеях і архівах усяго свету рукапісныя помнікі ВКЛ, на жаль, не маюць зводнага каталога. Адсутнасць іх апісанняў — адна з самых вострых праблем сучаснай археаграфіі. Гэтая акалічнасць замінае і вывучэнню кніжнасці як гісторычна-культурнага працэсу, таксама як і вывучэнню дзейнасці асобных кнігапісных майстэрняў і друкарняў…

"Гісторыя беларускай кнігі" складаецца з трох асноўных раздзелаў: "Спадчына Кіеўскай Русі (XIII — XV стст.)", "Уздым і крах літоўскай культуры (1501 — 1648 гг.)" і "Культурная перыферыя Рэчы Паспалітай (1648 — 1795 гг.)".

Выданне будзе карысным для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, гісторыкаў, філолагаў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі беларускай культуры.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара

## Арт-лінія

Тое, што адбывалася 9 лютага ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, можна было б назваць прэм'ерай, але... Опера Д. Вердзі "Макбет" папоўніла рэпертуар яшчэ ў мінулым сезоне і ўжо была прадстаўлена публіцы: прэм'ера прайшла ў Віцебску. Прычым — у канцэртным выкананні. Днямі "Макбет" у тым жа аблічы паўстаў перад сталічнай публікай. Паказ абноўленай версіі опернага спектакля "Рыгалета", адаптаванай да сучасных сцэнічных умоў, адбудзецца 20 лютага. А далей?

# Вялікія планы Вялікага



Пра планы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі гаварылася на нядаўняй прэс-канферэнцыі. 2010 год абяцае цікавае жыццё і для саміх артыстаў, і для прыхільнікаў музычна-тэатральных жанраў. Намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі В.Гедройц нагадаў, што месяц таму, напярэдадні Старога новага года, у тэатры ўпершыню прайшоў вялікі баль (музычны кіраўнік В.Чарнуха (Воліч), рэжысёр Г.Галкоўская). Вынік эксперыменту станоўчы: захопленыя гледачы выказвалі не толькі падзякі, але і пажаданне зрабіць "Вялікі баль у Вялікім тэатры" традыцыйным праектам. Так, мабыць, і будзе, але на чарзе — новыя праекты. Дырыжор В.Чарнуха і артыст В.Скарабагатаў у якасці рэжысёра працуюць над падрыхтоўкай Першага летняга беларускага опернага фестывалю ў Нясвіжы. У замкавым двору плануецца паказаць спектакль "Чужое багацце нікому не служыць" — адроджаную оперу Я.Голанда, створаную два з паловай стагоддзі таму ў тэатры Радзівілаў. У ратушы адбудзецца канцэрт. Наогул, прадугледжаны прэм'еры духоўнага твора В. Казлоўскага "Te Deum", а таксама балета "Шапэніяна" — у азнаменаванне 200-годдзя з дня нараджэння класіка польскай музыкі і ў памяць пра сяброўства, якое звязвала Ф.Шапэна і А.Радзівіла. Напамінам пра добрыя стасункі А. Радзівіла і Л. ван Бетховена прагучыць Сімфонія № 5 вялікага кампазітара. У снежні чакаецца Міжнародны оперны фестываль з паказам нашых спектакляў "Кармэн" і "Набука", работ запрошаных тэатраў з Латвіі ды Расіі ("Новая опера" імя Я. Колабава), з удзелам замежных зорак.

Наперадзе — грандыёзная і карпатлівая праца па адаптацыі да новай сцэны старых спектакляў ("Аіда", "Хаваншчына", "Царская нявеста") і пастановачна аблегчаных, "гастрольных" ("Набука"), падрыхтоўка прэм'ер: "Шапэніяна"; "Снягурка" М.Рымскага-Корсакава; балет "Шчыгрынавая скура" А.Мдзівані; аднаактовая опера С.Картэса "Мядзведзь". Дарэчы, да юбілею С.Картэса, аднаго са сваіх самых актыўных аўтараў, тэатр на чале з галоўным дырыжорам В.Пласкінам і маэстра В.Чарнухам рыхтуе вялікі вечар: у праграме... "Юбілей" (аднаактовы оперны спектакль паводле А.Чэхава) і разнажанравае канцэртнае аддзяленне.

У вялікіх планах тэатра ёсць і гастролі: Эстонія, Нідэрланды, Іспанія, Германія, Паўднёвая Карэя, Кітай, Кіпр...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі Валерый Гедройц і народны артыст Беларусі кампазітар Сяргей Картэс падчас прэс-канферэнцыі.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

# У ладзе і згодзе

180-гадовы юбілей "Литературной газеты", заснаванай пры ўдзеле А. Пушкіна ў 1830 годзе, і ўзноўленай пры падтрымцы М. Горкага ў 1929, — падзея і для Беларусі.



Сярод галоўных рэдактараў літаратурна-мастацкага, культуралагічнага выдання — А. Дэльвіг, Ф. Коні, А. Фадзееў, К. Сіманаў, А. Чакоўскі. Цяпер — Юрый Міхайлавіч Палякоў, вядомы рускі пісьменнік, драматург. Гісторыя "Литературной газеты" — сама гісторыя рускай, сусветнай літаратуры. І, зразумела ж, без звароту да старонак "ЛГ" далёка не поўнымі былі б старонкі творчых біяграфій Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Мележа, Івана Шамякіна, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава… У памяці — вострыя, палемічныя артыкулы ў "ЛГ" 1980 — 1990-х Анатоля Казловіча.

І сёння "Литературка" сваім "беларускім" праектам "Лад", што выходзіць з падтрымкай Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, засведчыла асаблівую ўвагу да сучаснай беларускай літаратуры. Надрукавацца ў "Ладзе" з вершамі, прозай стала гонарам, унутранай патрэбай для творчай самарэалізацыі. Беларускія аўтары ўважліва сочаць, ці рэцэнзуе іх кнігі "Литературка". Традыцыйай для "Лада" стаў расповед пра вядомых мастакоў Беларусі. Тут нельга не заўважыць, што гэты беларуска-расійскі праект у многім рэалізуецца дзякуючы настойлівасці, энергіі, мастацкаму густу пісьменніка, вопытнага журналіста-літгазетаўца Алеся Кажадуба. Таленавіты празаік, які ў свой час дэбютаваў сімпатычнай кніжкай "Гарадок" у выдавецтве "Мастацкая літаратура", ён выявіў сябе ўважлівым чытачом, добрым арганізатарам, сапраўдным сябрам беларускіх пісьменнікаў.

"Литературная газета" сёння з'яўляецца акном у вялікі мастацкі свет для тых, хто любіць, шануе рускую мову, разглядае яе як інструмент у стасунках з постсавецкай літаратурнай прасторай. Дзе, як ні ў "Литературке", дзякуючы цэлым тэматычным старонкам ці развароттам, можна даведацца пра новыя здабыткі туркменскіх, таджыкскіх, армянскіх, грузінскіх, малдаўскіх, украінскіх пісьменнікаў. Газета не шкадуе месца для расповеда пра сучаснае кнігавыданне ў Расіі, расказвае пра многія выдавецкія, бібліятэчныя ініцыятывы, што дапамагаюць захаваць, утрымаць у грамадстве цікавасць да друкаванага мастацкага слова. І пра тое, што не ўсё яшчэ страчана, гаворыць сённяшні тыраж "Литературной газеты" — без малога 150 тысяч экзэмпляраў.

З юбілеем, літгазетаўцы! З юбілеем, паважаныя чытачы "Литературной газеты"!

Мікола МІРШЧЫНА

На здымку: рарытэтныя чатыры нумары "Литературной газеты" з прыжыццёвымі публікацыямі А.С.Пушкіна (1830 год).

## З-пад пяра

У Магілёўскай вобласці ўстаноўлены шэраг штогадовых прэмій раённых выканаўчых камітэтаў вобласці за развіццё і папулярызацыю беларускай мовы, літаратуры і культуры. Імёны знакамітых пісьменнікаў-землякоў Максіма Гарэцкага, Міхася Лынькова, Івана Чыгрынава, Аляксея Пысіна атрымаюць новыя прэміі адпаведна Горацкага, Бабруйскага, Касцюковіцкага і Краснапольскага райвыканкамаў. Імем народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова будзе названа прэмія Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, які ўжо колькі год з гонарам носіць імя пісьменніка ў сваёй афіцыйнай назве. Гэтай прэміяй штогод будуць узнагароджвацца вучні, студэнты і выкладчыкі навучальных устаноў вобласці за дасягненні ў галіне беларускай мовы і літаратуры. З'явіцца абласная прэмія ў рамках конкурсу на атрыманне прэміі Магілёўскага аблвыканкама "Чалавек года".

Уладзімір ДУКТАЎ

Ох, і пагуляе ва ўсю моц шырокая Масленіца! З блінкамі, песнямі, катаннямі. Лепш за ўсё яе сустрэць на прыродзе. А гэта магчыма зранку 14 лютага з 11.00 да 16.00 у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Вас чакае незабыўнае свята: народныя забавы ля масленічнага слупа, цяганне "калодкі", катанне з горак, карагоды, вікторыны… І, безумоўна, гарачыя бліны ў сапраўднай "Карчме" канца XIX — пачатку XX стст., рытуальнае спальванне пудзіла паганскай Марэны. Пройдзе конкурс "Масленічная лялька-2010", так што рыхтуйцеся да яго. Дарэчы, на кірмаш з'едуцца лепшыя народныя майстры з усёй Беларусі.

Ларыса САЛОДКІНА

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка "Думкі-чары як кветкі рассеяў…" народнага клуба аматараў фларыстыкі "Анюта" з Віцебска. Кампазіцыі створаны па матывах творчасці Янкі Купалы. "Спрасаваныя кветкі", "кветкаскладанне", "кветкавы жывапіс" — так сёння называюць фларыстыку. У руках майстра тонкая былінка ператвараецца ў разлапістае дрэва, насенне бярозы — у чараду птушак, лісце срэбранай вярбы — у месяцовыя блікі на вадзе. Такія работы цікава разглядаць зблізу, і пры гэтым яны не страчваюць сваёй цэласнасці. Гэта магія, якую не знойдзеш у будзённым жыцці. Амаль за два дзесяцігоддзі члены клуба "Анюта" правялі больш як 70 выставак у Беларусі, а таксама ў Германіі і Расіі. Клуб — пастаянны ўдзельнік міжнароднага мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", лаўрэат двух Рэспубліканскіх фестываляў народнай творчасці "Беларусь — мая песня". Творы віцябчан знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Расіі, Германіі, ЗША… Для майстроў фларыстыка — не проста від мастацтва, а вобраз мыслення, філасофія жыцця.

Марына ПЛАЎСКАЯ

У Беларусі з'явіўся часопіс пра гарадскую культуру. FILET magazine знаёміць чытача з кіно, музыкай, модай, архітэктурай, дызайнам, фатаграфіяй. Выдаўцы вырашылі не абмяжоўваца толькі беларускай культурай. Частка матэрыялаў у часопісе — пераклады артыкулаў і інтэрв'ю з замежных выданняў. Бо зрабіць айчынным журналісту, да прыкладу, гутарку з рэжысёрам Квенцінам Таранціна зусім не проста. Што датычыць беларускай тэматыкі, то ў першым нумары змешчана інтэрв'ю з рэжысёрам Андрэем Кудзіненкам, які зараз здымае айчынны фільм жахаў "Масакра". Прысутнічае ў часопісе і літаратура. Гэта вершы Арцёма Кавалеўскага і Вольгі Гапеевай. Нельга сказаць, што FILET magazine арыентаваны выключна на моладзь ці на прафесіяналаў у пэўнай сферы. Новае выданне аб'ядноўвае куды больш шырокага чытача.

FILET magazine будзе выходзіць чатыры разы на год на беларускай, рускай, англійскай мовах.

Павел РАДЫНА

Спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года за збор, адраджэнне і захаванне рэгіянальнага фальклору, далучэнне падрастаючага пакалення да нацыянальнай традыцыйнай культуры прысуджана калектыву Цэнтра культуры і народнай творчасці вёскі Вулька-1 Лунінецкага раёна.

# Доўгага веку старажылам!



Многія вёскі нашага раёна багатыя на збіральнікаў і захавальнікаў фальклорнай спадчыны ды старажытных рамёстваў. Зазвычай яны гуртуюцца ў сельскіх дамах культуры. Калі стварыўся аграгарадок, згодна з дзяржаўнай праграмай адраджэння вёскі, у Вульцы-1 быў рэканструяваны Дом культуры. Будынак значна змяніўся. Вяскоўцы падтрымалі ідэю аднаўлення народнай творчасці, падарылі цэнтру ткацкія станкі і дапаможныя прылады. Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама забяспечыла выдатным сучасным швейным абсталяваннем, што дазволіла выконваць нацыянальныя мастацкія вырабы на высокім тэхналагічным узроўні.

Кросны і машыны ажылі ў здольных руках народных майстроў. Тут можна ўбачыць тканыя вырабы Ніны Стасюк, прадзенне Надзеі Дуньчык, вышыўку Марыі Яраховіч. Майстрыхі вядуць цяпер гурткі для дзяцей. Іх захоплена наведваюць школьніцы Оля і Алеся Васілюк, Даша Гелец, Каця Мелюх, Аксана Яворская, Лера Стрэчань, Яна Багданец і Яна Герасімчук. Імкнуцца вышываць і хлопчыкі — Стас Корчык і Андрэй Багданец. Але асабліва папулярныя заняткі ў Ніны Васіленкі. Яна вучыць дзяцей ствараць мастацкае адзенне, спачатку спрабуючы пашыць яго для лялек.

Дырэктар Цэнтра культуры і народнай творчасці Вольга Мелюх лічыць, што да спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі яны ішлі больш як 20 год — з той пары, калі было створана аматарскае аб'яднанне "Жывіца":

— Людзі захоплена і мэтанакіравана збіраюць нацыянальную спадчыну нашага краю. Нам пашчасціла знайсці аднадумцаў, якія з'яўляюцца выдатнымі носьбітамі фальклору. Памяць аб продках — тых, хто законны зямны шлях, жыве ў песнях і абрадах, якія ў свой час, на шчасце, запісалі і цяпер выконваем. Заўсёды ўдзячны за ўдзел і парады, жадаем доўгага веку старажылам. Пра сямейны дуэт Шпакоўскіх — Ніну Сямёнаўну і Васіля Васільевіча — Беларускае тэлебачанне зняло відэафільм "3 песняй па жыцці". Гаспадыня — да таго ж і выдатная ткачыха. Яны прымалі ўдзел і ў здымках на БТ у Мінску, дзе наш калектыў паказваў вясельны абрад, выпечку каравая і "дзявочы вечар". Шмат твораў выконвалі самадзейныя спявачкі Вольга Салуйчык, Ганна Калешка, Агаф'я Багданец. Пераняты ад старажылаў спрадвечныя культурныя каштоўнасці і летась дапамаглі пацвердзіць "Жывіцы" званне народнага калектыву. Паказвалі абрад "Папрадухі" — гэта дзённыя жаночыя заняткі. А наогул у рэпертуары маем больш як сто самабытных песняў, стварылі гадавы цыкл народных абрадаў.

У Палацы Рэспублікі ў Мінску, дзе адбылася цырымонія ўзнагароджання, была адкрыта выстаўка твораў сёлетніх дыпламантаў. Увагу ўдзельнікаў урачыстасці прыцягнулі нацыянальныя сцэнічныя касцюмы і вырабы ткацтва, вытканыя майстрыхамі Вулькі-1.

Сваё захапленне працай залатых рук нашых землякоў выказалі многія, у ліку якіх міністр культуры Павел Латушка, дэпутат парламента Ларыса Вершаловіч, святары. Падзячныя словы Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха усяе Беларусі Філарэта прагучалі сапраўдным благаславеннем на далейшую працу.

Тацццяна КАНАПАЦКАЯ

На здымку: разам з дырэктарам Цэнтра культуры і народнай творчасці вёскі Вулька-1 Вольгай Мелюх высокую ўзнагароду ў Палацы Рэспублікі атрымлівалі Наталля Дударга, кіраўнік гуртка габелена і бацька, і самадзейныя артысты народнага аматарскага аб'яднання "Жывіца" Тацццяна Ільючык, Тамара Мікуліч, Ганна Лазько, Галіна Сыціна, Любоў Мельянец.

Фота аўтара

# Жывая газета дзяцінства



"Зорьку" без перабольшвання можна назваць равесніцай Вялікай Перамогі. Яшчэ не скончылася Вялікая Айчынная вайна, як у разбураным Мінску ў студзені 1945 года пачала выходзіць дзіцячая газета. 3 першых дзён існавання крэда выдання — несці дабро, прывіваць любоў да Радзімы, павагу да бацькоў, а таксама заставацца верным спаконвечным беларускім традыцыям. Зусім нядаўна "Зорька" адзначыла свой 65-ы дзень нараджэння. Больш падрабязна пра газету карэспандэнту "ЛіМа" расказала яе галоўны рэдактар Людміла ГРАМОВІЧ.

— Газета "Зорька" — па-сапраўднаму жывая газета. Дзеці ўспрымаюць яе і як старэйшага сябра, і як мудрага настаўніка, які заўсёды падкажа і дапаможа ў цяжкую хвіліну, і нават як добрую чараўніцу, што стварае сапраўдныя цуды. Журналісты рэспубліканскага выдання ў адказе за тое, "як наша слова адгукнецца". Якія б тэмы не ўзніміліся на старонках газеты, чытачы заўсёды тэлефануюць у рэдакцыю па прамой лініі, высылаюць водгукі на электронную скрыню, выказваюць свае меркаванні ў лістах.

— Дзеці любяць і давяраюць газеце?

— Безумоўна! Кожны год мы атрымліваем больш як тры з паловай тысячы дзіцячых лістоў, малюнкаў, прыгожых вырабаў з саломкі, дрэва, паперы. У газеты з'явіўся сайт, на якім мы зможам у большай колькасці выстаўляць дзіцячыя працы, рабіць інтэрактыўнае галасаванне, онлайнавыя гутаркі.

Выданне "Зорька" выпускае насценгазету, якую малююць самыя маленькія наведвальнікі рэдакцыі. Сённяшні яе памер перавышае сорак метраў. На пятніцах дзеці, аўтары шматлікіх публікацый, прыходзяць у рэдакцыю (бывае, што і па трыццаць-сорак чалавек), прыносяць свае малюнкі, вершы, апавяданні, гутараць з нашымі супрацоўнікамі. Калі ў кагосьці ўзнікаюць нейкія складаныя пытанні, ім заўсёды можа дапамагчы прафесійны псіхолаг, які працуе ў нас на дабрачынных пачатках.

"Зорька" — дзіцячая трыбуна для першых проб пяра таленавітых школьнікаў. Творчыя конкурсы нязменна збіраюць вялікую колькасць удзельнікаў — і нібыта самі сабою з'яўляюцца выставачныя экспазіцыі дзіцячых шэдэўраў, якія падарожнічаюць па ўсёй краіне і за яе межамі. Напрыклад, цяпер у Мінску з поспехам праходзіць выстава "Святыні Беларусі" нашых юных мастакоў-выхаванцаў народнай студыі "Раніца" Шашкоўскай школы мастацтваў Стаўбцоўскага раёна. Далей яна будзе падарожнічаць па раённых цэнтрах. Цудоўная экспазіцыя дзіцячых прац "Святыні Беларусі" ў мінулыя гады экспаніравалася ў выставачным павільёне аднаго з манастыроў вострава Кіпр. У Даніі, Германіі, Італіі, Швецыі падарожнічалі экспазіцыі дзіцячых малюнкаў і разнастайных, зробленых уласнымі рукамі вырабаў "Услаўляем любую Беларусь", і ў адрас рэдакцыі заўсёды прыходзяць шматлікія ўдзячныя водгукі ад прыхільнікаў самабытнай творчасці юных мастакоў, майстроў.

"Зорька" — гэта своеасаблівы масток паміж дзяцінствам і сталым жыццём. Мы вучым дабру не толькі дзяцей, але і ўсіх людзей. Наша газета быццам дапамагае свету дзяцінства ўступіць у свет дарослых, а свету дарослых — апынуцца ў свеце дзяцей.

Ёсць у нас і падпісчык, якому ўжо за восемдзесят! Гэта пастаянны аўтар нашага выдання, пісьменнік Уладзімір Мацвеенка. На старонках "Зорькі" ён вядзе клуб "Літаратурная гасцёўня": піша на роднай мове гумарыстычныя апавяданні, цікавыя загадкі, дзіцячыя вершы, а таксама з задавальненнем сустракаецца са школьнікамі.

— Як змянілася газета за апошнія гады?

— "Зорька" — адна з нямногіх рэспубліканскіх газет, якая ашчадна захоўвае традыцыі. Зразумела ж, выданне змяняецца з улікам патрабаванняў сучаснасці, але галоўная задача — прапаганда дабра, міласэрнасці — застаецца нязменнай.

Напярэдадні юбілею рэдакцыя наладзіла 65 разнабаковых творчых праектаў, дабрачынных акцый, конкурсаў, выстаў. Кожны месяц праходзілі выязныя майстар-класы "Майстэрня чараўнікоў", шырокі грамадскі рэзананс атрымалі дабрачынныя акцыі — творчы конкурс у падтрымку дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця "Дабрыней напоўнім свет!" і І Рэспубліканскі баль для дзяцей-калясачнікаў", якія праводзіліся сумесна з дабрачыннай арганізацыяй "Свет без межаў". Адбылося адкрыццё выставы дзіцячай творчасці "Героі казак Астрыд Ліндгрэн" і яшчэ шмат чаго.

Сёння ў газеце — цікавыя старонкі і рубрыкі: фотарэпартажы з заняткаў, тэматычныя для дзяўчынак і хлопчыкаў, пазнавальныя праекты мастакоўпачаткоўцаў, юных спартсменаў, аматараў прыроды.

— "Зорьку" выпісваюць толькі дзеці?

— Газета разлічана на школьнікаў 8 — 13-гадовага ўзросту. Але сярод нашых чытачоў нямала юнакоў і дзяўчат, якія выпісваюць яе і ў адзінаццатым класе, і ўжо нават студэнтамі. Выданне з задавальненнем чытаюць настаўнікі, бацькі, бабулі і дзядулі.

Мы публікавалі вытрымкі з аповесці Андрэя Федарэнкі "Тры талеры". Дзецям таксама вельмі падабаюцца апавяданні Сяргея Булыгі, Івана Юркіна, каляровыя коміксы, якія малюе Аляксандр Каршакевіч.

— Людміла Мікалаеўна, колькі слоў, калі ласка, пра планы…

— Як і раней, будзем выдаваць газету не толькі па-сапраўднаму цікавай і насычанай карыснымі публікацыямі, але і ажыццяўляць шматлікія, значныя для дзяцей творчыя праекты. Ужо выконваюцца дабрачынныя мерапрыемствы, прысвечаныя 65-годдзю Вялікай Перамогі, юныя чытачы ўзялі пад апеку ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Дапамагаюць ім па гаспадарцы, рыхтуюць у падарунак паштоўкі і самаробкі. Хутка абвясцім новыя творчыя конкурсы, плануецца экскурсіі і паездкі па краіне юнкараў.

У рэдакцыі працуюць самааддана, таленавітыя і неардынарныя журналісты, якія з задавальненнем пішуць для юных чытачоў і арганізоўваюць шматлікія мерапрыемствы, акцыі.

"Зорька" — гэта своеасаблівы штаб добрых канкрэтных спраў і міласэрных пачынанняў.

Гутарыў
Уладзімір ПАДАЛЯК
Фота аўтара

## Дзень пісьменства-2010: Хойнікі

# У «Крылаў» — шырокі прасцяг

## «Зялёная вуліца» для творчых людзей

Людзям творчай думкі на старонках хойніцкай раённай газеты — "зялёная вуліца": тут упершыню рабілі свае першыя крокі ў вялікую літаратуру Іван Мележ і Барыс Сачанка, паэты Мікола Мятліцкі і Ала Канапелька, паэт-песеннік Уладзімір Мазго.

На працягу больш як 20 гадоў рэгулярна, адзін раз у месяц, на старонках "Ленінскага сцяга", а цяпер "Хойніцкіх навін" выходзіць тэматычная старонка "Крылы". Рэдагуе яе журналіст з вялікім стажам работы, паэт, заслужаны журналіст Беларускага саюза журналістаў Уладзімір Далгалычанка. Праз яго душу і сэрца праходзяць вершаваныя і празаічныя радкі як пачынаючых, так і сталых аматараў слова, творчасць якіх даносіцца да шырокай чытацкай аўдыторыі.

Харастро роднай прыроды апявае ў сваіх вершах настаўніца Стралічаўскай сярэдняй школы Марыя Валасюк. Яна ж з'яўляецца тут кіраўніком школьнага гуртка "Паэтычнае слова", далучае да свету паэзіі вучняў, якія жадаюць паспрабаваць свае сілы ў напісанні вершаў.

Протаіерэй Пакроўскай царквы Уладзімір Козак піша вершы на праваслаўную, патрыятычную тэматыку, пра славянскае братэрства. Дасылае лірычныя замалёўкі хатняя гаспадыня, шматдзетная маці Зоя Шлег з вёскі Вялікі Бор.

На суд хойніцкага чытача выносяць свае творы былы журналіст "Гомельскай праўды", цяпер пенсіянер Мікола Старчанка, выкладчык з Віцебска Канстанцін Карнялюк, былы будаўнік, таксама пенсіянер, Дзмітрый Вінградаў, які пасля катастрофы на ЧАЭС пераехаў ва Узду Мінскай вобласці…

І гэта не поўны спіс аўтараў, творы якіх публікуюцца на літаратурнай старонцы раённай газеты. Сапраўды, у "Крылаў" — шырокі прасцяг.

Клаўдзія БОСАК

"На ўсход ад ракі, на адлегласці двух лётаў стралы, ёсць месца, адкуль Ілья-прарок быў узнесены на вогненнай калясніцы на неба. Там таксама знаходзіцца і пячора Іаана Хрысціцеля. Тут поўнай вадой цячэ крыніца, яна прыгожа цячэ па камені і ўпадае ў Іардан. Вада гэтай крыніцы сцюдзёная і вельмі смачная. Гэтую ваду піў Іаан Прадцеча…

Тут таксама ёсць і другая дзіўная пячора, у якой жыў Ілья-прарок са сваім чалавекам Елісеем… Даў мне Бог тры разы быць на Іардане, нават у самае свята Вадохрышча. Бачыў я благадаць Божую, якая сыходзіць апоўначы на іарданскія воды. І калі скажуць: "У Іардане хрышчуся, Госпадзі", то ўсе людзі кідаюцца ў ваду і хрэсцяцца апоўначы ў Іардане, як і Хрыстос хрысціўся…

Усё гэта я бачыў вачыма сваімі грэшнымі…"

# Промні над Іарданам





Так піша рускі манах Данііл, які ў 1106 годзе паломнічаў па Святых месцах Святой зямлі і Іардана.

Так, па волі лёсу і мы ўсёй сям'ёй стаялі ў спякотныя жнівеньскія дні на Прэабражэнне на тым самым месцы, дзе і адбылося хрышчэнне Госпада Ісуса Хрыста…

І, калі цяпер успамінаюцца тыя хвіліны, ізноў ходзяць па спіне мурашкі, валасы на руках падымаюцца дыба, і нешта творыцца ў сэрцы, такое, што хочацца ўсім слова сказаць, каб паверылі…

У "Галубінай кнізе" — старадаўніх рускіх народна-хрысціянскіх паданнях так гаворыцца пра святасць гэтага месца:

"Иордань-река
всем рекам мати.
Почему Иордань-река
всем рекам мати?
Окрестился в ней
сам Исус Христос
Со силою со небесною,
Со ангелами со хранителями,
Со двунадесятыми апостольми,
Со Иоанном, светом,
со Крестителем, —
Потому Иордань-река
всем рекам мати".

Гістарычна месца Хрышчэння называецца Віфар ці Віфанія, ад яўрэйскага "Бет-Абара" — "дом на пераправе", ці другі варыянт паходжання ад "Бет-Айнон" — "месца крыніцы". А знаходзіцца яно на глыбіні каля 400 метраў ніжэй узроўню сусветнага акіяна, на адлегласці пяці кіламетраў ад паўночнага берага Мёртвага мора. І такога дзівоснага месца няма больш на зямлі. Сама рака пачынаецца на вышыні 320 метраў на гары Хемрон, што знаходзіцца паміж Сірыяй, Ліванам і Ізраілем. Назва Іардана паходзіць ад слова "ярдэн", па-яўрэйску "спадаючы". І назва адпавядае рэчаіснасці. Іардан невялічкая рака: ад Ціберыйскага, ці Галілейскага, мора да Мёртвага сто пяцьдзесят кіламетраў. І на сваім шляху губляе амаль семсот метраў вышыні. Сапраўдная спадаючая горная рака. Але каля месца Хрышчэння на Віфары яна спакойная, ціхая, вузкая, шырынёй некалькі метраў. Ці можа стала такою Іардань-рака ад часу, ад разбуральнай дзейнасці чалавека за вякі?... А вада, зеленаватая, мо нават можна сказаць смарагдавая, як бываюць рэкі і азёры высока ў гарах.

Цяпер — яна мяжа паміж Іарданіяй і Ізраілем.

Вакол ракі — горы. Тут, дзе хрышчэнне было, — Іарданскія горы, на тым баку, на захадзе, — Палесцінскія і Ізраільскія.

Гэта — другая святая зямля для вернікаў, зямля тысячагадовых гісторый, пра якія апавядаюць і ў Біблії, і ў Каране. Абодва святыя Паданні — пра іарданскія мясціны. І духоўная спадчына Іардана — найбагацейшая для хрысціян, мусульман, яўрэяў.

Па гэтых землях сорак гадоў вадзіў Майсей свае плямёны. І на святой гары Неба (Нева) скончыў свой жыццёвы шлях. Гэтая гара бачна з месца хрышчэння Ісуса, а таксама і з гары можна ўбачыць Зямлю абетаваную. Кажуць, што, калі празрыстае неба, то бачны залатыя купалы Іерусалімскіх храмаў.

З гары Неба, за Іарданам, Іерыхонская даліна і сам Іерыхон, сцены якога калісьці развалілася ад трубных гукаў ізраільскага войска. Руіны старога Іерыхона сведчаць, што чалавек пачаў будавацца на гэтых землях каля восьмага тысячагоддзя да нашай эры. Сведкі таму — цэгла-сырэц, з якой будаваліся дамы, крэпасці і тыя самыя сцены, якія не вытрымалі вібрацый "трубных гукаў". На працягу сямі дзён гучалі трубы ў Іерыхонскай даліне, а па сутнасці ў яміне, бо вакол Іерыхона горы, горы і горы. І хто ведае, магчыма, дзякуючы рэху, якое набывала сілу ад такога магутнага трубнага гулу, утварыўся рэзананс, і рассыпаліся сцены.

Само паветра на гары Неба звініць горнай чысцінёй. З гэтай гары была паказана Майсею прастора, дзеля якой ён сорак гадоў вадзіў народ ізраільскі, каб выхаваць свабодных ад егіпецкага прыгнёту людзей. "І узышоў Майсей з раўнін Маавіцкіх на гару Нева, на вяршыню Фасгі, што супраць Іерыхона, і паказаў Гасподзь яму ўсю зямлю", "аб якой кляўся Аўрааму, Ісааку і Іакаву…" (Друг. 34:1-5) Там на гары Неба дзесьці магіла Майсея, але нікому невядома дзе яна. "І пахаваны на даліне ў зямлі Маавіцкай насупраць Веф-фегора, і ніхто не ведае месца пахавання яго нават да цяперашняга дня". (Друг. 34:6). Веффегор — месца каля гары Неба, дзе цякуць так званыя крыніцы Майсея. Гэта гара, дзе адбылася засведчаная Евангеллем спрэчка паміж Архангелам Міхаілам і д'яблам аб целе Майсея. Увесь час тут будаваліся храмы, манастыры, ахоўвалі яго на працягу вякоў. Цяпер на гары аднаўляецца хрысціянская місія. Ордэн францысканцаў атрымаў дазвол на правядзенне рэстаўрацыйных работ на гары Неба ў 30-я гады XX стагоддзя. Цяпер адбудоўваецца манастыр, царква, пасаджаны сасновы лес.

Кіламетрах у трыццаці ад месца Хрышчэння, уздоўж Мёртвага мора, развалiны палаца Ірада Вялікага, які зваўся Махерус. Гэта было, па сцвярджэнні Плінія, другое па моцы і прыгажосці месца пасля Іерусаліма. Іосіф Флавій піша, што палац Ірада ашаламляў сваімі памерамі і багаццем. У падземных кратах гэтага палаца сядзеў вязнем Іаан Хрысціцель. Як перадаць перажыванні ўсяго гэтага, калі стаіш паміж каменняў, якія помняць тыя падзеі?

Мы пабылі каля Галілейскага мора ў горадзе-музеі Гадары. Ён уваходзіў у рымскае Дзесяціграддзе — дзесяць гарадоў, якія аб'ядноўваліся ў адзіную абарончую сістэму на ўсходзе Рымскай імперыі. Рымскія калонады, якія цягнуліся некалькі кіламетраў, захаваліся вельмі добра. Брукаваная дарога. Амфітэатр з чорных камянёў, лазні, сады алівы і інжыры. Мы ішлі па цэнтральнай вуліцы уздоўж калон, у садах зрывалі спелыя смоквы (інжыр). Алівы яшчэ толькі наліваліся.

"Калі ўваскрэсну, буду раней за вас у Галілеі" (Мк. 14:28). Але да гэтага Ён хадзіў па гэтых водах, лавіў з рыбакамі рыбу, вучыў апосталаў, і тысячы людзей ішлі за Ім. І Ён прапаведаваў на адным баку мора, а потым пераплываў на другі бок, і там збіраліся людзі. Гэта тут адбылася гісторыя з беснаватым, які меў у сабе легіён бесаў. Калі пераплыў Хрыстос на другі бераг возера, то апынуліся ў краіне Гадарынскай. Каля горада Гадара. І там адбылося вызваленне хворага па слову Божаму.



Колькі разоў тут быў сам Настаўнік! Колькі разоў ад Іардана хадзіў у пустэчу, каб памаліцца ў адзіноце і набрацца моцы? Колькі разоў пераплываў Галілейскае мора? Гэта ўсё не толькі было, яно і засталося тут, насычана Яго словамі на арамейскай мове. Хто цяпер іх зразумее бы, каб і пачуў з прасторы, ад каменняў, ад садоў Яго Голас?

"Адбывалася гэта ў Віфары за Іарданам, дзе Іаан хрысціў" (Іаан. 1:28). Заіарданне — там дзе цяпер Іарданія, там дзе і прапаведаваў Хрыстос, калі ішоў у Іерусалім. Тут Ён абвесціў пра вечнасць шлюбнага саюза, заклікаў шанаваць бацькоў і любіць блізкага як самога сябе (Мф. 19:3-19). У гэтых мясцінах гучалі Яго прытчы, павучэнні і словы. (Мф. 19:24). І тут Ён перайшоў на Іерусалімскі бок, каб прыняць Свой Крыж. Але за тры гады да гэтага было Хрышчэнне ад Іаана.

Сапраўднае месца Хрышчэння было добра вядома ў першыя хрысціянскія вякі. У V стагоддзі пры візантыйскім імператары Анастасіі там была пабудавана царква.

Захаваліся звесткі, што каля месца Хрышчэння на Іардане пераходзілі паломнікі, і ад яго ішлі на каленях да пячоры Ільі і далей на гару Майсея (Неба). На каленях… Па каменнай зямлі…

Але з цягам часу зацiралася яно войнамі, перасяленнямі народаў, барацьбой за ўладу. Толькі пасля заканчэння вайны з Ізраілем у 1967 годзе стала магчыма даследаваць месца ля Віфара. У 1994 годзе пачаліся археалагічныя доследы. І было ўсё знойдзена. Усё з'ядналася: і знаходкі, і сведчанні ў запісах сярэднявечных пілігрымаў. Знайшлася пячора, дзе жыў Іаан. Яго царква, дзе хрысціў людзей. І тое, дзе пачалася Прапаведзь Збавіцеля, калі Ён прыйшоў да Іаана хрысціцца.

Усё тое месца — раўніна, выпаленая сонцам. Салёна на вуснах ад спякоты, самой зямлі, якая таксама салёная ад вод Мёртвага мора. Сама раўніна парослая тамарыскавымі дрэвамі (адзін з відаў кіпарысавых), пальмамі, зялёнымі кустамі. Спяваюць птушкі.

На камеры, якой мы здымалі, засталіся птушыныя спевы, расліны, гукі ад нашых крокаў, нашае дыханне, цішыня на месцы Хрышчэння і смарагдавая вада Іардана…

Багата Іарданская зямля на святыя мясціны. Тут, у Лісабе, месца нараджэння прарока Ільі. Тут у Анжары — месца ўшанавання Багародзіцы, царква і пячора, дзе спыняліся Ісус і Марыя з вучнямі ў час падарожжа па Іарданскім Дэкаполлі. Тут гара Пенуэл, на якой Іакаў змагаўся з Ангелам (Быц. 32:22-31). Тут дамавіна Прарока Ісуса Навіна. Тут, каля Мёртвага мора, пад попелам і каменнем — Садом і Гамора. Тут саляныя слупы, сярод якіх адзін — жонка Лота, якая парушыла забарону Госпада не азірацца. Тут магіла Аарона, брата Майсея. Тут пячора сямі отракаў, якіх абярог Гасподзь: яны заснулі, і праз некалькі вякоў Гасподзь іх разбудзіў.

Тут адзін з гарадоў Дзесяціграддзя Джараш, у якім цалкам захавалася больш чым двухтысячагадовая архітэктура. Храм Зеўса, храм Арцеміды, храм Дзіёніса, хрысціянскія цэрквы Св. Казьмы і Даміяна, Іаана Хрысціцеля, руіны сінагогі. Усе разам.

Яшчэ адна асаблівасць Джараша — Хрысціянскія цэрквы былі ўпрыгожаны мармуровымі мазаікамі. Мы хадзілі па руінах храмаў. У той час яны былі проста хрысціянскія, бо не было яшчэ ні каталікоў, ні праваслаўных, ні лютэранаў, ні гусітаў — усе жылі адной верай у Хрыста. Мы хадзілі па мазаічных падлогах. Дзе-нідзе прабівалася трава, высахлая ад спякоты. Паўразбураныя сцены, цэлыя і напалову паваленыя калоны…

Некалькі кубічкаў ад разбураных мазаік я паклаў сабе ў кішэню. А потым, у Аманскім музеі старажытнага мастацтва, дзе разам сабраны прадметы каменнага часу, канца Рымскай імперыі, сярод амфар, мумій, мармуровых скульптур, якія былі выраблены Дэдалам(!), сярод соцень прадметаў даўніны, мы ўбачылі мазаіку з хрысціянскага храма ў Джарашы. Пяты век нашай эры!

Хто думаў, што будзем на Іардане?

І мы, беларусы, былі на гэтых землях, бачылі ўсё гэта сваімі вачыма. Трымалі сваімі рукамі церніі, елі смоквы, якія Ева падавала Адаму ў райскім садзе. Разумелі, што праз гэтыя пяскі і горы ішлі валхвы, якіх вяла Новая зорка да Немаўляці. Абмываліся салёнай вадой Іардана, якая нясе ў сябе энергію Хрыста.

Там, на Іардані стаялі мы, а ў сэрцы гучалі словы малітвы: "Мы ідзём у святле вогнішчаў, мы ідзём у зязні зор, мы дойдзем у маленні духу, калі золата сонца ўспыхне ўнутры нас…" Ці не ад усходніх Мудрацоў, якія прынеслі дары Збавіцелю ідзе гэта маленне? Нішто святое не губляецца на зямлі. Іардан таму доказ. "Шукран табе, Іардан!" — Што па-арабску азначае: "Дзякуй".

Уладзімір ЛОБАЧ

На здымках: Святы Феадосій. Фрэска V ст.; храм Геркулеса. Аман. II ст. да Р.Х; месца хрышчэння Ісуса Хрыста на Іардане. Царква III ст.

Фота Алёны Ваўнейкі

У сапраўднага навукоўца не бывае пенсійнага ўзросту. Прафесар Міхаіл Булахаў і сёння не пакідае думак пра навуковую справу, дбае пра выданне сваіх прац. Людзі навукі рэдка становяцца вядомымі шырокай аўдыторыі, і мы нават не заўсёды ўсведамляем, што сярод нашых сучаснікаў — сапраўды легендарныя асобы. Імя Міхаіла Булахава ведаюць філолагі, педагогі, гісторыкі не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Яго даследаванні, акрамя нашай краіны, публікаваліся ў Расіі, Украіне, Польшчы, Балгарыі, Сербіі, ЗША і Германіі. Ён выступаў з навуковымі дакладамі на шматлікіх міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах, чытаў вучэбныя курсы ва універсітэтах многіх краін. Міхаіл Гапеевіч — аўтар звыш 300 артыкулаў у галіне беларускага і славянскага моваЗнаўства, больш як 20 асобных выданняў, кіраваў падрыхтоўкай 15 калектыўных навуковых прац і вучэбных дапаможнікаў. У ліку яго самых вядомых дасягненняў такія працы, як "Прыметнік у беларускай мове", "Восточнославянские языковеды. Биобиблиографический словарь в 3-х тт.", "Славянские языки: происхождение, история, современное состояние", "Опыт исторического словаря русской лингвистической терминологии в 5-ти тт.» ды іншыя.



# Лёсавызначальнае «Слова...»

Не люблю такіх "міжнародных" параўнанняў, але каб патлумачыць чалавеку, далёкаму ад моваЗнаўчага асяродка, хто такі Міхаіл Булахаў, можна сказаць, што для Беларусі гэта велічыня не меншая, чым акадэмік Дзмітрый Ліхачоў для рускай навукі. Тым больш, абодва вучоныя доўгія гады даследавалі адзін з самых цікавых старажытных твораў — "Слова пра паход Ігара". Кароткі энцыклапедычны слоўнік "Слова пра паход Ігара" ў літаратуры, мастацтве, навуцы" Міхаіла Булахава паставіў Беларусь у першы шэраг краін, дзе глыбока даследуецца гэты твор. Пра тое, як ствралася гэтая манументальная праца, і расказвае Міхаіл Гапеевіч у сваім інтэрв'ю "ЛіМу".

— Міхаіл Гапеевіч, як атрымалася, што гэты старажытны помнік літаратуры стаў галоўным "словам" вашага навуковага жыцця? Колькі гадоў вы займаліся яго даследаваннем? Якія адкрыцці былі зроблены асабіста вамі?

— "Слова пра паход Ігара" належыць да ліку літаратурных твораў, цікавасць да якіх з часам толькі ўзмацняецца і паглыбляецца. Створанае ў канцы XII стагоддзя, апублікаванае ў 1800 годзе, "Слова пра паход Ігара" набыло славу аднаго з самых геніяльных твораў. За 200 год пасля з'яўлення ў друку яно разышлося вялікімі і малымі тыражамі па многіх краінах свету дзякуючы праўдзіваму адлюстраванню гістарычных падзей, незвычайна яскравай паэтычнай форме і багаццю моўнастылістычных сродкаў. Пра вялізную папулярнасць "Слова" сведчыць тое, што яно са старажытнарускай мовы на новыя мовы народаў розных краін перакладалася каля 300 разоў, у гэты лік уваходзяць больш за 80 перакладаў на сучасную рускую мову, каля 30 — на ўкраінскую, 10 — на беларускую, каля 20 — на нямецкую і англійскую, больш за 10 — на французскую, польскую, 9 — на балгарскую, 7 — на чэшскую і іспанскую, 6 — на сербскую і харвацкую. Астатняя колькасць – гэта пераклады "Слова" на іншыя мовы народаў свету.

Са "Словам" я пазнаёміўся яшчэ ў даваенны час, калі быў студэнтам педагагічнага інстытута, а затым настаўнікам сельскай школы. Потым паступіў у аспірантуру МГПІ імя А. М. Горкага, спецыялізаваўся па гісторыі рускай мовы, і тады ўжо мне давялося чытаць лекцыі па гэтай дысцыпліне. Таму неабходна




было вывучаць розныя старажытнарускія пісьмовыя помнікі (летапісы, воінскія аповесці, дамовы, дзелавыя дакументы), у ліку якіх было і "Слова". У 1952 годзе газета "Советская Белоруссия" надрукавала мой першы артыкул, прысвечаны купалаўскім перакладам помніка на беларускую мову. Хтосьці з пісьменнікаў пазнаёміў мяне з Уладзіславай Францаўнай – жонкай трагічна загінуўшага ў чэрвені 1942 года народнага паэта Беларусі. Яна папрасіла мяне напісаць больш падрабязна пра гэтыя пераклады, што я з вялікім задавальненнем зрабіў, бо вельмі паважаў творчасць Янкі Купалы, ды і мая педагагічная і навуковая прафесія абавязвала працягваць лінгвістычнае даследаванне першадрукаванага тэксту "Слова" і перакладаў яго на ўсходне-, заходне- і паўднёваславянскія мовы.



На здымку: Міхаіл Булахаў з Мікітам Талстым, праўнукам Льва Талстога, заснавальнікам сусветна вядомай школы этналінгвістыкі (1965 г.)

Не люблю такіх "міжнародных" параўнанняў, але каб патлумачыць чалавеку, далёкаму ад моваЗнаўчага асяродка, хто такі Міхаіл Булахаў, можна сказаць, што для Беларусі гэта велічыня не меншая, чым акадэмік Дзмітрый Ліхачоў для рускай навукі. Тым больш, абодва вучоныя доўгія гады даследавалі адзін з самых цікавых старажытных твораў — "Слова пра паход Ігара".

Неабходныя матэрыялы я збіраў, працуючы ў бібліятэках, архівах, музеях Расіі, Беларусі, Украіны, знаходзячыся ў навуковых камандзіроўках у Балгарыі, Славеніі, Германіі, перапісваючыся з вучонымі Македоніі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, наведваючы майстэрні відных мастакоў-ілюстратараў помніка літаратуры ў Ленінградзе, Маскве, Кіеве, Мінску, рыхтуючы фота- і ксеракопіі яго выданняў, адшукваючы партрэты словазнаўцаў і перакладчыкаў. І такім чынам да сярэдзіны 70-х гадоў у мяне ўжо была назапашана значная колькасць каштоўных матэрыялаў, якія вырашыў сістэматызаваць і надрукаваць пакуль што на пішучай машынцы. Параіўшыся з вучонымі ў Ленінградзе і Маскве наконт таго, што рабіць далей, вырашыў рыхтаваць нешта падобнае да энцыклапедыі "Слова пра паход Ігара".

У кастрычніку 1984 года я чытаў лекцыі па рускай мове і славістыцы ў Патсдамскай Вышэйшай педагагічнай школе (ГДР) і там арганізаваў канферэнцыю, прысвечаную 800-годдзю літаратурнага помніка. У верасні 1985 года мяне камандзіравалі на Усесаюзную юбілейную канферэнцыю ў Яраслаўль. На ўсякі выпадак я захапіў з сабой машынапісны тэкст падрыхтаванага энцыклапедычнага слоўніка і ў вагоне цягніка Масква — Салікамск паказаў яго акадэміку Д. С. Ліхачову, які таксама ехаў на гэтую канферэнцыю. Ён папрасіў пакінуць яму рукапіс на некаторы час для азнаямлення з яго зместам. Калі я зноў падышоў да яго, пачуў: "Як мага хутчэй здавайце ў друк". Д. С. Ліхачоў парэкамендаваў звярнуцца да члена-карэспандэнта Акадэміі навук Л. А. Дзмітрыева, каб той пагадзіўся быць навуковым рэдактарам маёй працы. Вярнуўшыся ў Мінск, я адвёз у выдавецтва "Універсітэцкае" рукапіс энцыклапедыі, але друкаванне ішло марудна — не было высакаякаснай паперы для шматколернага друку ілюстрацый. Нарэшце, праз чатыры гады кніга выйшла ў свет. Зразумела, гэта было для мяне радаснай падзеяй. Адразу ў нашай краіне і за яе межамі сталі з'яўляцца станоўчыя водгукі на кнігу, што натхняла мяне на далейшае даследаванне розных праблем, звязаных з гэтым дзівосным літаратурным творам. Я рыхтаваў новыя працы, імкнуўся высветліць тое, што заставалася мала ці зусім не даследаваным іншымі вучонымі. Аналізуючы мову і стыль "Слова пра паход Ігара", мне ўдалося ўдакладніць значэнне лексем з зацемненым сэнсам кнѣсь і цвѣлити, якія атрымлівалі неадназначную інтэрпрэтацыю перакладчыкаў твора.

— У вашым слоўніку шмат матэрыялаў прысвечана менавіта перакладам твора. У чым спецыфіка перастварэння старажытнага тэксту? Сярод усіх перакладаў "Слова" на беларускую мову, які найбольш імпануе вам?

— Больш за ўсё мяне цікавяць семантычныя адрозненні лексікі славянскіх перакладаў параўнальна з лексікай арыгінала. Выбар лексічных сродкаў залежыць як ад нацыянальнай спецыфікі семантычных сістэм кожнай з сучасных славянскіх моў, так і ад індывідуальнага светапогляду і эстэтычнай арыентацыі таго ці іншага перакладчыка. Лінгвістычнае даследаванне перакладаў помніка на родныя славянскія мовы — задача вельмі важная, паколькі без гэтага немагчыма меркаваць пра ступень змястоўнай і мастацкай адэкватнасці перакладаў арыгіналу. Адзначу, што параўноўваць тэксты існуючых славянскіх перакладаў з дайшоўшым да нас спісам арыгінала помніка вельмі цяжка і адказна: цяжка з-за мноства перакладаў розных тыпаў — навуковых, літаратурных (празаічных і паэтычных), тлумачальных, вольных, стылізаваных. Адказнае — таму, што трэба кіравацца больш-менш строгімі прынцыпамі вызначэння ступені адэкватнасці намінатыўных і вобразных сродкаў моў, якія параўноўваюцца. Трэба тонка адчуваць семантычныя і экспрэсіўна-эмацыянальныя адценні лексікі славянскіх моў, якая выкарыстоўваецца пры перакладзе, на першы погляд, простай, а на самай справе даволі складанай структуры старажытнага тэксту.

А адносна якасці існуючых беларускіх перакладаў помніка скажу, што перавага належыць празаічнаму перакладу Янкі Купалы (1919 года), хоць у ім ёсць дробныя недахопы.

— "Слова пра паход Ігара" — загадкавы і шматпланавы помнік літаратуры. Сёння існуе некалькі версій пра яго аўтарства і час стварэння. Якія з іх вам бліжэйшыя, а якія, наадварот, падаюцца абсалютна неверагоднымі?

— Пытанні аўтэнтычнасці, часу стварэння і аўтарства "Слова" я асобна не разглядаў, паколькі віднымі вучонымі ўжо даказана, што твор гэты быў напісаны сучаснікам падзей на Русі канца XII стагоддзя, чалавекам, які не пабаяўся расказаць пра хцівасць "власть имущих", мысліцелем, які прадбачыў развал Кіеўскай дзяржавы з-за нясупыннай барацьбы князёў за ўладу.

P.S. Асабістая Славіяна ў жыцці навукоўца працягваецца. Сёння Міхаіл Гапеевіч працуе над новай кнігай, у якую ўвойдуць першадрукаваны тэкст "Слова" на старажытнарускай мове, рэканструкцыя старажытнага тэксту А.Патабні, а таксама пераклады твора на 12 славянскіх моў — рускую, украінскую, верхнелужыцкую, польскую, славацкую, чэшскую, балгарскую, македонскую, сербскую, славенскую, харвацкую. Па-беларуску твор будзе апублікаваны ў перастварэнні Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Івана Чыгрынава. Да таго ж, плануецца падаць у кнізе тлумачэнні слоў і выразаў, аналіз перакладаў на новыя славянскія мовы асобных месцаў тэксту "Слова".

Саша ДОРСКАЯ

Кароткая біяграфія. Міхаіл Гапеевіч Булахаў — доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Нарадзіўся ў сяле Маслакі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Вучыўся на літаратурным факультэце Магілёўскага падінстытута. Працаваў настаўнікам Дулебненскай школы Клічаўскага раёна. З 1940 года служыў у Чырвонай Арміі. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Прыбалтыйскім, Заходнім, Калінінскім і Першым Украінскім франтах. У 1946 годзе паступіў у аспірантуру пры МДПІ, але асноўную лінгвістычную падрыхтоўку атрымаў у Ленінградскім аддзяленні АН СССР. З 1948-га, яшчэ з'яўляючыся аспірантам, працаваў асістэнтам, выкладчыкам, старшым выкладчыкам, з 1949 года – загадчыкам кафедры рускай мовы МДПІ, а з 1952-га — старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела сучаснай мовы ў Інстытуце моваЗнаўства АН БССР. З 1965-га па 1974-ы год загадваў кафедрай рускай мовы і агульнага моваЗнаўства БДУ, затым — гэтай жа кафедрай МДПІ (з 1993 года — БДПУ). У 1990 — 2005 годы з'яўляўся прафесарам кафедры гісторыі і тэорыі моваЗнаўства БДПУ. Быў навуковым кіраўніком 33 аспірантаў, кансультаваў 5 дактарантаў. Яго ўдзел у баях на працягу чатырох гадоў вайны і навукова-педагагічная дзейнасць у НАН Беларусі і універсітэтах адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі.



Пісьменніцкі вопыт Сяргея Трахімёнка, чалавека шматграннага і цэльнага, падаецца самадастатковым. Ягоныя кнігі не растлумачваюць чытачу тыя ці іншыя рэчы — празаік, быццам прафесійны тапограф, дакладна і ў той жа час размашыста пазначае буйныя і дробныя, але характэрныя рысы свядомасці і дзейнасці нашых сучаснікаў. Адчуваецца, што аўтар многае ведае пра кожны прадмет, персанаж, месца, якія наносіць на сваю карту-тэкст. Чытач сочыць за сюжэтам, за прыватнымі рэчамі, пісьменнік жа глядзіць на падзеі ды асобы як бы зверху — не з прычыны пыхлівасці, а ў сілу адмысловай учэпістасці ды панарамнасці зроку.

# Гульні, памяць і веснавая вада

Персанажаў у яго, як азёраў ды паселішчаў, надзвычай многа, яны змяняюць адзін аднаго, і ў кожнага сваё месца, псіхалагічна і лагічна вызначанае пісьменнікам. Гэтыя героі і звязаныя з імі падзеі складваюцца ў адну дынамічную і драматычную карціну, намаляваную шырокімі графічнымі штрыхамі. Гэта менавіта графіка — то вуглём, то чорным алоўкам пакінуты канкрэтныя сведчанні пра наша быццё.

Мастацкія тэксты часцей за ўсё ацэньваюцца ў сістэме крытэрыяў пэўнага эталоннага стылю. Аднак у дадзеным выпадку я выступаю найперш з пазіцый уважлівага чытача, мне хочацца зразумець ядро пісьменніцкай асобы. Роздумна-шматзначныя інтанацыі юбілейнай рэцэнзіі-партрэта супярэчаць крыху жорсткаму тону твораў С. Трахімёнка, млявасць у якіх прынцыпова адсутнічае.

У ранніх "Грузе нябесным" ды "Дванаццатым апостале", выдыхнутых з напружаным болем, пісьменнік разважае пра матывацыю дзейнасці чалавека ў будзённых умовах арміі: напрыклад, што можа быць унутраным стымулам для зладжанай працы, для свядомых паводзінаў салдат будаўнічага батальёна? як дамагчыся эфектыўнага кіравання?.. Героі гэтых аповесцей запамінаюцца па ключавым выразе ("ёсць слова "трэба") і па дакладна-цынічных высновах маладосці: "Сіла байца сілы і таму апранае свой страх у строі любові, шанавання, лісліваcці. Яна і любіць да той пары, пакуль байца. Мяняецца расстаноўка сіл — куды знікае любоў?".

Героі С. Трахімёнка, як і сам аўтар, не ўнікаюць малацілкі часу: піянерска-камсамольская актыўнасць, захапленне феерычнай літаратурай Аляксандра Грына, вулічна-падлеткавыя канфлікты, святая вера ва ўсё, "што прамаўлялася, а тым больш пісалася"; паступовае ўсведамленне падвойнага дна ў лозунгаў ды заклікаў 1960-х — 1970-х, таго, што на ідэалагічных штампах "трымалася ці павінна трымацца сістэма поглядаў на ўсё, што адбываецца навокал". Пры вынік — набыццё панцыра, калі перастаюць адчувацца, адзначае адзін з персанажаў, чужыя боль, бяда, крыўды, абразы. Пачынаюцца настойлівыя трэніроўкі цела і духу — трэба выжываць, жыць, і жыць моцна, па-сапраўднаму, па-мужчынску адказваць за тое, што адбываецца. Так узнікае эфект нібыта адчужанага назірання за жорсткай рэчаіснасцю. Аднак за гэтай быццам нейтральнай фіксацыяй фактаў схаваны глыбокі прагматычны аналіз сучаснасці, заснаваны і на асабістым вопыце чалавека, што аддаў шмат сіл абароне дзяржаўных інтарэсаў, і на веданні сусветнай сацыялогіі, геапалітычных канцэпцый з іх кухняй улады… Перакрыжаванне разнастайных граняў у творах аўтара абвастрае праблемы грамадскай адказнасці. Адсюль сацыяльная якасць твораў С. Трахімёнка і іх публічнае жыццё.

Так, у "Дыялектыцы гульні", сімбіёзе палітыка-публіцыстычнага і гістарычнага раманаў, апісаны час звядзення палітычных рахункаў, шквалу заказных палітычных забойстваў, часу, калі вырасла новае пакаленне забойцаў ды наёмнікаў — у адпаведнасці з жыццёвым попытам… Аўтар сабраў вялікі фактычны (дакументальны) матэрыял, увёў у тэкст буйныя фігуры надзённай расійскай палітыкі, паказаў іх сістэму каштоўнасцей, выпісаў, па сутнасці, нейкае батальнае палатно (алюзія вялікай шахматнай дошкі), амаль сцэнарый палітычнага серыялу пра падзеі ў Расіі канца XX — пачатку XXI стагоддзяў.

Тэма гульні, бясспрэчна, ключавая для аўтара: часта згадваюцца "кар'ерныя гульні", "гульні-інтрыгі", "правілы гульні крыміналу", "элітарныя гульні ў праекты" і г.д. Нарэшце, "дыялектыка гульні вызначае самі правілы, а таксама час ад часу іх змену…Правілы гэтыя самі па сабе не розначаныя на абарону таго, хто гэтыя правілы не выконвае". Перыпетыі рамана выклікаюць у памяці серыю "Капрычас" Ф. Гоі: "Свет — гэта маскарад… Усе хочуць падавацца не тым, чым яны ёсць, усе падманваюць, і ніхто сябе не ведае". Гульні, ярмарка пыхлівасці, баязлівасць, двурушніцтва, жорсткасць, сумленнасць, годнасць — усё перамяшанае, як у жыцці. Дэталі аповеда красамоўныя, аднак рэзкіх, прамых ацэнак няма: аўтар не навязвае чытачу сваю ідэалагічна ангажаваную схему чытання. У гэтай кнізе С. Трахімёнак паказаў сябе пісьменнікам, здольным не толькі выбудаваць каркас тэксту, але і структураваць яго кампазіцыю, эфектна падтрымліваць напружанасць інтрыгі. Вядучыя лініі рамана — справядлівасць і нацыянальная бяспека. Яны псіхалагічна замешаныя на пачуцці рэальнасці галоўнага героя. У памяці застаюцца хуткасць рэакцыі гэтага чалавека (альтэр эга аўтара), адсутнасць навязлівага пафасу, дыдактычнасці і дагматызму ў меркаваннях, жыццёвасць, унутраная сіла, стойкасць, пачуццё гісторыі. У шматслойным жанры "Дыялектыкі гульні" выяўляецца і пэўная доля рамана выхавання — як і ў аповесці "Пятля Морбута", ці Спадар Ніхто", што нядаўна пабачыла свет.

> "Пятля Морбута" — твор не столькі пра спорт, колькі пра боль і пра лёс. Вобраз трэнера атрымаўся перакананаўчым таму, што паказаны ў надзвычай складанай калізіі, у момант здрады з боку партнёра, калег, жонкі, калі фальш адчуваецца асабліва востра. Гэтай кнігай С. Трахімёнак прыцягвае ўвагу да праблемы нядобрасумленнай канкурэнцыі ў спорце, паказвае, што "тыя якасці, якія спорт выпрацоўвае і якія неабходныя на памосце, рынзе і г.д., у жыцці прыносяць выродлівыя плады", што неабходна мяняць сітуацыю, дзейнічаць не толькі хутчэй, вышэй, мацней, але і больш сумленна, разумна, адказна.

Пры ўсёй вастрыні тэмы, адлюстраванай у "Дыялектыцы гульні", гісторыя пра знакамітага трэнера Івана Крыжа, які працуе ў жаночай гімнастыцы, падалася мне больш моцнай у эмацыйным сэнсе: кнігу прачытала залпам, хаця я зусім не належу да аматараў, так бы мовіць, спартыўнай літаратуры. Аднак, "Пятля Морбута" — твор не столькі пра спорт, колькі пра боль і пра лёс. Вобраз трэнера атрымаўся пераканаўчым таму, што паказаны ў надзвычай складанай калізіі, у момант здрады з боку партнёра, калег, жонкі, калі фальш адчуваецца асабліва востра. Гэтай кнігай С. Трахімёнак прыцягвае ўвагу да праблемы нядобрасумленнай канкурэнцыі ў спорце, паказвае, што "тыя якасці, якія спорт выпрацоўвае і якія неабходныя на памосце, рынзе і г.д., у жыцці прыносяць выродлівыя плады", што неабходна мяняць сітуацыю, дзейнічаць не толькі хутчэй, вышэй, мацней, але і больш сумленна, разумна, адказна. Пісьменнік, як і трэнер, ведае, што галоўнае ў асобе — гэта якасці, што пастаноўка мэтаў у значнай ступені вызначае характар і лёс чалавека. Фінал кнігі выкананы ў звыклай для празаіка лаканічнай манеры: пакідаючы горад, Крыж бачыць, што "каля чыгуначнага палатна ўзвышаецца піраміда з юных гімнастак"… Перачытваеш гэтае месца ў кнізе і адчуваеш, як перахоплівае горла і доўга не адпускае. Таму што — праўда, таму што — пра сапраўднае.

Шчырае стаўленне С. Трахімёнка да любімых заняткаў — даследчай практыкі, спорту, а таксама панарамнасць зроку забяспечваюць яму ўвагу чытачоў, прычым вельмі розных. Яго мову, графічную, лаканічную, разумеюць усе. Ад твора да твора аўтар шліфуе дакладнасць назірання, пры дапамозе лёгкага штрыха можа перадаць характар персанажа, напружанасць сітуацыі. Ён не схільны пафасна выкрываць наваколльнае бязладдзе, але дакладна разумее пертурбацыі свайго часу, суадносячы яго ўдачы і паражэнні са сваім унутраным культурна-генетычным кодам. Дзеля ўлучанасці чытача ў гэтую зону і працуе пісьменнік.

Думаю, патэнцыял творчага мыслення Сяргея Трахімёнка такі, што не толькі нядаўнія падзеі, але і будучыня (магчыма, праз дэталь, пакуль для нас незаўважную) прыадкрыюць для яго свае тайны. І хочацца спадзявацца, што наступныя сумленныя, рызыкоўныя, прагматычныя, але захапляльныя гульні прынясуць пісьменніку новыя выйграныя пазіцыі, новыя вялікія, прыгожыя і мудрыя перамогі.

Імклівая цячэ абноўленая веснавая вада паўз высокі бераг.

Таццяна САВІНСКАЯ

## Калонка Алы Брадзіхінай

# Паляванне на апошнюю жанчыну



Выхад новага твора нязменна выклікае шэраг рэфлексій, звязаных з (пера-)асэнсаваннем ранейшай мастацкай практыкі пісьменніка. Імя аўтара, як правіла, задае кантэкст успрымання кнігі, бо само па сабе з'яўляецца "брэндам" для дасведчанага чытача. Свядома ці не, ён разлічвае на ўжо знаёмы спосаб адлюстравання жыццёвых рэалій у адносінах да праблематыкі, жанравай структуры, стылёвага афармлення думкі і інш. У гэтым сэнсе новая аповесць Алеся Жука "Жанчына на пляжы" ("Нёман", 2009, №3) прыхільнікаў таленту пісьменніка, магчыма, пакіне ў разгубленасці.

Гаворка тут ідзе не пра эфект няспраўджанага чакання. А.Жук у творы застаецца верным прынцыпам псіхалагічнага рэалізму, а таксама з ранейшым майстэрствам адцяняе дзеянне і характары персанажаў пейзажнымі элементамі, умела канкрэтызуе-дэталізуе тэкставую рэальнасць. Здаецца, мастацкія дамінанты аўтара не змяніліся. Але…

Здзіўляе аповесць трактоўкай вобраза жанчыны. Яе непрывабнае аблічча не можа не ўразіць. Беларускае прыгожае пісьменства, прынамсі рэалістычнага напрамку, заўсёды вылучалася ўзвышэннем і нават іканізацыяй вобраза жанчыны. У гэтым сэнсе аповесць А. Жука супрацьстаіць як усталяванай нацыянальнай традыцыі, так і папярэднім творам самога аўтара. Нечакана не тое, што асобы слабога полу надзяляюцца негатыўнымі якасцямі — здзіўляе канцэпцыя. Сярод паўтара дзесятка жанчын у аповесці не знойдзецца, бадай, ніводнай станоўчай гераіні. Аднак значнасць фемінінай тэмы засведчана ўжо ў назве твора.

Закручаны крымінальны сюжэт аповесці, у аснову якога пакладзены фінансавыя махінацыі на адным з заводаў, ускладняецца загадкавай смерцю жонкі і мужа Валогіных, разбэшчанымі любоўнымі ўцехамі п'янай кампаніі (якія, дарэчы, толькі сціпла ўпамінаюцца ў творы, хаця і становяцца пачаткам страшнага клубка падзей) і далейшым шантажом-стужкай з запісам оргіі. Галоўным злачынцам і ўвасабленнем самой заганнасці выступае буфетчыца Анюта Церахава. Яе воля, халодны розум у спалучэнні з поўнай адсутнасцю маралі дазваляюць гераіні лёгка кіраваць людзьмі дзеля наталення прагі нажывы. Яна рэгулярна здраджвае свайму "прыдебиленному" палюбоўніку Фёдару Бурцаву, без усялякай рэўнасці дапамагае Валогінай пазбавіцца ад ненароджанага дзіцяці. Выкрыццё злачынцы агаляе яе злавесную сутнасць: "Она же Санько, а теперь Савина. Две судимости. Развратные действия против несовершеннолетних и шантаж". Фёдар, хоць напачатку ўспрымаецца адмоўным персанажам, хутчэй з'яўляецца шараговым антыгероем ці нават ахвярай. Гэты фізічна моцны і інтэлектуальна неразвіты, амаль непісьменны, чалавек на фоне Церахавай, якую, відаць, па-свойму кахае, выступае бляклым ценем (чым не новая інтэрпрэтацыя вобразаў гандляркі і паэта?).

Не менш экстравагантна выглядаюць у аповесці і другарадныя жаночыя вобразы. Гэта і аматарка выпіць і майстра мацюкацца "бестолковая" Валогіна; і старая, на падпітку, прыбіральшчыца з вульгарнай ухмылкай; і абыякавая да праблем падначаленых Ларыса Анатольеўна; і бабуля-пляткарка, якую ўсё жыццё лупцаваў муж "за доўгі язык"; і лянівая "камандзірка"-буфетчыца, якая заняла месца Церахавай, ды іншыя. Нарэшце, былая жонка галоўнага героя Дэмаша Лена таксама характарызуецца не лепшым чынам: "Привыкла командовать и давать указания. Есть женщины, которые не могут, чтобы не командовать, хотя бы мужем и детьми. И они не будут счастливы, пока им будет казаться, что они не добились своего, что все в жизни вращается вокруг них". Яе прыход да хворага "экс-супруга" ў бальніцу трактуецца ім як паказное высакародства, а другое замужжа — як жаданне ад новага шлюбу матэрыяльных выгодаў.

Дапушчэнне, што апісаныя вышэй жаночыя персанажы ў структуры твора выпадковыя, у адносінах да такога вопытнага пісьменніка, як А. Жук, не апраўдана. Улічваючы схільнасць аўтара да выкарыстання розных форм мастацкай умоўнасці (вобразы Апошняга Жураўля, Чорнага павоя), дапытлівы чытач лёгка расшукае раскіданыя па тэксце метафары і сімвалы. Да такіх абагульнена-абстрактных знакаў належаць вобразы, якія ўспрымаюцца героем з дыстанцыі і падаюцца, так бы мовіць, адным радком: вясёлыя дзяўчынкі-падлеткі на арэлях, тры юныя спартсменкі на байдарках, нарэшце, таямнічая незнаёмка на пляжы. Калі першыя два асацыятыўна звязаны з настальгіяй па маладосці, то апошняя з'яўляецца персаніфікаваным увасабленнем адзіноты. Верагодна, галоўнае ў аповесці не дэтэктыўная інтрыга і не ідэя дэградацыі грамадства, а стомленасць і самота немаладога ўжо мужчыны, які пакутліва чакае апошняга шанцу знайсці такую ж, як і сам, адзінокую душу.



Васіль МАКАРЭВІЧ

## Зімовая сімфонія

### Бясснежжа

Шаноўны Ямал,
Як ад сполаху ўскрыкнуўшы,
У нябёсы, да зор, аблавушку падкінь!
І снегу, а хоць бы і нават у скрыначцы,
На адрас мой спешна па дружбе падкінь!

Не раз у тайзе
Я хадзіў з ураганамі,
Што толькі ўзвіхурыць магла Калыма.
А сёння запарыўся я на Сурганава, —
У сталіцы зімы не было
І няма.

Магчыма, жыццё
Больш не вабіць аседлае
Зіму, як гарэзу, што з вечных гарэз.
Хацеў матлянуць
я пад Вільню суседнюю,
Ды снегу з марозам і там —
У абрэз.

Гавораць, — парошы,
Як вапны, на Браншчыне.
І пробы высокай — упэўнены будзь!
Ды там жыхары яе шчыра аблашчылі,
І пільна, як скарб, кожны міг
Берагуць.

А ў нашых, як цеста,
Раздрузлых абэлтухаў —
Пра дробных чаляднікаў што і казаць! —
Не крылле мяцеліц, а рваныя мэтлахі
Хапіла умення ў вятроў
Заказаць.

— Я думаў, дуброва
Пад свята нядзельнае
На ветры не будзе нудзець сіратой.
Ды небам ізноў мы дарэшты абдзелены
Каторы ўжо год на снягоў
Сырадой?

Жыву, як на звалцы,
Ці дымным пажарышчы,
Сярод галавешак, вуглёў, чарнаты.
А дрэвы галлём, аж ад рання пужаючы,
Скрыпяць і гундосяць,
Нібы чараты.

У пушчы сава
Ці пугач недзе вухкае,
Сарокі трашчаць, бы спраўляюць імшу.
Так хочацца снегу птушынага, пухкага,
Што вока лагодзіць і студзіць
Душу.

Завея, відно,
У Запаляр'і дзесь поўзае,
І тундру заносіць па бровы амаль.
А, можа, снягі ты адправіш, як з позваю,
У нашу сталіцу, шаноўны
Ямал!

### Бліны

А ледзь запахне бліннаю —
І ўспомняцца млыны.
Ах, пульхныя былінныя
На Масленку бліны!

Б'е параю пякельнаю
Ажно ў паднеб'е столь.
Ляцяць амаль з патэльняю
Бліны на ёмкі стол.

Ад Мінска і да Харкава,
Ля сосен і бяроз,
Зноў з Масленкай-кухаркаю
Шчыруе дзед Мароз.

Каля Расіі з Латвіяй,
Дзе возера пітва,
Блінамі голад латала
Хіба адна Літва?

Бліны і мы раскатвалі.
Да Омскіх кедрачоў.
Зноў цеста рве экватары
Жалезных абручоў.

У парку а ці скверыку,
Дзе ў інеі кляны,
Сядай за стол, Амерыка,
Ды паспрабуй бліны!

Няхай без сваркі класавай,
Што коціць пад адкос,
З далёкім Санта Клаусам
Падружыць Дзед Мароз.

Для госця-парыжаніна,
Пад навіссю галін,
Усхопіцца, бы ўджалены,
З патэльні шустры блін.

Парк ажно ходзіць ходырам,
Глытае смакату.
Збівае з курсу водарам
Над ім у небе ТУ.

Тут з песняю, там з чаркаю —
Зімовы балаган.
Дзень, на бліны з мачанкаю,
Як трэба налягай!

А дзяцел барабаншчыкам
Б'е ў фраку нарасхліст.
Мароз цярнецца ў плашчыку,
Як сквапны аферыст.

Гракі ў сасне з каронаю
Тырчаць, бы калуны.
Як слаўна са скаромінай
І ўсмак ідуць бліны!

Гадзіна дня з паловаю,
Бліноў вакол, бы крыг.
Сталіца запалонена, —
Бліновы ў нас бліц-крыг!

Нібы паперы лісцікі, —
Хапай хутчэй, грабі! —
Танюткія налісніки —
Дзяржаўныя гербы!

2009 год



Мікола СІСКЕВІЧ-НАРАЧАНСКІ

Сябрам і аўтарам нашага выдання Мікола Сіскевіч-Нарачанскі з'яўляецца даўно, з 1958 года. Асобнымі выданнямі выйшлі зборнікі яго публіцыстычных нататак і нарысаў на культурна-асветніцкую тэматыку "Людзям — ад усёй душы", "Да нас прыходзіць свята", "У памяці народнай", "Парк над Бугам", "У святле народных традыцый". Рыхтуе да выдання кніжкі вершаў "Зорны сейбіт" і "Куслівыя прысмакі". 4 лютага Міколу Сіскевічу-Нарачанскаму споўнілася 75 гадоў. Рэдакцыя тыднёвіка "ЛіМ" зычыць паэту і публіцысту здароўя і творчых поспехаў.

## Ахвяравальная замова

Да чаго дажыўся?
Лічбы сем і пяць,
Цяжка ўсе адразу
Гучна вымаўляць.

Каб не меў я сёння
Тых сямі, пяці, —
Плёўся б непрыкметна,
Сумна па жыцці.

Як збяруцца двойчы
Тыя сем і пяць, —
То мяне прыходзьце
Дружна віншаваць.

О-о-о! Тады, напэўна,
Будзе што сказаць!
Трэба мужна гэты
Ранак прычакаць…

## Снежаньскае святло

Зіма за ноч вялізнай стала.
На жытніх гонях, на лугах
Бялюткіх васьмярнёў наслала,
Якія патаемна ткала,
Каб упрыгожыць снежны шлях.
Жыццё натхнёна заспявала,
Прыемна з чысцінёй дружыць,
Бо новых дзён даўно чакала…
Зіма спагадна пажадала
Здзяйсненні светлымі зрабіць.

## Намалюйце кут бацькоўскі

Не шкадуйце, не шкадуйце
Пекнай фарбы, мастакі.
Кужаль сінім загрунтуйце,
Дом сялянскі намалюйце
З весніцамі да ракі.

Намалюйце і лужочак,
Красак ліпеньскіх красу
І падстрэшкавы куточак,
Дзе пастукваў малаточак,
Як кляпаў маю касу.

Хай з пагорка б'е крынічка, —
Побач аднавіце храм
З прыдарожнаю каплічкай,
Ён пад божай зоркай-знічкай
Узвышаўся колісь там.

Краявід жывым малюйце
І світальнаю парой
Сэрцам радасна адчуйце,
На карціне адлюструйце,
Як азёрны б'е прыбой.

Промні сонейка злавіце
І пад пошчак салаўёў
Па мядовым аксаміце
На світанні пахадзіце
З поўным кошыкам грыбоў.

Ёсць блакіту шмат на небе,
Ды яго больш — на зямлі.
Маляваць пейзаж так трэба,
Каб цвіла ўраджайна глеба,
Роем лёталі чмялі.

У адной карціне гэтай
Увасобце лета пах,

Водар лугу, зорнасць кветак
І сунічны смак ранетаў,
Бохан хлеба на руках;

Як красуе ўлетку жыта,
Рыба лашчыцца ў вадзе.
Вам хачу сказаць адкрыта,
Што такога каларыту
Больш не ўбачыце нідзе.

Кроўны кут бацькоў шануйце,
З вамі ён няхай жыве,
Беражыце і шкадуйце,
Аднаму яму шчыруйце, —
Ён дадому ўсіх заве.

Трэба, каб настрой узняты
Для яго ўслаўлення быў,
Край наш лепшых песняў варты,
Вам пра гэта і не ў жарты, —
Клічам сэрца гаварыў.

Для Радзімы не шкадуйце
Ні жыцця, ні пекнаты.
Вобраз вы яе мілуйце,
З сонцам вечным асэнсуйце, —
Ён для нас — абраз святы!



Фота Наталлі Кандрашук



Галіна ЗАГУРСКАЯ

* * *

Бывае, тое прамільгне,
Што ўжо здавалася забытым, —
Як бы маланкаю ў імгле
Асвеціць момант перажыты.

То апячэ-узварухне
І раны новыя залечыць,
То зноў напомніць аб віне:
Часцей – сваёй,
а часам – нечай.

То ўспыхне дзіўна неўпрыкмет
Хвіліна шчасця трапяткая,
Калі п'яніў мядовы цвет,
Калі не зналі, што спаткае...

Гады нястомныя ляцяць,
Ды толькі ўсё трымае памяць,
Каб успамінам апякаць
І паўяртаць пачуццяў замець.

* * *

Апусціў вечар вейкі —
Засынае зямля,
Толькі птушачкі нейкай
Чуцен голас здаля.

І скрыпіць яна доўга —
Можа, нешта баліць?
І яе голас стогнам
Знекуль стомна ляціць.

...Вечар вейкі замружыў —
У дрымоце зямля,
І палоніць, і кружыць
Стомны покліч здаля.

## Пад белаю поўняй

Ноч серабрыцца
пад поўняю белай,
Што сярод воблакаў
сумна плыве.
Восень празрыстая
стала ўжо спелай
І на свае раздарожжы заве.

Як надалей ад таго,
што трывожыць,
Як надалей ад усіх і ўсяго...
Думкі ж пакутныя
вяжуць-трыножаць:
Многа сабрана
прад Небам даўгоў.

Ты не хвалюй мяне,
белая поўня!
Лепш мы напішам
з табой палатно,
Дзе цёплых фарбаў
у восені поўна, —
Будзь жа са мною
хоць ты заадно.

## Слязінак сляды

У лесе асеннім ледзь чутна
Злятае ў дрымоце лісцё.
Празрыста вакол і магутна,
А думкі бягуць пра жыццё.

Настаў, пэўна,
час для прызнання,
Што многае ў небыць сплыло...
Час роспачы і пакаяння:
Нямала памылак было...

Іду па ледзь бачнай сцяжыне,
Іду я цяпер, як тады...
Ужо і не коле ажына,
На тварзы ж —
слязінак сляды.

# У нас такое прымавіско…



Вольга РУСІЛКА

## Я ўспамінаю…

Берушты – вёска на берагах ляснога возера і млява-спакойнай рэчкі Котры –мясціна надзіва прыгожая і багатая гісторыяй. Па афіцыйных звестках, ёй звыш пяці стагоддзяў (у 1496 годзе тут быў падпісаны прывілей аб наданні Гродну Магдэбургскага права), па некаторых ускосных гістарычных сведчаннях – звыш васьмі… Вядома, што тут некалі была паляўнічая рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх, і бліжнія хутары захоўваюць пра тое памяць: Зубраўка, Воўчыя Ямы, Засада… Праз лес, які тут кругом, – літоўскія Кабялі ("Кобеляй" афіцыйна); сорак кіламетраў, з якіх пятнаццаць бездарожжа, як да абласнога Гродна, так і да раённага Шчучына… Мясціна не сказаць каб глухая, але запаведная. Натуральна, што для мяне лепшай быць не можа: тут стагоддзямі жыў род майго бацькі – – "чаваны" па-вясковаму, тут і сёння стаіць будынак бальніцы, дзе я нарадзілася, тут прыгажэе стараннямі майго брата бацькоўская хата, у якой чакаюць мяне старыя тата і мама… У эйфарыі рэдкіх вяртанняў з далёкай і халоднай Віцебшчыны мне ўсё здавалася непарушна шчаслівым, як у дзяцінстве, толькі зрэдчасу ў свядомасць заходзілі навіны: зачынілі бальніцу, хтось з суседзяў, настаўнікаў, а апошнім часам і аднакласнікаў, памёр… Але два гады таму адбылася падзея, якая і прымусіла мяне ўзяцца за гэтыя запісы, – закрылася Берштаўская школа, што верай і праўдай адпрацавала больш як сто сорак гадоў і месцілася ў шляхетным, амаль стогадовым будынку. І раптам стала ясна – вёска памерла. Не, тут нават павялічваецца колькасць жыхароў – за кошт дачнікаў і аселых чужынцаў, але амаль няма тых, хто спрадвеку жыў родамі "грэгераў", "ёськавых", "храноўскіх", "матулечкавых", "парамкоў"… Яны ўсе "ёсць" у Гродне і ў вялікім свеце, а тут – у большасці жывуць чужыя. І раптам схамянулася не адна я – адзін за адным на ганку зачыненай школы сталі збірацца на сустрэчы выпускнікі ўсіх гадоў – нават пяцідзесяцігадовай даўніны. Людзі пры пасадах і ўзнагародах, дзесяткі кандыдатаў навук… Нават сайт у Інтэрнеце адкрылі — выпускнікі Берштаўскай школы. Людзі, каму ў большасці не трэба тлумачыць тутэйшыя выслоўі, за якімі цікавыя гісторыі, зусім невядомыя для прышлых… Фразы, пра якія мая светлай памяці бабуля Гандзя гаварыла: "У нас такое прымавіско…". Каб гэтыя залацінкі не згубіліся, я іх проста павінна запісаць.

## За такое калыханне…

Паважанай у вёсцы фельчарцы Арцёмаўне, якую і пасярод ночы падымалі да хворых дзяцей, шчыра спачувалі: нашых малых лечыць, а у самой сынок ці не нямы — у тры гады толькі "дай", "на", дый то з вялікай неахвотай. Аднойчы стомленая маці закалыхвала малое – плеценая з лазы люлька была пачэплена да столі на крук. Ды, засынаючы, збілася з казкі і рэзка тарганула вяроўку. Малы "нямко" сеў і выдаў фразу сур'ёзна пакрыўджаным голасам:

— За такое калыханне лепш зусім не калыхаць!

І з гэтай хвіліны пачаў гаварыць не менш і значна разумней за сваіх равеснікаў.

## Мініяцюры

## Файно, от файно

У дзядзькі Банэдыка талака — заканчваюць будаваць хату. Самы адказны момант — кроквы ставяць. Хлопцы наверсе, а дзядзьку далі даручэнне: сачыць, каб было роўна. А ў суседскім гародзе цётка Марылька поле грады і, вядома ж, спінай да суседа. Хлопцы зверху з усёй адказнасцю пытаюцца:

— Ну, як дзядзька Банэдык?

А той неўласцівым для сябе мройлівым голасам:

— Файно, от файно…

## Драстуйце, таварыш Шама!

Стары Ладык Паўлюкевіч, які "за польскім часам" быў у Берштах войтам (між іншым, род "войтавых" і сёння не зводзіцца), вызначаўся выключнай выхаванасцю і ветлівасцю. Вітаючыся першым з кожным, нават з п'яніцам ці лайдаком, заўсёды здымаў з сівенькай галавы шапачку і доўга глядзеў чалавеку ў вочы. Асабліва імкнуўся дагадзіць вясковай інтэлігенцыі, у тым ліку і новым, савецкім настаўнікам, такім, скажам, як не надта ласкавы да людзей Вашкевіч, якога дзеці баяліся і за дэфекты дыкцыі звалі "Шама". Ён, відаць, таксама баяўся, каб дзеці не смяяліся з яго вымаўлення, таму і "ціснуў" іх вышэй меры. У час яго выхаваўчых "наездаў" малыя маглі са страху міжволі і малую патрэбу справіць. "Шама-шама…" — шамацела па доўгім школьным калідоры, калі ішоў грозны Вашкевіч.

Пасля аднаго з асабліва ўдалых урокаў стомлены педагог выйшаў на вуліцу і сустрэўся з Ладыкам Паўлюкевічам, які ў звыклым паўпаклоне, цярэбячы шапку, ветліва і з выключна выразнай дыкцыяй выгукнуў:

— Драстуйце, таварыш Шама!

Шамавы вочы ажно пабялелі…

## Давальны склон

Раённае начальства ў савецкія часы вельмі любіла бываць у Берштах: і накормяць, і грыбоў, ягад, рыбы ў дарогу дадуць. Але берштаўскі калгас, якога няма ўжо дзесяткі гадоў, заўсёды быў па ўсіх зводках на апошніх месцах: пры дзівоснай прыгажосці мясціны тут абсалютна неўрадлівыя, курортныя, пясок — як на прыморскіх балтыйскіх дзюнах. Таму начальства ездзіла звычайна ў школу, якая славілася сваімі перамогамі на рэспубліканскіх і ўсесаюзных алімпіядах і конкурсах. Настаўнікі, трэба сказаць, тут спрадвеку былі вельмі моцныя. Добрым словам можна ўспомніць многіх, але адзін прыклад самы яскравы – тут пачынаў сваю прафесійную і навуковую дзейнасць доктар філалагічных навук, выдатны мовазнаўца і выключнага таленту педагог Іван Якаўлевіч Лепешаў, стваральнік тутэйшага школьнага краязнаўчага музея. Словам, "праверкі" ў школе былі частыя і прымалі іх з правінцыйным размахам: банкет, канцэрт, танцы. Без канцэрта нельга — берштаўцы ўвогуле пявучыя, а жанчыны асабліва: жаночая група, якой кіраваў таленавіты музыкант яшчэ дарэвалюцыйнай высокай адукацыі Уладзімір Русілка, мела статус народнага калектыву і спявала а капэла творы дзівосна чыстага акадэмічнага шматгалосся. Каб такое паслухаць, і з рэспублікі прыязджалі, а ўжо для "праверкі" дык абавязкова… Але ж спявалі ў калектыве не адны настаўніцы, а ў вёсцы бабы занятыя — хто ў лесе, хто ў гародзе. Сабраць калектыў няпроста, а марку школы трэба трымаць. Выручала прыбіральшчыца Райка — жанчына моцнага аптымізму, пачуцця гумару і, нягледзячы на не вельмі строгія жаночыя паводзіны, адметнай душэўнай чысціні і чалавечнасці. Райка выдатна спявала, прычым рэдкім і прыгожым "чацвёртым" голасам (другім альтам). Перад прыездам загадчыка раённага аддзела адукацыі ёй было загадана называцца настаўніцай (ну не хіміі і не фізікі, каб не трапіць у няёмкае становішча, а што прасцей — беларускай мовы). "Праверка" (у мяне асацыяцыя з Бядулевай "енаральнай парапіцай", калі хто помніць) адбылася на адкрытых уроках, на канцэрце, на банкеце, і нарэшце — танцы. Падвесялелую Райку запрасіў на танец загадчык райана і, думаючы, што яна настаўніца роднай мовы, папытаўся:

— А чаму вы звязалі свой лёс з беларускай мовай? Што вам у ёй асабліва падабаецца?

Пасмялелая Райка падміргнула начальніку:

— Давальны склон!

## Кілаграм пакуты

А гэта гісторыя часоў нашай апошняй гарапашнай беларусізацыі. У адзіным тутэйшым "універсаме" працавала, як заўсёды, заезджая прадаўшчыца. Некалі былі тут асобна і прадуктовая, і прамтаварная, і гаспадарчая крамы, і закусачная — "гандэлак", па-берштаўску звонка і ёміста, але магазіншчыцы заўсёды былі "чужыя", ехалі ў Берушты ахвотна, бо і месца цудоўнае, і замуж іх бралі чамусьці ў першую чаргу. Выйшаўшы замуж, дзяўчаты хутка станавіліся "сваімі" і гаварылі, як усе, па-беларуску. Але спярша, "да таго", вядома, філалагічнымі здольнасцямі мала хто вызначаўся. А ў пачатку 1990 гадоў было сказана ясна: цэтлікі на тавар напісаць па-беларуску. Аднойчы раніцай бабы з бліжніх хутароў у магазіне ледзь не абамлелі, прачытаўшы чорным па беламу напісанае: 1 кілаграм пакуты — 92 капейкі.

Толькі потым разабраліся – магазіншчыца хацела перакласці на беларускую мову "килограмм муки", глянула ў руска-беларускі слоўнік і вычытала: мука — пакута. Дзе ж ёй ведаць, што трэба звяртаць увагу на націск...

А "прымавіско" "кілаграм пакуты" і сёння па Берштах гуляе…

Алесь ПАПЛАЎСКІ

# Невымоўнае

Навошта людзям памяць? Навошта ім гэты цяжар, без якога можна абысціся? Навошта?..

Адказ на гэтае рытарычнае дзіцячае пытанне ты шукаеш даўно, кожны раз, калі жыць робіцца немагчыма ад дакучлівых вар'яцкіх думак, калі сімбіёз мінуўшчыны і рэчаіснасці — існае пекла. Ты разумееш, што гэты "монстр" прысмактаўся да цябе неадчэпна, нібыта заразлівы энцэфалітны клешч; што пазбавіцца табе ад яго самастойна, без хірургічнага ўмяшання, немагчыма. Але ты ўпарта нечага чакаеш. Ты спадзяешся на цуд, ты баішся прызнацца сабе, што насамрэч табе падабаецца гэты духоўны мазахізм, што ты атрымоўваеш ад гэтага ўнутранага болю пэўную асалоду, без якой тваё жыццё — не жыццё…

— Навошта людзям памяць? — чапляешся ты са сваім наіўным, дурным пытаннем да прахожых. На цябе пазіраюць скоса, як на вар'ята. Табе здзекліва ўсміхаюцца. Цябе абыходзяць бокам. І толькі адзін чалавек — п'янтос альбо бабыль з суседняй кватэры — сумна ўздыхае і шчыра выказвае сваю вар'яцкую версію:

— Каб плакаць па начах… Ува сне. Ад пяшчоты…

Цябе не здзіўляе адказ гэтага сталага і стомленага жыццём чалавека. Ты пачуў тое, што хацеў пачуць. Верагодна, вам сняцца аднолькавыя сны. Бо ночы, перакананы ты, — час для таго, каб пазбаўляцца ад слёз. Употай, каб ніхто не западозрыў у тым…

Табе было амаль пятнаццаць, калі ты ўпершыню закахаўся. Ёй — дваццаць адзін. І яна цябе не кахала. У яе быў хлопец і ты шчыра зайздросціў яму. Ён наведваў яе кожны вечар, прыязджаў на "Яве". А потым яны ехалі некуды ў ноч. Надоўга. А ты чакаў. Ты на нешта разлічваў. Пэўна, яе шматабяцальныя ўсмешкі, якімі яна цябе неаднойчы адорвала, і былі для цябе той моцнай п'янкой анестэзіяй. Скуль табе было ведаць тады, што ўсё гэта толькі гульня, у якую ты не ўмееш гуляць. Бясспрэчна, нашы ўяўленні – самая жахлівая рэч у свеце. Але… Гэты ўтульны, дагледжаны дворык побач з домам, дзе яна жыла, быў для цябе сапраўдным рэанімацыйным пакоем. І ты быў сталым хранічным яго пацыентам. Ты жыў ілюзіямі. Табе здавалася, што яна пакідае расчыненым акно наўмысна, дзеля таго, каб ты мог забірацца ў пакой і чакаць. На што ты быў здольны яшчэ, акрамя як чакаць? Неаднойчы ўпотай ты прабіраўся да яе дома і падоўгу сядзеў там, тулячыся і ўслухоўваючыся ў наваколъную цішыню. Іншы раз табе шанцавала. Сярод мноства вечаровых пахаў, ты лавіў і п'янкія пахі парфумы. Гэта былі яе пахі. Ты нутром адчуваў гэта. Ты быў перакананы ў тым. І аднойчы не стрымаўся. Залез да яе ў пакой, праз расчыненае акно. Пачынала світаць, і яна магла з хвіліны на хвіліну вярнуцца. Але цябе гэта не спыніла. Ты забраўся да яе ў ложак і доўга ляжаў там, занурыўшыся ў мяккую пярыну. Да рэчаіснасці цябе вярнула далёкае і агіднае вурканне матацыкла. Так, то былі яны. Ты дачакаўся. Ты падхапіўся з ложка і, як ашалелы, кінуўся подбегам да вакна. Вярнуўся. На пісьмовым століку, ля радыёлы, ляжалі вінілавыя кружэлкі. Ты выбраў адну з іх. З яе здымкам. Такія кружэлкі былі модныя на той час. Іх можна было запісаць у любым салоне гуказапісу. Але цябе не цікавіла тое, што было на ёй запісана. Цябе цікавіў здымак. Яе здымак. Яго ты будзеш берагчы ўсё жыццё, як рэліквію. І гэты крадзёж, першы і апошні ў тваім жыцці, стане тым учынкам, за які табе потым ніколі не будзе сорамна. Табе пашанцуе. Ты выбярэшся з пакоя незаўважна. Проста ёй будзе не да цябе. Міне час. Ты перарасцеш гэтае сваё першае захапленне. І ўсё ж, усё астатняе жыццё так і будзеш слухаць адну і тую ж песню. Пакутліва-сапраўдны голас спявачкі будзе зноў і зноў вяртаць цябе ў тую далёкую мінуўшчыну:

О, сизокрилий птах,
Згубився шлях
твій у житах.
Даремне вітер переймав —
тебе вже нема…

Будзеш слухаць і плакаць у сне… Ад пяшчоты…

# Заслаўскія варыяцы

Дзесяць гадоў таму ў старажытны і легендарны горад Заслаўе прыйшло свята, што вызначылася ў гісторыі айчыннай культуры як першы фестываль новага тысячагоддзя. Ініцыятарам яго правядзення стаў, як вядома, заслужаны калектыў Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам. Заслаўскае музычнае свята, падтрыманае мясцовай, раённай ды абласной уладамі, развівае свае традыцыі ды захоўвае галоўную ўласцівасць: здзіўляць новымі радаснымі ўражаннямі... Зноў зіма, і чыстае снежнае покрыва атуляе гэты запаветны гістарычны куток беларускай зямлі. І зноў, нібы радкі на чысты белы ліст, кладуцца на старонку новага дня свежыя ўражанні, папаўняючы сімвалічны заслаўскі альбом, у якім назапашаны ўжо многія сотні радкоў фестывальнага летапісу, безліч фотаімгненняў... Што пакіне ў гэтым альбоме юбілейнае свята "Заслаўе-2010"?












I

Дзень пачынаўся з музыкі. У зале Заслаўскай дзіцячай школы мастацтваў сабраліся юныя таленты Міншчыны, іх бацькі ды педагогі. Другі год запар тут ладзіўся канцэрт-конкурс, у назве якога сканцэнтраваны і высакародны сэнс, і глыбокае патрыятычнае прызначэнне гэтай падзеі: "Беларускі альбом". Самыя розныя па часе напісання, па жанры і стылі, але выключна беларускія інструментальныя творы гучалі ў выкананні навучэнцаў дзіцячых музычных школ сталічнай вобласці.

Як іграюць "заручоныя з музыкай" дзеці, які мастацкі вобраз імкнуцца яны ствараць, трымаючы ў памяці ўрокі настаўнікаў і перададольваючы хваляванне падчас публічнага (ды яшчэ і конкурснага!) выступлення, — гэта заўсёды навіна і непаўторнасць. А вось пытанне "Чыя старонка ў сёлетнім "Беларускім альбоме" атрымалася найбольш яркай?" засталося рытарычным. Узнагароды атрымалі ўсе ўдзельнікі канцэрта-конкурсу, бо яго задача — не падзяляць юных выканаўцаў на лідэраў і аўтсайдэраў, а падтрымліваць іх цікавасць да роднай беларускай музыкі, заахвочваць любоў да мастацтва, развіваць творчыя схільнасці.

І толькі ў кулуарных размовах з настаўнікамі дзяцей ці з іх бацькамі спрактыкаваныя спецыялісты раілі асаблівую ўвагу звярнуць на тых вучняў, чый відавочны талент дае падставу для паглыбленых і ў далейшым прафесійных занняткаў музыкай.

II

Як натхнёна, прачула граў Струнны квартэт Нацыянальнага канцэртнага аркестра: Алена Драко, Антаніна Казлова, Віялета Герман, Аляксандра Зебрына... Ва ўлонні чарадзейных мелодый арганічна ўспрымалася наступная падзея фестывальнага дня — прэзентацыя кнігі "У сядзібе Рагнеды". Нашы чытачы ўжо ведаюць, што яе аўтар і ўкладальнік, нязменны навуковы кіраўнік, вядучая і каментатар фестывальных праграм доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава нагадала, сярод іншага, пра значэнне музычна-асветніцкага руху ў малых беларускіх гарадах, запачаткаванага творчым калектывам пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга (гл. "ЛіМ" за 5 лютага 2010 г.).

Дарэчы, арганізатары, удзельнікі, госці свята "Заслаўе-2010", не згаворваючыся, падкрэслівалі, што галоўны набытак фестывальнага дзесяцігоддзя ў гэтым горадзе — выхаваная, дасведчаная публіка. Многія, на той час даволі юныя, слухачы першых імпрэз цяпер прыходзяць у залу разам са сваімі маленькімі дзеткамі.

Усцешна, што знаёмства месцічаў з адроджанай беларускай музычнай даўнінай, са спадчынай айчынных кампазітараў ХХ стагоддзя, заходнееўрапейскай і рускай класікай, з узорамі сучаснай акадэмічнай творчасці працягваецца, робіцца традыцыяй для маладога пакалення і добрым знакам пераемнасці высокай культуры. І асяродкам гэтай пераемнасці з'яўляецца Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў, якая адзначае сёлета сваё 50-годдзе. Таленавіты калектыў педагогаў на чале з дырэктарам Валерыем Шкурскім узгадаваў сотні выпускнікоў, многія з якіх сталі прафесійнымі музыкантамі. Адметная школа і сузор'ем разнажанравых выканальніцкіх калектываў, у складзе якіх — і выкладчыкі, і навучэнцы...

III

Паслухаць, як спяваюць і граюць заслаўскія таленты, маглі ўсе, хто завітаў на фестывальныя вернісаж. У фае школы мастацтваў (а часткова — у мясцовым палацы культуры "Світанак") разгарнулася маляўнічая экспазіцыя "Заслаўскія краявіды" — выстаўка пейзажаў Віктара Данілава, жывапісца і педагога, які пару гадоў таму пакінуў сталіцу і перасяліўся ва ўлюбёныя заслаўскія мясціны. У яе адкрыцці ўдзельнічалі старшыня Заслаўскага гарвыканкама Ніна Бухавец, колішні мэр гэтага слыннага мястэчка, натхняльнік першых фестываляў Валянцін Сітнік, прафесар БДУ культуры і мастацтваў Уладзімір Рынкевіч, дырэктар гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе" Мікалай Паграноўскі... А яшчэ — дырэктар аб'яднання "Свет фота", стваральнік першага ў гісторыі Беларусі музея фотаапаратаў і кіраўнік (таксама першага ў нашай краіне) Міжнароднага маладзёжнага фотапленэру ў Заслаўі Віктар Суглоб, які падараваў музею-запаведніку падрыхтаванае ім унікальнае выданне — "1200 савецкіх фотаапаратаў".

IV

Цэнтральнай святочнай падзеяй стаўся вялікі канцэрт, які ўспрымаўся як своеасаблівая жывая анталогія беларускай музыкі XVIII — XXI стагоддзяў. Толькі ўявіце: праграма складалася з твораў Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды, Міхала Клеафаса Агінскага, Мечыслава Карловіча, Міхала Ельскага, Мікалая Аладава, Анатоля Багатырова, Яўгена Глебава, Генрыха Вагнера, Льва Абеліёвіча, Пятра Падкавырава, Дзмітрыя Смольскага, Уладзіміра Саўчыка... Падрыхтавалі яе камерныя калектывы, што працуюць у складзе вялікага аркестра (ці, як яго вобразна называюць, "малой філармоніі"): Ансамбль кларнетыстаў на чале з Генадзем Забарам; Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах (кіраўнік Іван Брычыкаў); трубачы "Інтрады" (кіраўнік Мікалай Волкаў); рамантычныя флейты (кіраўнік Раман Ветраў); Струнны квартэт, вакальны ансамбль з дырыжорам Наталляй Міхайлавай, Струнны аркестр і яго маэстра Валерый Сарока.

Для слухачоў гэты канцэрт быў як падарунак з мноствам сюрпрызаў, сярод якіх — і выступленне артыстычнага кантрабасіста-віртуоза, музыканта аркестра Дзмітрыя Саўчыка ў тандэме з выдатным канцэртмайстрам, піяністкай Дашай Мароз, і сола скрыпачкі Алены Драко з родным аркестрам, і акапэльнае гучанне раманса Міхала Клеафаса Агінскага...

Увечары Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі ды яго салісты — эстрадныя спевакі падаравалі жыхарам Заслаўя праграму "Лепшыя песні". За дырыжорскім пультам быў натхнёны чараўнік — маэстра Міхаіл Фінберг...

Распавядаць пра музыку можна доўга, ды лепш яе слухаць. Думаю, у гэтым пераканаліся ўжо ўсе, каму пашчасціла спрычыніцца да штогадовых і непаўторных заслаўскіх святаў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: уручэнне мастацкаму кіраўніку свята, народнаму артысту Беларусі Міхаілу Фінбергу прэміі Мінскага аблвыканкама; Струнны аркестр і салістка Алена Дракo; "Інтрада" буйным планам — трубач Міхаіл Казлоў; заслаўскія музыкі.

Фота Віктара Кавалёва

## Радуемся разам

### Джаз без межаў

Тры зімовыя мінскія вечары ў кампаніі Біг-бэнда Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і з удзелам замежных музыкантаў — традыцыя даўняя. Сёлета яна пацвердзіла сваю папулярнасць ужо 21-ы раз! Зладкаваны калектывам знанага аркестра пры падтрымцы Мінскага гарвыканкама ХХІ міжнародны музычны праект "Мінскі джаз-2010" парадаваў публіку разнастайнымі ўражаннямі. На працягу двух вечароў Біг-бэнд з вакалістам Юрыем Селязнёвым прадстаўляў прэм'ерную праграму "Джаз ХХІ стагоддзя". Вялікая імпрэза пад назвай "Джаз без межаў" уключала выступленні зорак з Расіі (гітарыст Аляксей Кузняцоў, піяніст Леанід Вінцкевіч, саксафаніст Мікалай Вінцкевіч) ды ЗША (ударнік Джоэл Тэйлар ды бас-гітарыст Кіп Рыд). Падчас фэсту прайшла і штогадовая цырымонія ганаравання намінантаў на прэмію "Лепшы джазмен года".

### Улюбёнца публікі

3 аншлагам прайшла ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М.Горкага вечарына "Сунічная паляна Расціслава Янкоўскага". Імпрэза прысвячалася 80-годдзю Расціслава Іванавіча — улюбёнца публікі, выдатнага майстра сцэны, народнага артыста СССР. У гэты вечар элегантны, маладжавы, натхнёны юбіляр паўстаў перад публікай самім сабою, але... трошачку ў вобразе настальгічна і па-філасофску настроенага прафесара са спектакля "Сунічная паляна" паводле І. Бергмана. Маналог Акцёра працінаі ўспаміны, развагі пра тэатр і чалавечае жыццё; гучалі ўзнёслыя словы афіцыйных і сяброўскіх віншаванняў, адрасаваных герою вечарыны, а ў зале сярод захопленай публікі прысутнічалі вядомыя прадстаўнікі творчай дынастыі Янкоўскіх, якія з'ехаліся ў Мінск на свята свайго шаноўнага і роднага чалавека.

### Новы вернісаж

Здаецца, зусім нядаўна пісалі мы пра выстаўку "Зачараваныя...", што праходзіла ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча і прадстаўляла серыю партрэтаў, створаных Аксанай Аракчэевай. І вось — новы вернісаж мастачкі: у будынку Пасольства Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь адкрылася экспазіцыя "Між Мінскам і Прагай...", якая ўключае каля 20 графічных і жывапісных выяў вядомых людзей нашай краіны ды замежных, у тым ліку чэшскіх, дыпламатаў. Усе гэтыя партрэты-вобразы А.Аракчэева стварыла за апошнія тры месяцы. Паглядзець выстаўку можна да 8 сакавіка.

### Прэм'ера «забытых» твораў

Сёння а 14-й гадзіне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў адбудзецца прэм'ера канцэртнай праграмы з твораў заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, кампазітара і педагога Пятра Падкавырава. Гэтая імпрэза, прымеркаваная да 100-годдзя з дня яго нараджэння, працягвае цыкл праграм Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, скіраваных на вяртанне ў нашу музычную прастору забытай творчасці айчынных кампазітараў ХХ стагоддзя. Музыка П.Падкавырава прагучыць у выкананні камерных калектываў Нацыянальнага канцэртнага аркестра. З асветніцкім каментарыем выступіць доктар мастацтвазнаўства В.Дадзіёмава.

Падрыхтавала Лана ІВАНОВА




## Слова краязнаўцы



Ілья Лапато з Мінска разважае над праблемай аднаўлення архітэктурнай спадчыны:

Краязнаўствам займаюся ўжо не першы год. Пачыналася ўсё яшчэ са школьных гадоў. Якраз тады на летніх вакацыях у бабулі (в. Засвір Мядзельскага раёна) я пачаў збіраць звесткі пра руіны каталіцкага кляштара. Кармеліты "абутыя" ўваходзілі ў чацвёрку буйнейшых манаскіх ордэнаў, якія пражывалі ў Вялікім княстве Літоўскім. На беларускіх землях было 22 сядзібы гэтага ордэна, Засвірскі кляштар у тым ліку. Сёння кармеліты старажытных правіл у Беларусі не працуюць, пра іх нагадваюць закінутыя і нікому не патрэбныя руіны.

Увогуле, пра ўсю беларускую гісторыю варта было б распавядаць з большым запалам, чым гэта робяць цяпер. Спытайцеся ў любога беларуса пра Мірскі замак, Палац Радзівілаў ці Сафійскі сабор. Пра гэтыя помнікі архітэктуры, хоць і не шмат, але ведаюць хоць нешта. Нават калі і не бываў там ні разу, дзякуючы газетам і Інтэрнету пазнаць гэтыя помнікі на фотаздымках не цяжка. А як быць з руінамі замкаў, цэркваў, касцёлаў і кляштараў, якія не прыведзеныя да належнага стану – не адрэстаўраваныя? Чаму ў большасці выпадкаў яны застаюцца занядбанымі як знешне, так і інфармацыйна?

Турыст ніколі не даведаецца пра іх, калі мы самі не будзем займацца папулярызацыяй гэтых ведаў. Паглядзіце навокал – у Беларусі такіх гістарычных каштоўнасцей ледзь не ў кожнай вёсцы. А ці ведаем мы пра іх хоць што-небудзь? Выключна краязнаўцы робяць вялікую працу, па крупінках вяртаючы старонкі, на якія ўсе забыліся.

Стаіць сёння ў руінах і Засвірскі кляштар. Глядзіш на іх і здаецца, час спыніўся. Нібыта сама гісторыя падказвае табе – пакуль не стала зусім позна – шукай, даследуй, распавядай. Каб не паўтарылася такая самая гісторыя, як з кляштарам у Бярозе-Картузскай, каб не сталася так, што гісторыю сваёй радзімы нашыя праўнукі будуць вывучаць толькі па малюнках і дакументах. І не станецца! Бо пакуль будуць існаваць такія Бяроз-Картузы, датуль краязнаўцы будуць ведаць, што перад імі ганаровая місія – захаванне гісторыі.

Ілья ЛАПАТО

## Светлае імя настаўніка

Выйшла кніга "...Пачуць, як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва".

Кніга прысвечана памяці даследчыка літаратуры XIX стагоддзя Генадзя Васільевіча Кісялёва, які памёр 14 лістапада 2008 года. Пад адной вокладкай сабраны поўная бібліяграфія літаратуразнаўца, успаміны пра яго і артыкулы на тэмы, якія ён распрацоўваў. Для кнігі напісалі тэксты Адам Мальдзіс, Арсень Ліс, Міхась Тычына, Віталь Скалабан, Мікола Хаўстовіч, Язэп Янушкевіч, Сяргей Запрудскі і іншыя. Уладзімір Мархель друкуе пакаянны ліст Адама Кіркора да Аляксандра Мураўёва. Змiцер Матвейчык – лісты Міхала Ходзькі. Але галоўнае, відаць, адкрыццё – дакументальнае пацверджанне сапраўднага імя Каліноўскага. Калі раней беларускага кіраўніка паўстання 1863 года называлі Кастусём, а частка даследчыкаў выказвалася за Вінцэнта, то гісторык Алесь Смалянчук паставіў кропку ў гэтым супрацьстаянні. Ён прыводзіць лісты сваячак да Каліноўскага, у якіх яго называюць Канстантым.

Выданне выйшла дзякуючы пасольству Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі і Польскаму інстытуту ў Мінску.

Павел РАДЫНА

# Стогадовы каляндар

**У навагодні час у любой кнігарні знойдзецца цэлая "выстаўка" календароў і каляндарыкаў. Такі шырокі асартымент абумоўліваецца вялікім перадсвяточным попытам на іх.**

Часцей за ўсё календары выпускаюць тэматычныя. У доме садавода заўсёды прысутнічае каляндар "Садавіна і гароднiна". Калі сям'я вернікаў, то на відным месцы — "Хрысціянскі каляндар". У таго, хто хіліцца бліжэй да прыгожага слова, як правіла, свой, літаратурна-творчы, каляндар...



Мяркую, пра сучасныя календары няма патрэбы расказваць падрабязна. А вось каляндар векавой даўнасці трымаў у руках не кожны. Мне пашчасціла дакрануцца да такой рэліквіі і ўсвядоміць яе каштоўнасць.

Неацэнны скарб мае Людміла Аляксандраўна Баброўская, карэнная жыхарка Стоўбцаў. Настольныя календары за 1906 — 1909 гады дасталіся ёй у спадчыну. Пяць мініяцюрных кніжачак у цвёрдым пераплёце добра захаваліся і памятаюць цяпло рук яе матулі, таты. Бацька, між іншым, набываў лес у графа Чапскага і адпраўляў яго па Нёмане на англійскую біржу. Старыя фотаздымкі ў сямейным архіве сведчаць, што Аляксандр Баброўскі і яго брат Уладзіслаў былі ўдзельнікамі з'езда купцоў Польшчы ў 1937 годзе. Бясспрэчна, што календары, якія Баброўскі набываў на пачатку стагоддзя для сваёй сям'і, маглі дазволіць сабе толькі людзі заможныя. Як прыкмета іх элітарнасці — і трохмоўе. Старарускую мову дапаўнялі нямецкая і французская. На замежных мовах друкаваліся назвы месяцаў і дзён тыдня.

На вокладцы аднаго з календароў згадваецца, што выпусціла яго выдавецтва І. Сыціна, якое дзейнічала ў Маскве. На пачатку XX стагоддзя гэта выдавецтва лічылася найбуйнейшым у Расіі. Паралельна з народнымі календарамі тут выдаваліся энцыклапедыі, падручнікі, зборы твораў рускіх класікаў. Іншы каляндар выпушчаны Ота Кірхнерам. У 1871 годзе 23-гадовы немец пераехаў у Расію і ў Пецярбургу добра развіў выдавецкую справу.

Каляндар — рэч штодзённая, пастаянна навідавоку і пад рукой. Гэта добра разумелі стваральнікі і напаўнялі яго не толькі практычным зместам, але і глыбокім сэнсам. Літаральна на кожнай старонцы побач са звычайнымі карысными парадамі сустракаюцца думкі наконт зямнога чалавечага існавання. Мудрыя цытаты прыведзены з твораў Пушкіна, Дастаеўскага, Сервантэса. Усмешку і добры настрой дорыць "кактэйль" з прыказак і прымавак. Уяўлені пра жыццё і яго вартасці за 100 гадоў не змяніліся!

Усе даты месяца ўказаны з улікам існуючай тады традыцыі — па новым і старым стылях. Адметная інфармацыя падабрана для кожнага сезона. Напрыклад, на пачатку лета, калі вабяць паходы і падарожжы, каляндар раіць, як пазбегнуць стомленасці і болю ў нагах.

Сто гадоў таму людзі былі больш набожнымі, спавядалі хрысціянскія каштоўнасці. Нормай было, што багатыя людзі ездзілі ў царкву ў адмысловых святочных строях, прытрымліваліся ўсіх канонаў. Таму каляндар служыў ім яшчэ хрысціянскім даведнікам. У ім падрабязна паведамляецца, якое свята адзначаецца ў той ці іншы дзень, служыцца літургія ці не.

Усмешку выклікаюць прыведзеныя ў календары абедзенныя меню. Тыповы абед складаўся, як і сёння, з трох страў. Але якіх! Бульён з іспанскім паштэтам, асятрына з хрэнам, запечаная рэпа з цукрам і шмат якія іншыя прысмакі. У багатых сем'ях, як прыгадвае са свайго дзяцінства і Людміла Баброўская, таксама адчувалі меру. Поснымі днямі абмяжоўваліся рыбай, ягадамі, садавінай і мёдам.

Гартаючы сучасны каляндар, аздоблены стракатай вокладкай, і стогадовы, падкрэслена стрыманы і вытанчаны, можна прасачыць важкае адрозненне. На маю думку, ранейшыя складальнікі найперш скіроўваліся не да вока, а да душы чытача, яго клопатаў і запытаў. А таму і сёння, у век камп'ютэрных тэхналогій, здаецца, яны выйграюць негалоснае саперніцтва. Цягне перачытаць выдадзенае раней. Мудрасць, выхаванасць, пачуццё густу ў нашых продкаў адкрываю для сябе за кожнай каляндарнай старонкай.

Вікторыя ПЯТКЕВІЧ,
вучаніца гімназіі № 1
г. Стоўбцы.

Фотакалаж аўтара

# Не сячыце, мужыкі!

**Адзвінелі навагоднія і калядныя святы. Краіна вярнулася ў звыклую працоўную каляіну. І толькі выкінутыя ялінкі, якія за два тыдні з лясных прыгажунь ператварыліся ў высахлыя шкілеты нагадваюць пра нядаўняе святкаванне…**



Давайце звернемся да Яе Вялікасці Гісторыі і высветлім, ці існавала ў нашых продкаў традыцыя святкавання Новага года ля ўпрыгожанай ёлкі? Я не буду закранаць пытання аб часе святкавання Новага года беларусамі, бо існавала ажно шэсць (!) розных дат. Пагаворым пра свята зімовага сонцастаяння (супадае з Раством Хрыстовым). Беларусы — прадстаўнікі славяна-балцкіх культурных і этнічных традыцый. Вось што піша Ян Длугаш у сваёй "Гісторыі Польшчы" аб звычаях старажытных літоўцаў: "Да прыняцця праўдзівай веры яны ўшаноўвалі тыя ж самыя святыні, тых жа багоў і спраўлялі тыя ж святыя абрады і святы, якія існавалі ў рымлян, калі тыя былі язычнікамі, а менавіта: святы агонь (зніч) і лясы, якія яны лічылі святымі і ў якіх дакранацца жалезам да дрэва прызнавалася паганым і згубным". У кожнай літоўскай сям'і ў святым лесе было ўласнае дрэва, ля якога яны адзначалі асноўныя святы, і вогнішча, на якім спальвалі нябожчыкаў і прыносілі багам ахвяры, у асноўным у выглядзе хатніх жывёл. З гэтага можна зрабіць выснову, што нашы далёкія продкі шанавалі і абагаўлялі ўсё жывое і не секлі дрэў дзеля забавы.

Пазней беларуская калядная абраднасць была звязана з абыходам калядоўшчыкамі з казой, жоравам і канём двароў; з гульнямі, ігрышчамі, варажбой. У феномене Каляд прысутнічае сінкрэтызм супрацьлеглых традыцый, язычніцтва і хрысціянства, язычніцкай эратычнай шлюбнасці і святога Раства. І народная язычніцкая плынь, і хрысціянская ў нашым стагоддзі значна паступіліся сваімі заваёвамі на карысць запазычаных дэсакралізаваных атрыбутаў навагодняга святкавання. Святочная ёлка прыйшла да нас з Нямеччыны, з Эльзаса. Там быў звычай ставіць на Каляды малую ёлачку і ўпрыгожваць яе пернікамі, яблыкамі, аблаткамі (свечкі з'явіліся пазней, пад уплывам царкоўнай сімволікі). Вобразы Дзеда Мароза і Снягуркі таксама прыйшлі з Еўропы і існуюць асобна ад традыцый калядна-навагодніх святкаванняў беларусаў. Заўважце, што ў нашых калядных традыцыях быў закладзены звычай дзяліцца апошнім з беднымі і ўбогімі, каб у гэты дзень кожны адчуў свята. Зараз жа Дзед Мароз са Снягуркай ператварыліся ў камерцыйны брэнд і дапамагаюць гандлярам зарабляць грошы. Бальшавікі лічылі ёлку атрыбутам багацеяў і ненадоўга забаранілі выкарыстоўваць яе ў час навагодніх святаў, але потым забарону адмянілі, і з цягам часу праз клубы і школы ёлка ўвайшла ў хаты людзей. Для многіх, у тым ліку і для мяне, гэта традыцыя лічыцца экалагічна непрымальнай. Чаму?

Елка — гэта дрэва, якое найбольш вострa рэагуе на змяненне клімату. Гарачыня і недахоп вільгаці прыводзяць да засыхання дрэў з паверхневай каранявой сістэмай. На аслабленыя дрэвы нападае карaед-тыпограф і мароны. Дрэва скідвае ігліцу і засыхае. Ці даводзілася вам быць у ельніку, які памірае? Гэта страшнае відовішча. Там нават птушкі не спяваюць, а трывожна крычаць. У Беларусі высыханне ельнікаў прыняло маштабы экалагічнага бедства. Елкі гінуць у 63 лясгасах краіны. Толькі на Магілёўшчыне з 1996 па 2003 гады засохла 10,5 працэнта агульных запасаў лясоў усёй вобласці. Такія лясы чакае санітарная высечка. Іншых "лекаў" яшчэ не прыдумалі. Бяда ў тым, што елка "спее" толькі ў стогадовым узросце, і толькі з дрэў такога ўзросту можна рабіць верхнія дэкі для скрыпак, віяланчэляў, гітар і іншых музычных інструментаў. Дрэвы такога ўзросту — на вагу золата, але ў нашых лясах іх амаль не засталося…

Пацяпленне клімату на адзін градус адсоўвае арэал росту елак на 150 кіламетраў на поўнач. Можа здарыцца так, што праз два-тры пакаленні гэта прыгожае дрэва назаўсёды знікне з нашых лясоў. Як гэтаму перашкодзіць? Справа ў тым, што маладыя дрэўцы лягчэй прыстасоўваюцца да змянення клімату і ніядрэнна растуць у змешаных лясах разам з дубам, сасной, ясенем, клёнам і іншымі дрэвамі. А што робіцца ў нас? Напярэдадні Новага года ў беларускіх лясах высякаецца больш як 200 тысяч (!) маладых, у асноўным, шасцігадовых елачак. Няўжо асноўная задача Міністэрства лясной гаспадаркі — зарабіць хуткія і лёгкія грошы? Калі мы пачнём думаць пра будучае, пра экалогію? Тых чыноўнікаў, якія сцвярджаюць, што падобныя варварскія акцыі не наносяць шкоды прыродзе, трэба 1 студзеня правесці па месцах ёлачных базараў, дзе горы знявечаных дрэўцаў нагадваюць пра нашу "любоў" да прыроды. Чужыя нам традыцыі, якія прыносяць смерць жывому, трэба мяняць. Хачу нагадаць, што калісьці лясы займалі 70 працэнтаў усёй тэрыторыі Беларусі. Цяпер ад іх засталася палова, прычым — не лепшая, значную плошчу займаюць хмызнякі, якія застаюцца пасля бяздушнай дзейнасці чалавека. Будучым пакаленням нават цяжка будзе ўявіць, што дзеля забавы ў нас кожны год высякалася больш двухсот тысяч маладых дрэўцаў.

Перафразуючы Джона Дона, хочацца нагадаць усім: я з прыродай пяднаны, і смерць усяго жывога забівае і мяне, таму ніколі не пытайся, пра што шуміць сняжэнскі лес, — ён шуміць і па табе…

Аляксандр ВАШЧАНКА

Фота аўтара

# Пётра Просты спачывае ў Іўі

2010 — юбілейны год для многіх беларускіх пісьменнікаў. Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Францішак Багушэвіч, Кузьма Чорны, Уладзімір Караткевіч, Андрэй Макаёнак і іншыя. Гэта волаты слова. Але былі і не настолькі вядомыя асобы, ад гэтага, праўда, не менш значныя. Да іх ліку адносіцца Ільдэфанс Бобіч (літаратурны псеўданім Пётра Просты).



Нарадзіўся ён 22 студзеня 1890 года ў вёсцы Дзедзіна Міёрскага раёна. У сваіх нешматлікіх творах, якія друкаваў у газетах "Наша Ніва", "Беларус", "Наша думка", "Беларускія ведамасці", паказваў дабрадушнасць, шчырасць, сумленнасць людзей.

Пётра Просты вучыўся ў Ковенскай гімназіі. Затым скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. Працягваць вучобу быў накіраваны ў Рым у Папскі універсітэт. Там ад Папы Рымскага ён атрымаў блаславенне на выданне першай беларускай каталіцкай газеты ў Вільні — "Беларус". А ў 1914 годзе Пётра Просты выдаў невялікую кніжку пад назвай "На што беларусам газеты", у якой пісаў пра значнасць друкаваных выданняў. Ён лічыў, што газеты з'яўляюцца не толькі крыніцай ведаў, інфармацыі, парадаў, але і школай выхавання і асветы.

Атрымаўшы ў 1915 годзе пасвячэнне ў ксяндзы, І. Бобіч працаваў у розных парафіях, а з 1930 года стаў пробашчам у Іўі. У 1921 — 1922 гадах былі выдадзеныя яго кнігі-пропаведзі на беларускай мове "Нядзелішнія эванэліі і навукі". Пазней свае багаслоўскія працы І. Бобіч пісаў на польскай мове і канчаткова адышоў ад актыўнай беларускай дзейнасці. Як лічаць даследчыкі, жыццё і творчасць пісьменніка і святара ў Іўі былі самымі спакойнымі. Але гэты спакой у 1942 годзе быў парушаны — ксяндза арыштавалі гітлераўскія ўлады і пасадзілі ў лідскую турму. За кратамі ён знаходзіўся на працягу дзевяці месяцаў, а затым быў выпушчаны на волю. Казалі, што за яго свабоду заплаціла сястра. Іншыя яго вызваленне прыпісваюць беларусам, якія жадалі, каб ён свае казанні, напісаныя раней на польскай мове, пераклаў на беларускую. Апошняя версія здаецца найбольш верагоднай.

Нядоўгім было жыццё І. Бобіча на волі, 28 красавіка 1944 года ён памёр. Пахаваны каля касцёла побач з іншымі святарамі.

Пяру І. Бобіча належаць два тамы беларускамоўных казанняў, напісаных у гады працы ў Іўі. Гэта "Роднае слова ў касцёле" і "Навучайце ўсе народы". Некаторыя творы не ўдалося надрукаваць, і яны засталіся ў рукапісах, як і п'еса "Свякроўка" (1917).

У год юбілею, мне думаецца, варта было б аднавіць надмагілле і паставіць новы помнік пісьменніку і святару. І няхай ён не хапаў зорак з неба, чытачы і вернікі запомнілі яго шчырым і сумленным чалавекам.

Іван ГОВАР

На здымку: ксёндз Ільдэфанс Бобіч (злева) з невядомым святаром.

# Повязі пакаленняў не парываюцца

Краязнаўства на Чашніччыне мае даўнюю гісторыю і трывалыя карані. У гэтым я пераканалася, гартаючы падшыўкі часопіса "Наш край", які выдаваўся ў Беларусі ў 20-я гады мінулага стагоддзя.

Пагартаўшы часопіс, я даведалася, што ў маі 1925 года было створана Чашніцкае раённае краязнаўчае таварыства. На пачатку яно налічвала 14 чалавек. У той час, час беларусізацыі і пашырэння цікаўнасці да вывучэння гісторыі роднага краю, таварыства разгарнула актыўную працу, кіраўніком якога быў нехта Х. Іваноў. Пры ім была заснавана бібліятэка, у якой да 1928 года налічваліся звыш 100 экземпляраў рознай краязнаўчай літаратуры, а членамі таварыства з'яўляліся 53 чалавекі, у асноўным настаўнікі. У чашніцкай сямігодцы (цяпер сярэдняя школа № 1) быў створаны краязнаўчы гурток, які наведвала 35 вучняў. Гурток падзяляўся на тры секцыі: прыродна-геаграфічную, грамадска-эканамічную і культурна-гістарычную. Краязнаўчае таварыства вяло актыўную працу па збіранні слоўнікавага матэрыялу. Так, толькі ў 1926 годзе членамі таварыства і школьным краязнаўчым гуртком было сабрана 2800 мясцовых дыялектных слоў. Усе яны былі адпраўлены ў Слоўнікавую камісію пры Віцебскім акруговым аддзеле народнай асветы і ў Слоўнікавую камісію пры Інбелкульце. Сабрана і апрацавана 900 вусных народных твораў. Пры таварыстве дзейнічала музейная секцыя, якая сабрала значную колькасць экспанатаў. На жаль, нягледзячы на захады таварыства па пошуку памяшкання для музея, ён так і не быў створаны. А лёс экспанатаў застаецца невядомым.

Якім яшчэ тэмам краязнаўчае таварыства надавала ўвагу? У часопісе "Наш край" можна знайсці іх пералік: папяровая фабрыка "Чырвоная Зорка", 400-годдзе беларускага друку і Васіль Цяпінскі, краязнаўства і школа, Чашніцкі канал Бярэзінскай сістэмы, арганізацыя радзімазнаўчага музея, агранамічная праца ў Чашніцкім раёне, гісторыя мястэчка Чашнікі, Пачаеўская племянная гаспадарка, гадоўля жывёлы ў Чашніцкім раёне, Іванская камуна "Чырвоны барацьбіт" ды іншыя.

Ужо з гэтага няпоўнага пераліку відаць, што краязнаўчая праца вялася па розных кірунках. Некаторыя з гэтых распрацовак былі надрукаваны ў выглядзе артыкулаў у мясцовым друку, а таксама ў часопісе "Наш край". Гэта каштоўны матэрыял, які можа пашырыць веды пра гісторыю нашага краю.

Так, у № 4 часопіса за 1926 год змешчаны вялікі матэрыял пра фабрыку "Чырвоная зорка". Аўтар артыкула К. Арол, сцвярджае, што прадпрыемства спачатку мела назву "Скіна". А названа было так ад імені пляменніцы заснавальніка Вінцэнта Валадковіча — Скіны. Аўтар піша, што на месцы, дзе зараз стаіць папяровая фабрыка, знаходзіўся вадзяны млын. А ў 1883 годзе Вінцэнт Валадковіч выкупіў млын і заснаваў папяровую мануфактуру, на якой выраблены картон сушыўся на сонцы. І толькі пазней Валадковіч пабудаваў фабрыку. Рабочымі былі мясцовыя жыхары, галоўнымі майстрамі — немцы, служачымі — палякі. Усё справаводства вялося на польскай мове. Непадалёк, у вёсцы Вішкавічы, з 1902 па 1915 працаваў завод, на якім выраблялі драўляную масу, што потым па рацэ дастаўлялася на фабрыку. У артыкуле таксама падрабязна апісаны працэс тагачаснай вытворчасці паперы, яе гатункі. Для спецыялістаў фабрыкі, магчыма, цікава будзе параўнаць тагачасныя стадыі вытворчасці паперы з сённяшнімі. А выглядала гэта так.

У аддзяленні сарціроўкі макулатуры абрэзкі паперы збіралі па колеры і ачышчалі ўручную ад смецця. Потым паперу размолвалі. Сюды ж для размолу паступалі пакупная цэлюлоза і дакументы з архіваў (немагчыма нават уявіць, колькі ж каштоўных гістарычных дакументаў было знішчана такім чынам). Клеяварня рыхтавала раствор клею і хімічны раствор. У рольным аддзяленні размолвалася валакно, дадаваліся хімічныя растворы і атрыманая маса рыхтавалася для адліву папернага ліста. Паперная машына адлівала і сушыла тыя лісты. У апаратурным аддзяленні адлітая і высушаная папера ішла ў далейшую апрацоўку на каландрах. Затым папера разразалася на лісты патрэбнага памеру. У асноўным выпускалі шпалерную паперу, якая потым накіроўвалася на расфарбоўку ў Мінск на фабрыку імя Вароўскага.

На 1 студзеня 1926 года ў вытворчасці паперы было занята каля 300 рабочых. У той час пры фабрыцы дзейнічала амбулаторыя, якая прымала да 4000 хворых штомесяц. Працавалі дзве школы для дзяцей рабочых: беларуская (два настаўнікі) і польская (адзін настаўнік). А ў 1928 годзе нават ставілася пытанне аб стварэнні краязнаўчага гуртка на папяровай фабрыцы.

Краязнаўчая праца ў Чашніцкім раёне ў 1920-х вялася вельмі актыўна. Шкада, што далейшыя падзеі (адмова ад палітыкі беларусізацыі, рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі) прывялі да згортвання краязнаўчага руху. Але, на шчасце, застаўся багаты архіў нашых папярэднікаў. А таму повязі паміж краязнаўцамі ўчарашнімі і сённяшнімі не парываюцца.

Ганна ГРЫБКО

# Старабарысаўская выцінанка

Жыхарка вёскі Старабарысаў Барысаўскага раёна Ірына Гіль з задавальненнем расказвае пра гурток "Беларускі сувенір", якім яна кіруе. Нядаўна гурток быў адзначаны граматай упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама на выстаўцы прыкладнога мастацтва школ-інтэрнатаў і дзетдамоў у намінацыі "аплікацыя скурай". Хто яна, гэтая жанчына, што далучае дзяцей да народнай творчасці?



Ірына Міхайлаўна Гіль родам з Лагойшчыны. Разам з маці ў дзяцінстве пераехала на Барысаўшчыну. Закончыла Старабарысаўскую сярэднюю школу, Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці "мадэліраванне і канструяванне жаночага верхняга адзення". Была накіравана ў абласную швейную лабараторыю ў Барысаў, дзе займалася падрыхтоўкай мадэлей модных жаночых сукенак, касцюмаў для дэманстрацыі мод. Толькі справа гэта аказалася непрыбытковая. Ірыне Гіль давялося змяніць месца працы: стала выкладаць урокі дамаводства, малявання ў сярэдняй школе. Аднак хацелася пашырыць свае пазнанні. Ірына Міхайлаўна з задавальненнем займалася на абласных курсах удасканалення майстэрства настаўнікаў. Першы раз навучылася саломапляценню, другі — аплікацыі скурай, трэці — рабіць выцінанкі, прыгожыя рэчы з прыроднага матэрыялу.

Гэта дало магчымасць у далейшым не толькі змяніць работу. Шосты год Ірына Міхайлаўна працуе выхавацелем Старабарысаўскай школы-інтэрната, паралельна кіруе гуртком "Беларускі сувенір" пры мясцовым СДК. Ірына Гіль імкнецца рабіць заняткі разнастайнымі: учора вышывалі гладдзю і крыжыкам, сёння займаюцца аплікацыяй саломкай, заўтра складаюць аб'ёмныя кампазіцыі з кветак, раслін. Прыемна зайсці ў залу, дзе вучацца майстэрству народных рамёстваў дзеткі: утульна, на сценах і сталах шэраг цікавых кампазіцый.

Яшчэ адно спараджэнне Ірыны Міхайлаўны — "Беларуская хатка". Яна знайшла свой "прытулак" у былым пакоі для вучнёўскіх заняткаў у СДК. Тут сабрана больш як 50 цікавых экспанатаў. Сярод першых трапілі рэчы Леанарды Пятроўны Гіль — 78-гадовай маці Ірыны Міхайлаўны. Усё сваё жыццё (а працавала яна санітаркай у санаторыі "Бярэзіна") займалася ткацтвам, вышывала гладдзю. Пасцілкі, ручнікі, створаныя працавітымі ўмелымі рукамі простай сялянскай жанчыны, цяпер упрыгожваюць ложак "хаткі". Тут жа незвычайная нават для сельскага жыхара рэчы: драўляная прылада з элементамі жалеза для вырабу хатніх каўбас, спецыяльная сякера для падрыхтоўкі шчапы. Іншыя рэчы сялянскага побыту сабралі гурткоўцы ў сваіх бацькоў, бабуль, суседзяў: касцюмы, сукенкі з беларускім арнаментам мясцовых майстрых і г.д.

Ірына Міхайлаўна звяртае маю ўвагу на карціны — першыя свае работы са скуры. На адной з іх — "Захавальніцы горада" — тры зграбныя жанчыны ў выглядзе дрэўцаў; на другой, створанай фантазіяй гэтай цікавай маладой майстрыхі, — дзяўчына, якая ўвасабляе сабой Беларусь. Тут жа кампазіцыі-калажы "Дажынкі" і "Памінальная вячэра". Іх прыгажосць, адпаведны настрой надаюць спалучэнні элементаў вырабаў са скуры, саломкі і вышыўкі крыжыкам.

Анатоль БАРЫС

На здымку: Ірына Гіль з вырабамі з прыроднага матэрыялу.

Фота аўтара



## Гусіным пяром

Надзея ПАРЧУК. Нарадзілася ў палескай вёсцы Ладараж Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум. Працавала ў банкаўскай сістэме. Друкавалася ў шмат якіх газетах і часопісах ды калектыўных зборніках. Мае тры ўласныя кніжкі вершаў. "Раскрыліўся бусел над хатай"(2009) — чацвёртая. Жыве ў Брэсце.



# «Свой лёс дарэмна не кляні»

Дзіўная рэч — чалавечы лёс. Як да каго ён паварочваецца… Ёсць шмат людзей, на прыкладах якіх можна прааналізаваць складнікі чалавечага жыцця і падзівіцца на тыя ўнутраныя духоўныя сілы, якія нярэдка паўстаюць над іх фізічнай немаччу. Вельмі часта тыя з нас, што займаюцца творчасцю, найперш паэты, казыраюць сваім талентам як дарам Божым. Як быццам дар адмысловага тэхнара ці хірурга — гэта звычайная яечня. Так пішу адштурхоўваючыся ад вядомай прымаўкі ("не блытаць дар Божы з яечняй"). Аднак, пры бліжэйшым разглядзе аказваецца, што і дар Божы дарма не даецца. Яго трэба заслужыць. На ўзгадку два прыклады. У мінулым нумары "ЛіМа" былі выдрукаваны вершы Анатоля Галушкі з Івацэвіцкага раёна. Чалавек скончыў школу і здаў экзамены ў мараходку. І тут на голым, як кажуць, месцы траўма пазваначніка. І вось сёння, маючы 46 гадоў, ён выдатна малюе карціны і піша вершы. Зубамі. На зубах… Карціны выстаўляюцца і купляюцца ў нас і за мяжой. Анатоль — сябра Міжнароднага саюза мастакоў-інвалідаў. Не маю сумненняў, што неўзабаве будзе прыняты і ў пісьменніцкую суполку. А мог жа быць проста марскім афіцэрам… А мог і нікім не быць. Датлець як шмат хто, прабачаюся, чалавечым абрубкам, на руках у гаротнай маці… Гэта значыць, што найперш чалавек павінен мець альбо развіваць у сабе талент Чалавека. І, магчыма, толькі тады ў вас, як напісаў у адным сваім вершы А. Галушка:

> На попеле спаленых мараў
> Пракінецца новая рунь.

Другі прыклад амаль асабісты. Жонка ў свой час скончыла эканамічна-фінансавы тэхнікум. Аднак рамантычная цяга да неба (займалася парашутным спортам) і да паэзіі (пісала і друкавала вершы) перамаглі статычную натуру. Паступіла ў Літаратурны інстытут. Праўда, не скончыла па сямейных прычынах, але працягвала займацца творчасцю. Жыццё тым часам змушала шукаць кавалак хлеба. І — тут прыдалася набытая колісь прафесія. Дзеля дабрабыту сям'і яна, пэўным чынам, паступілася прагай высокага. І сёння праца кваліфікаваным бухгалтарам аніяк не прыніжае ў маіх вачах жончына прызванне. Найперш Чалавечае. Ды і не вечар яшчэ, і неба над галавой тое ж — узымайся…

Таму казаць, што наша жыццё Некім канчаткова спрагназаванае ад самага свайго пачатку, я пасцярогся б. Чалавек і сам здольны ўплываць на ход свайго лёсу.

Вось і гераіня сённяшніх маіх нататак Надзея Парчук — таксама чалавек незайздроснага выраку. Працавала ў банкаўскай сістэме. Ды здарылася непапраўнае, і яна апынулася ў цяжкім фізічным становішчы. І ў гэтым выпадку зноў спрацавала моц чалавечай натуры — яе ўнутраны дух. Творчая праца для Надзеі стала панацэяй для душэўнага і духоўнага прасвятлення. Урэзаліся мне ў памяць, можна сказаць, яе класічныя па сваёй мастацкай вартасці радкі:

> Як тая здань, сяджу адна
> І раптам чую: "Хто ты, хто ты?"
> Пытае голас адзіноты
> Ў мяне праз шыбіну акна.

Такім чынам, падчас зусім нечакана, адных паэзія выратоўвае (нямоглых фізічна, зводзіць нароўных з людзьмі і наваколлым светам), а другіх — губіць, канчаткова зняволваючы іх у самотнасці і адзіноце ажно да згубы. Гэта парадаксальна, калі Паэт (ад Бога) упіваецца хмелем пакутлівай адзіноты, як напоем з цыкутай, а паэт (ад выраку), якія, вылузваецца з засценкаў асуджанасці, прагне натуральнай людской "суеты сует":

> Нясі мяне туды, Пегас,
> Дзе не бывае адзіноты.

Гэтак піша ў адным сваім вершы Н. Парчук. І яе, як чалавека і жанчыну ў складаных жыццёвых варунках, зразумець можна, а вось, як паэта, — не так проста. Таму мае рацыю берасцейскі пісьменнік Мікола Сянкевіч, які ў прадмове да зборніка нашай паэтэсы піша, што "паэзія — з'ява інтымная, а тое, што напісана з душою, для душы, для некага абавязкова стане паратункам у гэтым не заўсёды ласкавым свеце. У вершах Надзеі Парчук жыве сум, народжаны адзінотай лірычнай гераіні (чытай: аўтара зборніка). Гэта яна, адзінота, бесцырымонна, нязванаю госцяй заходзіць у жытло, сядае ў ганаровы куток і патрабуе слугаваць ёй. І не пазбавішся, не выпхнеш за дзверы… Лейтматыў чарговага зборніка вершаў Надзеі Парчук — імкненне лірычнага героя на волю…" Да зямной і чалавечай прыроды, дадаў бы я. Бо прастата, логіка, правільнасць і прагматыка — не сёстры сапраўднага творцы і мастака. Можа, таму не асабліва ўражваюць мяне статычна-шараговыя радкі паэткі, да якіх і прыдрацца цяжка:

> Вучыся ў сонца дабрыні —
> Твары і ты дабро патроху,
> За ўсё — удзячнаю будзь Богу,
> Свой лёс дарэмна не кляні.

І зусім іншая амплітуда душэўнага ўспрымання наступнага верша, дзе ўсё, можна сказаць, адбываецца інстынктыўна і па натхненні:

> Калі ў нябеснае прасторы
> Парою цёмнаю, начной
> Пазвоньваюць трымклівa зоры
> Над нашай сутнасцю зямной —
> Усведамляю — гэта вечнасць
> З нядрэмнай пільнасцю глядзіць
> На наш прытулак чалавечы
> Праз залатое дно начніц.

Створанае — як нечаканае здарэнне, як знак паэтычнай азоранасці і адметнасці. Зрэшты наша зямное існаванне, часцей за ўсё, сутыкаецца з "низменными страстями", змушае жыць па законах большасці, дзе патрэба "хлеба и зрелищ" пераважае жаданне меншасці ў "хлебе духоўным". Таму на першы план выносяцца пытанні грамадскага і культурна-нацыянальнага жыцця. А так як паэтэса піша на роднай беларускай мове, то і занепакоенасць яе палягае менавіта ў праблемах, звязаных з нацыянальным самапачуваннем. Яна, як кожны паважаючы сябе творца, хоча

> Каб засталося,
>                 што душой стваралася,
> Пасля мяне на доўгія часы,
> Каб між маіх нашчадкаў
>                           паўтаралася
> І не губляла існае красы.

Скажаце, не кожны жывы класік спадобіцца на такое прыжыццёвае прызнанне… Але хіба гэткае жаданне паэтэсы вымагае ад мяне чытацкага асуджэння? Абсалютна не. Больш за тое, я з Надзеяй Парчук тут абсалютна салідарны. Не буду асабліва крытыкаваць і такую яе празаічную фармуліроўку цяперашняга стану грамадскай думкі, няхай да паэзіі і мала датычную, аднак, выбалеўшую да эмацыянальнага трыбуннага ўсплёску (глядзіш, нехта пачуе, і ў ім прачнецца родавае сумленне):

> Калі табе "истинно" скажуць,
> Што моў не бывае чужых,
> Дык ведай: раднейшай за нашу
> Не стане ніводная з іх.

Гэта што датычыць мовы, якая ў нас пакуль толькі лунае ў вышэйшых сферах духу і адсоўваецца на вясковых падворках. Н. Парчук усё гэта добра ведае і адчувае. Хацелася б, каб урэшце спраўдзілася яе запаветнае жаданне, выказанае ёю ў простых і зразумелых радках:

> Мне б адметных слоў знайсці
> На сваёй палітры,
> Да людзей з імі прыйсці,
> Як святар з малітвай.

Паэт, вядома, чалавек страсны і зямны і самае святое для яго — гэта слова. Як ні вульгарна прагучыць, але — найперш сваё ўласнае, а не Боскае, і, шчыра кажучы, гэтая грахоўная прэтэнзія на вечнасць сучаснага паэта мала бянтэжыць. Што ж, такім ужо міфалагізаваўся ў часе і ўпісаўся ў грамадскі канон вобраз Паэта (творцы і прарока). І дзякаваць Богу. Значыць, быць прарокам на нашай грэшнай зямлі яшчэ дазволена. І — магчыма…

Паважаючы літаратурныя здольнасці Н. Парчук, не думаю, што яна асабліва пераймаецца падобнымі пытаннямі. І правільна робіць. Яна піша як можа.

Напрыканцы зборніка сабраны ў невялікі цыкл афарызмы аўтаркі. Адзін, дарэчны ў русле нашай гаворкі, працытую:

> "Калі гучыць паэзія –
>           ніякавее ўсякая пошласць".

Што праўда, то праўда.

У асобны цыкл сабраны Н. Парчук яе пераклады з рускай мовы такіх вядомых і не вельмі паэтаў, як І. Ларын, Б. Спрынчан, Э. Асадаў ды І. Дацкевіч (апошні з цыклам вершаў, прысвечаных памяці сябра В. Гадулькі).

Шчыра кажучы, апроч некаторых твораў, адзначаных вышэй, у гэтым зборніку мяне найбольш уразіў раздзел "Постаці зямлі беларускай" (ад Прадславы, Рагнеды, Еўфрасінні Полацкай да М. Багдановіча, В. Быкава, Л. Геніюш, Я. Янішчыц ды Н. Мацяш). Трапляецца тут шмат уражлівых па мастацкіх якасцях строф і асобных вершаў. Да прыкладу, у творы, прысвечаным Ніне Мацяш, ёсць такая даволі глыбока-філасафічная страфа:

> Зноў лета выпіта нагбом,
> Паўсюду восень гаспадарыць,
> А Вы дадайце ў свой альбом —
> мой верш, як ліпеньскі гербарый.

Твор напісаны яшчэ пры жывой Ніне (датаваны 20 верасня 2008 года). Пэўна, паспела дадаць, бо ўсё сваё свядомае і творчае жыццё збірала да свайго душэўнага цяпельца, любіла і зберагала як магла для нашчадкаў усе вядомыя ёй берасцейскія таленты. Прыдалася ёй і Надзея…

Не хацелася б наастатку цытаваць верш Н. Парчук, напісаны ў інерцыйна мінорным тоне, але лепшых радкоў для завяршэння гэтай гаворкі я ўсё-ткі не знайшоў. Што ж, няхай будзе так, як жадае сама паэтка:

> Зямліца, родная зямелька,
> Калі пamру, сканаю я —
> Абдымеш ты сваю Надзейку,
> Нібы святое немаўля.
> Атуліш шчыра так, бы маці, –
> Я растваруся ўся ў табе…
> Хай прарасту не благадаццю,
> Але хоць кветкаю ў траве.

ЛеГАЛ

# Вершы па кроплі



Генадзь Коўш падышоў да выдання свайго новага зборніка адказна і свядома. То бок: не проста вырашыў выдаць тое, што за апошнія колькі гадоў напісалася, а прадумаў канцэпцыю, кампазіцыю і нават абгрунтаваў мэту выдання кнігі, зварот да чытачоў. Пра ўсё гэта — у лаканічным "Уступе": "У сваіх вершах я імкнуся паспрыяць задумацца над гэтым душэўным холадам, пераглядзець адносіны да наваколля, да іншых людзей, дапамагчы зрабіць патрэбныя высновы. Некаторыя свае вершы я прыпадабняю вогнішчу… Мне будзе вельмі прыемна, калі хто-небудзь зможа для сябе распаліць хоць адно з маіх маленькіх вогнішчаў і гэтым самым трохі сагрэць сябе". Крыху дыдактычна. Але як жа цешыць і нават уражвае тое, што паэт сапраўды думае пра свайго патэнцыйнага чытача!

Кніга складаецца з дзвюх частак "Вершы" і "Разважанні", якія, па праўдзе кажучы, паводле сваёй мастацкай якасці не раўназначныя. Калі б зборнік складаўся толькі з вершаў, то гэта не зрабіла б яго няпоўным і непаўнавартасным, а, хутчэй, наадварот, — больш цэласным і гармянічным. У "Разважаннях" усё ж многа трывіяльнага, таго, што не здольна ўразіць і запомніцца.

Зусім іншае можна сказаць пра вершы. Усе яны глядзяцца як частачкі адной паэмы — у іх адна танальнасць, адзін настрой і адна стрыжнявая, галоўная думка. Г. Коўш нібы малюе радкамі, і параўнаць яго манеру можна з імпрэсіяністычным жывапісам. Уражанне такое складаецца з першага змешчанага верша:

> Туман.
> Стары
> Адзінокі
> Закінуты
> Будынак.
> Трэск.
> Гул.
> Будынак
> рухнуў.
> Мінулае
> Ператварылася
> ў туман.

Спачатку крыху расчароўваешся — не знаходзіш у гэтых радках нічога асаблівага. Але спакваля, чытаючы наступныя вершы, складаючы ў сваім уяўленні агульную карціну паэтычнага свету аўтара, пачынаеш разумець, што ў гэтых вершах — сапраўдная прыгажосць, сціплая, лагодная ў сваіх паўтонах:

> Хутар.
> Хата.
> Ганак.
> Дзверы.
> Клямка.
> Замка няма.
> Парог —
> Тонкі псіхолаг.

Г. Коўш выглядае ў новых вершах і тонкім псіхолагам. Толькі не на ўзроўні мыслення, а на ўзроўні назірання за найменшымі праявамі шматколернай рэчаіснасці. Асобна вылучаюцца на фоне агульнага настальгічна-імпрэсіяністычнага (нібы другая частка паэмы) фону вершы з публіцыстычным пафасам. Праўда, яны вылучаюцца толькі тэматычна, але не настраёва:

> Мае продкі,
> Калі сушылі яблыкі,
> Рэзалі іх на долькі.
>
> Калі засушваюць памяць людзей,
> Пачынаюць
> з зярнятаў —
> З дзяцей.

Ёсць і не вельмі ўдалыя вершы, якія, не маючы паэтычнай прыцягальнасці, выглядаюць наборам выпадкова прысуседжаных слоў. Часам, дарэчы, яшчэ і не вельмі дбайна падабраных слоў — і ў стылёвым сэнсе, і ў моўным. Аднак аўтар пераканаўчы, што "сабраныя камяні яднаюць".

Думаецца, спадзяванне Генадзя Каўша на тое, што "хто-небудзь зможа для сябе распаліць хоць адно з маленькіх вогнішчаў і гэтым самым трохі сагрэць сябе", апраўдаецца. Новы зборнік вершаў "Вершакроплі" — па вершакроплі, па радку, па староначцы сапраўды здольны распаліць невялічкае цяпельца адчування паэзіі.

Жанна КАПУСТА

Я чую голас твой адвечны,
Мая зямля, мая ралля.
Мне сорак год... І я не вечны...
Вось
і ўсё,
што знаю
я.

Л. Дайнека

# Адвечны голас зямлі

**Меў гонар з Леанідам Дайнекам у адзін год (1963) паступіць у БДУ, сустракацца нават не раз на дзень, чуць яго басавіты голас у хоры студэнцкай літбрацііі. Перапынак у сустрэчах быў у 1968 — 1973 гадах. Каля 10 гадоў (1979 — 1989) разам працавалі ў часопісе "Маладосць". Адпаведна, маю смеласць меркаваць, якія былі яго эвалюцыя ў мысленні і творчасці, мастацкія здабыткі на той перыяд — яшчэ з дзвюма кніжкамі паэзіі і з чатырма раманамі. Тым больш, што і пазней мы часта суразмоўнічалі ў "Мастацкай літаратуры", куды ён перайшоў на працу, у Саюзе пісьменнікаў, на лецішчы. Карацей, ведаю яго болей за 40 гадоў.**

Ды дзеля праяснення карціны трэба апынуцца думкамі менавіта ў тым, 1963-м. Тады аддзяленні журналістыкі, куды паступіў Л. Дайнека, беларускай і рускай мовы былі на адным, філалагічным факультэце. На першае бралі толькі "стажнікаў", на другое — і частку нас, тагачасных выпускнікоў. Адпаведна, мы, няштатныя карэспандэнты розных газет, пачаткоўцы ў паэзіі і прозе, на журналістыку не маглі аніяк патрапіць.

Зусім не сноб, але не магу назваць на пальцах адной рукі назваць яркіх журналістаў-публіцыстаў з ліку тых баявых суседзяў-аднакурснікаў. Так, займалі яны пасля розныя пасады ў розных выданнях, мелі свой уплыў, але як у публіцыстыцы, так і ў літаратуры праявіўся вялікі гурт менавіта выпускнікоў беларускага аддзялення. Л. Дайнека — адзін з тых, хто па-сапраўднаму ўратаваў былы гонар аддзялення журналісткі. Хоць яму было нават па-чалавечы нялёгка: магілёўскі хлопец, ён пасля школы рвануў ажно ў Ніжні Тагіл, дзе вучыўся ў тэхнічным вучылішчы, працаваў электраслесарам, тры гады аддаў арміі. Там, у свярдлоўскім "Красном бойце" і дэбютуе патрыятычным вершам "Я служу на Урале". У Беларусі, калі не памыляюся, ён заявіў пра сябе вершам у 1963 годзе ў газеце "Чырвоная змена". На гадоў пяцьшэсць старэйшыя за яго пісьменнікі ўжо мелі па два-тры зборнікі, пачуваліся "напаўкласікамі", мы збіраліся ў свой "касяк". Вось яму, Леаніду, і прыйшлося спазнаць, што такое "мох між бярвеннямі". Леанід настойліва шукаў сябе ў паэзіі з рознымі тэмамі і ў асноўным на рускай мове, актыўна друкаваўся. І не без поспеху. Як на старонках розных газет і "Нёмана", так і ў другой калектыўнай кнізе студэнтаў БДУ "Натхненне" (1967).

У 1969-м А. Жук дасылае мне ў армію пасылачку новых кніг. А ў ёй — і невялічкі зборнічак беларускамоўнай паэзіі "Галасы" Л. Дайнекі. Ён здаўся мне ў многім новым для тагачаснай творчасці — найперш паэтычнай свежасцю і вобразнасцю. Дайнека тут яскрава пацвердзіў думку геніяльнага Ф. Дастаеўскага наконт таго, што "ёсць такая тайна прыроды, закон яе, па якім толькі той мовай можаш валодаць у дасканаласці, з якой нарадзіўся…" А што да першага і новых зборнікаў паэзіі Л. Дайнекі, то асабіста я не змагу паўней сказаць пра іх, чым гэта зрабілі такія майстры паэтычнага слова, як Н. Гілевіч, С. Грахоўскі, Ю. Свірка, К. Цвірка, С. Законнікаў і іншыя.

У біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" слушна напісана, што Л. Дайнека "з 1976 аддае перавагу прозе". Але для многіх, у тым ліку і для мяне, гэта было нечаканасцю. Яго энергія, а ў пэўных выпадках і тагачасная выбуховая натура, здавалася, не зусім прыстасаваная для заняткаў такой марудлівай, карпатлівай справай, як проза. Але вось выйшла, што яна, яго натура, шматмерная. Хоць, зрэшты, можна было здагадацца, што ён імкне ў прозу: у "Маладосці" ён заўсёды меў у шуфлядзе пісьмовага стала "гросбух", куды акуратна занатоўваў усё самае цікавае, што мільгала ў свядомасці альбо што чуў ад шматлікіх наведвальнікаў рэдакцыі, сярод якіх нямала было выдатных расказчыкаў. У анатацыі да першага зборніка прозы з сімвалічнай назвай "Бацькава крыніца" пазначана і такое: "Героі апавяданняў жывуць паўнакроўным, шматгранным жыццём (вылучана мной. — Г.Д.), актыўна ўдзельнічаюць у камуністычным будаўніцтве". Што да нявылучанага ў цытаце, то гэта, мабыць, не столькі аўтарскае азначэнне, колькі тагачасная рэдакцыйная падстрахоўка. Аўтар, як і многія з нас, быў членам КПСС, часамі ў вершах аддаваў даніну і чырвонаму сцягу, Вялікаму Кастрычніку (не ён тут быў першы і не апошні; я таксама грэшны, ухваляў кастрычніцкі пераварот 1917-га: будзьма рэалістамі, без яго магло б не быць ніякай гаворкі пра Беларусь, як без БНР магло не быць БССР, Рэспублікі Беларусь), але не падхарошваў рэчаіснасць. Яго героі — рабочыя, сяляне, інтэлігенты, якія сапраўды хочуць жыць так, як пазначана вышэй вылучаным тэкстам; яны без гучнай ідэйнасці любяць працу, хочуць мець сям'ю, дастатак і часамі церпяць ад грамадства і ад сваіх нястрыманых учынкаў. Калі раней, напрыклад, пісалі, што выдатны рускі пісьменнік В. Бялоў стварыў надзвычай яркія партрэты рускіх "вологодских мужиков", то можна лічыць, што ўжо ў першай празаічнай кнізе Л. Дайнека паспрабаваў стварыць абагульнены вобраз сучаснага "простага" Янкі-беларуса — вяскоўца ці былога селяніна. З яго адвечнай моцай і слабасцю.

Л. Дайнеку да раманнай прозы спачатку паклікала не такое ўжо і далёкае адвечнае, але асабліва аберагальнае многімі беларускімі савецкімі гісторыкамі — часы ўтварэння БНР і БССР. У 1977 годзе ў "Полымі" пабачылі свет "Людзі і маланкі", у 1979-м — "Запомнім сябе маладымі". Я тады працаваў там у аддзеле прозы, дык адзін з першых пабачыў, як аўтару нялёгка: патрабавалася ў абмалёўцы гэтак званых нацыяналістаў, якія жыццё сваё прысвяцілі справе нацыянальнага і дзяржаўнага сцвярджэння Беларусі, ужываць пераважна чорныя фарбы, а інтэрнацыяналістам-мяснікоўцам, іхнім паслядоўнікам, якія словам і зброяй былі супраць Беларусі як такой, падшукваць таны светлыя і бадзёрыя. Зразумела, сёння ён пісаў бы тыя творы інакш, з пазіцыі новаўведзенага ва ўжытак і новаацэненага, і, галоўнае, без звышкантролю цэнзуры. Ды, як кажуць, справа была выканана ўжо і тым, што было завострана нацыянальнае пытанне. За гэтым быў новы раман "Футбол на замініраваным полі" (1981) — пра значна бліжэйшы час, пра лёсы людскія ў гады страшных ліхалеццяў. Гэты твор засведчыў, што аўтар расце творча — умее вальней будаваць сюжэт, карыстацца мастацкімі дэталямі, ствараць вобразы герояў. З 1979 года я апынуўся ў "Маладосці", пачаў зноў часта бачыцца з Л. Дайнекам, знаёміўся з яго новымі шматлікімі паэтычнымі публікацыямі, нарысамі і рэцэнзіямі, але прызнаюся: не зусім здагадваўся, пра што будзе яго новы празаічны твор. На пытанне пра гэта ён толькі хітравата пасміхаўся. Прадчувалася толькі, што "апусціцца" ў сівую гісторыю: вельмі ж цікавіўся летапісамі і хронікамі, былымі і новымі даследаваннямі, часта заводзіў гутаркі пра старажытную Полацкую зямлю, а ў 1982-м надрукаваў шэраг вершаў з цыкла "Постаці гісторыі Айчыннай".

Галоўныя рэдактары "Маладосці" В. Зуёнак, а потым А. Грачанікаў давяралі мне, намесніку, "весці" ў часопісе прозу, нарысы ды артыкулы. Можа, улічваючы і гэтую акалічнасць, нашу зацікаўленасць гісторыяй, Л. Дайнека новы твор на гэты раз прапанаваў прачытаць нам. Бачна было, што хваляваўся (а хто будзе зусім спакойны за вынікі і ацэнку працы, якой аддаў не адзін год!). Праз пару дзён я прачытаў раман і, як прасіў аўтар, загаварыў пра яго сам-насам. Выказаў і сваё захапленне, і пэўныя парады, якія, па-мойму, маглі ўзмацніць твор. У прыватнасці, наконт падкрэслівання ролі старажытнага Полацка. "Падтрымаеш?" — недаверліва запытаў ён. "Падтрымаю". — "А Грачанікаў?" — "Думаю, падтрымае і ён". Да парад маіх прыслухоўвацца было неабавязкова, але аўтар патрымаў яшчэ месяцы два-тры твор, а потым прынёс яго значна дапоўненым. А. Грачанікава вельмі ўразіў гэты "Меч князя Вячкі" — і зместам, і канцэпцыяй, і мастацкім выкананнем; галоўліт насцярожваўся, але мы, спажываючы тагачасную тэрміналогію, пераконвалі яго, што тут "ніякай пагрозы нацыяналістычнай няма: найперш адлюстравана барацьба славянскіх і прыбалтыйскіх народаў супраць крыжакоў, Захаду, што і цяпер вельмі актуальна". Публікацыя (1985) выклікала шырокі рэзананс з ухвальнымі рэцэнзіямі. Гэта давала і чытачам, і калегам новую надзею на плён у гістарычнай прозе пасля таго, як у папярэдні год раптоўна не стала У. Караткевіча на 54-м, росквітным годзе жыцця. У 1987-м Л. Дайнеку за раман "Меч князя Вячкі" была прысуджана Літаратурная прэмія імя І. Мележа.

Пасля Л. Дайнека "агледзеў" эпоху Міндоўга (пачатак — сярэдзіна XIII ст.), калі нашым продкам трэба было працягваць барацьбу з крыжакамі і калі ва ўмовах ацалення ад татара-мангольскай навалы ім выпаў шанц адрадзіць дзяржаўнасць з цэнтрам у сённяшнім Навагрудку (раман "Жалезныя жалуды", 1990), паспрабаваў сілы ў жанры фантастычнай прозы (раман "Чалавек з брыльянтавым сэрцам" (1992)). І, безумоўна, новага бліскучага поспеху дасягнуў у рамане "След ваўкалака" (1988), дзе вывеў яркі вобраз славутага Усяслава Чарадзея, які Полацкае княства зрабіў найбольш квітнеючым і магутным, дзеля чаго па логіцы свайго ды і пазнейшага часоў вёў не толькі абарончыя, але і захопніцкія войны. Разам з раманам "Меч князя Вячкі" гэты твор быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1990). Гэта яшчэ больш узвысіла аўтарытэт Л. Дайнекі як майстра гістарычнай прозы. Падмацаваў ён яго і ў самым новым рамане "Назаві сына Канстанцінам", апублікаваным не так даўно ў часопісе "Маладосць". Гэта, бадай, адзін з самых складаных па структуры, інтэлектуальных празаічных твораў у беларускай прозе, ён патрабуе асобнай і ўважлівай размовы.

...Пераходзячы з маладосці ў сталасць, Л. Дайнека ў баладзе (ці ў невялікай паэме) "Я жыў у дваццатым стагоддзі. Размова з будучыняй" вітаў новыя пакаленні, у думках пытаўся ў іх: "Не позна прыйшоў я? Не рана?" У час, Леанід Мартынавіч! І шчасліва пазбег быць "мохам між бярвеннямі", а напружанай, годнай працай (у чым была і вялікая падтрымка вернай, клапатлівай жонкі і маці трох сыноў Зінаіды Міхайлаўны) своечасова сказаў важкае слова пра тое, што цярпліва чакала свайго часу, блукала ў свядомасці многіх пакаленняў, заняў пачэснае месца ў нашай літаратуры.

Генрых ДАЛІДОВІЧ

У 1969-м А. Жук дасылае мне ў армію пасылачку новых кніг. А ў ёй — і невялічкі зборнічак беларускамоўнай паэзіі "Галасы" Л. Дайнекі. Ён здаўся мне ў многім новым для тагачаснай творчасці — найперш паэтычнай свежасцю і вобразнасцю. Дайнека тут яскрава пацвердзіў думку геніяльнага Ф. Дастаеўскага наконт таго, што "ёсць такая тайна прыроды, закон яе, па якім толькі той мовай можаш валодаць у дасканаласці, з якой нарадзіўся…"




# Шчырасць пачуццяў

Людзі рэдка звяртаюць увагу на асобу аўтара вершаў. Улюбёная ў прыгажосць жыцця школьніца, закаханы студэнт ці вясковая настаўніца-прыгажуня?

Мой дасціпны сябра Мікола працягнуў:

— У вершы ўсё ж галоўнае — думка і яе накірунак, аптымізм. Добрыя вершы ў таго, хто навучыўся па-мастацку асэнсоўваць жыццё, абагульняць і развіваць сваё мысленне. Памятаеш, як у Грыбаедава: "Пофилософствуй, — ум вскружится".

Я з удзячнасцю глядзеў на сябра, які ўжо пазнаёміўся з новай кнігай Юрыя Гусева "Беларусь — любовь моя" і падвёў размову пра яе. Спатрэбілася сёе-тое дапоўніць:

— У анатацыі сказана, што Юрый Гусеў вядомы ў рэспубліцы аўтар зборнікаў вершаў, але не сказана, што ён доктар філасофскіх навук, прафесар. У ліку шматлікіх філасофскіх прац у яго ёсць вельмі цікавая кніга "Пазнанне і творчасць" (аб праблемах мастацкай творчасці), прызначаная для маладых пісьменнікаў і студэнтаў гуманітарных універсітэтаў. Навука не толькі веды, кругагляд, але і свядомасць, якая ўзвышае дух і волю асобы. Мне вельмі падабаецца яго сцвярджэнне, што патрэба чалавека ў творчасці не толькі адна з самых высакародных, але і адна з самых першасных, глыбокіх і невычэрпных.

— Я зачараваны аўтарам, — не ўтрымаўся Мікола.

— Вучоны-філосаф, чалавек шаноўнага ўзросту, і не згубіў інтарэсу да людзей, да беларускага грамадства і праблем выхавання. У юнацтве пісаў вершы і цяпер піша, асвятляе і ўпрыгожвае вобраз жыцця. Улюбёны ў край.

Развітаўшыся з сябрам, я зноў паглыбіўся ў кнігу Ю. Гусева, знаходзячы ў ёй шмат цікавых сюжэтаў, думак, імён, многія з якіх мне добра вядомы. Пісаць пра яе — значыць удзячна сказаць пра аўтара, які мае дзіўную здольнасць натхняцца ўсімі гранямі духоўнага жыцця Беларусі і адлюстроўваць іх амаль ва ўсіх жанрах сучаснай літаратуры. У яго новай кнізе змешчаны вершы, паэма "Беларусь — любовь моя", нарысы, аповесць "Материнское сердце" і нават пераклады на рускую мову духоўных вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Танка, Л. Яўменава і іншых. Не будзем пераказваць змест кнігі. Галоўнае ў ёй — шчырасць пачуццяў, роздум, заклапочанасць працэсам выхавання, адданасць роднай зямлі, патрыятызм, дачыненне да ўсяго, што адбываецца ў рэспубліцы. Гэта найбольш выразна паказана ў нарысе "Дорогу осилит идущий".

Чытач заўважыць нарысы пра выдатных людзей, якіх называюць гонарам і славай краіны. Гэта — фізік з сусветным імем, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў; народны мастак СССР, акадэмік, Герой Беларусі, лаўрэат многіх прэмій Міхаіл Савіцкі; беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Уладзімір Ліпскі, які стварыў і здзяйсняе праграму "Дзеці Беларусі"; неўрапатолаг, народны ўрач Беларусі, акадэмік Ігнацій Антонаў, у якога дэвізам жыцця было і застаецца: не браць, а аддаваць...

Чым жа вызначаецца сацыяльная значнасць пісьменніка? Сёння гэта, бадай, самае балючае пытанне, якое лепей не чапаць. Ад яго хаваюцца задужа абачлівыя і хціўвыя. А філосаф і паэт Юрый Гусеў не пабаяўся ўзняць гэтую значнасць на грэбень сучаснага забыланага жыцця, прыстойна апісаўшы грамадзянскі подзвіг Уладзіміра Ліпскага. Каго сёння ў рэспубліцы можна паставіць па творчай актыўнасці побач з Уладзімірам Ліпскім, у якога дзіцячая праблематыка праходзіць чырвонай ніткай праз усе яго творы? А дзеці — гэта жывая плынь пераемнасці пакаленняў, якую трэба дабрачынна накіроўваць, гэта будучае нашага грамадства. Паглядзіце ў вочкі маленькай сіроткі — ці ўбачыце ў іх радасць заўтрашняга дня? Ліпскі ж вядзе да сумленнай працы і творчасці.

Раней Ю. Гусеў выдаў незвычайную кнігу "Вундеркинды Беларуси", прыхільна сустрэтую настаўнікамі. Вундэркінды (дзеці з выключнымі здольнасцямі) — надзея нацыі, якія ствараюць вершы, песні, малюнкі, музыку і г. д. Можна сабе ўявіць, як разумее Гусеў дзейнасць Уладзіміра Ліпскага, які выцягвае дзетак-сірот з цемры, небяспечнай зоны.

Параўноўваць — справа няўдзячная. Але ж нельга не заўважыць, што ў кнізе Ю. Гусева выразна адчуваюцца духоўныя каштоўнасці, ідэі, сімвалы выдатных беларускіх пісьменнікаў: любоў да радзімы, да людзей-творцаў, наша спадчына, захаванне прыроды, павага да сваіх бацькоў і дзядоў, шчымлівая трывога пра дзяцей. Усё ў ёй значна і прыгожа з пункта гледжання не толькі пісьменніка, але і філосафа, сацыёлага, педагога, гісторыка.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ



Мястэчка Ула Лепельскага павета (цяпер Бешанковіцкага раёна)Віцебскай губерні. На зыходзе першага месяца 1810 года ў сям'і уніяцкага святара Фамы Іванавіча Хруцкага нарадзіўся сын. 27 студзеня (8 лютага паводле новага летазлічэння) яго пахрысцілі ды мірапамазалі — гэтую дату прынята лічыць і днём нараджэння Івана Хруцкага. Сёлета, праз 200 гадоў, міжнародная культурная грамадскасць ушаноўвае імя нашага выдатнага суайчынніка, адзначаючы яго юбілей, уключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА.



# Хруцкі паедзе ў Парыж!

## І ў культурнай сталіцы Еўропы яго творчасць будзе прадстаўлена як менавіта наша, беларускае, мастацтва

У біяграфіі Івана Хруцкага дагэтуль нямала "белых плямаў", але сёння ўжо відавочна галоўнае: ён — славуты беларускі жывапісец XIX стагоддзя, чый лёс тыповы для многіх нашых таленавітых землякоў, воляю гісторыі змушаных напоўніцу раскрываць свой талент за межамі радзімы і там атрымліваць прызнанне.

Савецкім культуролагам нішто не замінала называць яго безразважна проста: рускі мастак. Ніхто не вымушаў іх дакопвацца да каранёў, і доўгі час на паверхні заставалася інфармацыя пра пецярбургскі перыяд навучання, творчасці ды славы жывапісца — як вызначальныя "анкетныя звесткі". На жаль, гэткі безапеляцыйны падыход укараніўся нават у сучасным сеціве, таму дзеля аб'ектыўнага знаёмства з майстрам не варта давяраць інтэрнет-пошукам: віртуальным даведнікам бракуе карэктнасці ў падачы фактаў і акалічнасцяў яго жыцця...

Шыкоўныя, пышныя ружы ды махровыя макі ў адмысловай вазе; пругкія ад салодкага соку жаўтавата-зялёныя ягады на вінаграднай гронцы ў выпеставаных ручках светлавокай паненкі; жывая вада з тонкім скрылікам лімона між празрыстых "берагоў" звычайнай шклянкі; ілюзорны панадны водар пачатага персіка, распалавіненага апельсіна, місы спелых малін; лазовыя ды лубяныя кошыкі з прамытай "бясхвостай" морквай, кучаравай капустай, крамянымі гуркамі, маладымі цыбулінамі; ядраныя баравічкі, упаляваныя птушкі; немудрагелістая срэбная чайная лыжачка... Усё гэта помніцца з маленства, як маляўнічыя рэпрадукцыі ў часопісе "Огонёк" на прадзедавым пісьмовым стале, як загадкавая музейная цішыня і цёплы пах алейных фарбаў у карціннай галерэі. Дасканала дэталёвы, рэалістычны да неверагоднасці, свет нацюрмортаў І. Хруцкага нязмушана ўваходзіў, пэўна, не толькі ў маю свядомасць адным з яркіх уражанняў дзяцінства. І потым доўгія гады ўспрымаўся як узор акадэмічнага рускага мастацтва.

А пры канцы 1980-х пачалося асэнсаванне яго творчасці як абсалютна самабытнага феномена традыцыйнай расійскай школы жывапісу. У 1986 г. часопіс "Мастацтва Беларусі" змясціў грунтоўную публікацыю Ірыны Паньшынай ды Алены Рэсінай, на аснове якой быў падрыхтаваны і артыкул для V тома "ЭЛіМБел", выдадзенага праз год. У 1990-м выдавецтва "Беларусь" выпусціла альбом-каталог "Іван Хруцкі (1810 — 1885)", укладзены тымі ж аўтарамі. Іх гісторыка-мастацтвазнаўчы тэкст, дапоўнены рэпрадукцыямі нацюрмортаў, партрэтаў, пейзажаў, інтэр'ерных кампазіцый са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, музеяў Польшчы і СССР, і сёння чытаеш як драматычную дакументальную аповесць. І ўяўляеш таленавітую, апантаную творчасцю асобу, якую ўзгадавалі, фарміравалі ды выпрабоўвалі на трывушчасць рэаліі менавіта беларускага жыцця.

Атрымаўшы адукацыю ў Полацкім калегіуме на факультэце вольных мастацтваў, І. Хруцкі мусіў шукаць творчае асяроддзе і ўдасканальвацца ў прафесіі за межамі радзімы. Уладкаваўшыся вольным слухачом у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, браў урокі ў мэтраў, займаўся капіраваннем узораў еўрапейскага жывапісу ў Эрмітажы. Сваімі нацюрмортамі хутка набыў папулярнасць. У 1836 г. за карціну "Плады і кветкі" атрымаў вялікі срэбны медаль і званне вольнага мастака (аднак працягваў вучыцца ў акадэміі). Праз два гады за палатно "Кветкі і садавіна" ды за партрэт бабулькі атрымаў ад акадэміі малы залаты медаль, а яшчэ праз год быў ганараваны званнем акадэміка.





У 1839-м памёр бацька Івана Фаміча, і мастак мусіў вярнуцца на радзіму, дзе засталіся маці, два малодшыя браты і тры сястры. Дакумент 1844 года сведчыць пра набыццё Хруцкім маёнтка Захарнічы за 20 км ад Полацка, на возеры Шчалапок. Тут паводле ўласнага праекта ён пабудаваў дом, разбіў сад. І ажаніўся з Ганнай Бямбноўскай, дачкой суседзяў (між іншым, яго цесць, уладальнік фальварка Навагуршчына Полацкага павета Ксаверы Бямбноўскі, быў капітанам арміі Касцюшкі). Важная акалічнасць — складаныя стасункі мастака з мітрапалітам літоўскім і віленскім Іосіфам Сямашкам, старшынёй беларускай кансісторыі, які шчодра замаўляў І. Хруцкаму самыя розныя і выгодныя работы: ад уласнага партрэта да храмавых роспісаў для Вільні, Коўна. Вядома, што Сямашка, выконваючы загад імперскай улады, "змагаўся" з уніяцкімі святарамі, не грэбуючы нават метадамі паклёпу. Праз гэта пацярпеў і Фама Хруцкі, бацька мастака, урэшце змушаны змяніць веравызнанне, але пры гэтым да скону жыць з кляймом "из новообращённых"...

Фотаздымак 1910-х захаваў сціплае аблічча сядзібы Хруцкіх пад Полацкам. Сёння Захарнічы — проста вёска. Марнымі аказаліся мае спробы распытаць у кампетэнтных палачан, як жа захоўваюць там памяць пра славутага земляка, як будуць ушаноўваць яго вялікі юбілей. А мой прыяцель, наведаўшыся ў Полацк, спрабаваў дамовіцца наконт саматужнай экскурсіі ў Захарнічы, дык пачуў: "Лепей вам туды не ездзіць". Яно і не дзіўна, бо ўжо 20 гадоў таму пісалі пра тое, што згінулі старыя прысядзібныя ліпы, а на лясных могілках, дзе пахаваныя мастак і яго сямейнікі, стаяць крыжы, надпісы на якіх знішчыў час. Толькі возера засталося. Месцічы і завуць яго — "Хруцкае"...

А вось і мажорны акорд: восенню карціны Івана Хруцкага паедуць у Парыж! Выстаўка пройдзе ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, затым будзе экспанавацца ў зале Луўра. Але пра гэта — у бліжэйшых нумарах "ЛіМа", з нагоды сталічнага мастацкага свята, якім 8 лютага пачаўся Год Хруцкага.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: аўтапартрэт Івана Хруцкага і яго "Партрэт І. Булгака"(уніяцкі мітрапаліт), "Кветкі ды садавіна", "Дзеці перад мальбертам".

## У наступным нумары

Напрыканцы мінулага года "ЛіМ" прэзентаваў рубрыку "Абмеркаванне", мэтай якой з'явілася адлюстраванне некалькіх поглядаў на адзін літаратурны твор. "Прадметам" двух першых абмеркаванняў сталі аповесць Валерыя Гапеева "Першы боль, альбо Доказ законаў прыгажосці" і акварэльныя малюнкі Уладзіміра Сцяпана "Дзед".

У абмеркаванні бралі ўдзел Л. Алейнік, Ц. Чарнякевіч, Ж. Капуста, А. Паплаўскі, І. Шаўлякова, С. Грышкевіч і А. Грыбоўскі. Мы палічылі неабходным даць магчымасць выказацца і самім аўтарам "паддоследных" твораў, таму звярнуліся да іх з прапановай выказаць згоду ці нязгоду з ацэнкамі крытыкаў і патлумачыць асабістую творчую пазіцыю... Чытайце адказы В. Гапеева і У. Сцяпана ў наступным нумары тыднёвіка.

З глыбінкі

## «Добрых рук чараўніцтва»

На адно з пасяджэнняў з такой назвай жаночага клуба "Ляльчанка", створанага пры цэнтральнай раённай бібліятэцы, былі запрошаны жыхаркі Лельчыц Ірына Варановіч і Алена Крупнік, якія займаюцца рукадзеллем. За кубачкам гарбаты яны распавялі пра тое, як і калі сталі займацца рукадзеллем.

Ірына Варановіч авалодвала сакрэтамі вязання і вышыўкі па кнізе, прысвечанай дамаводству, якая была ў маці. Прачытала, паспрабавала — атрымалася. Ужо з шостага класа навучылася і шыць. Пазней, будучы студэнткай, перакройвала матуліны сукенкі з прыгожых натуральных тканін і шыла сабе ўборы. Бо вельмі хацелася, каб такіх рэчаў, як у яе, ні ў кога не было. Потым вырашыла навучыцца бісерапляценню. Ізноў на дапамогу прыйшлі кнігі. Шмат што са сваіх вырабаў Ірына Фёдараўна падаравала ўнукам і сваякам. А ў яе марах — навучыцца саломапляценню і вышыўцы на машынцы. Аказваецца, творчая жылка І. Варановіч перадалася па бацьку, які займаўся скульптурай. Гледзячыся ў люстэрка, ён вылепіў з гліны свой бюст. Цяпер работы майстра захоўваюцца ў музеі. Да слова, пляменніца Ірыны Фёдараўны, таксама Ірына, па-майстэрску вяжа спіцамі і кручком, займаецца бісерапляценнем.

Алена Міхайлаўна таксама з дзяцінства захаплялася вышыўкай, вязаннем, макрамэ, шыла мяккія цацкі. Усяму гэтаму яе навучыла настаўніца Любоў Астаповіч, якая кіравала ў школе гуртком "Умелыя рукі". Алена Крупнік працавала ў школе, музеі, аддзеле культуры, але калі з'явілася магчымасць пайсці ў Дом рамёстваў майстрам-метадыстам, адразу ж пагадзілася. Яго дырэктар Валянціна Жураўлёва, са слоў Алены, навучыла яе ўсяму, што ўмее сама. Тут жа авалодала вырабам лялек з пап'е-машэ, навучылася шыць на машынцы. А цяпер з задавальненнем навучае гэтаму дзятву.

Алена Крупнік правяла майстар-клас па саломапляценні. Прысутным цікава было даведацца, што для пляцення выкарыстоўваюць пераважна жытнюю салому, паколькі яна доўгая і трывалая. Яе нарыхтоўваюць уручную, прычым у розныя тэрміны — тады яна будзе мець розныя адценні. Сцябліны зразаюць каля самай зямлі і адразу завязваюць у снапы. Затым сцябліны дзеляцца на некалькі частак, адбельваюцца перакісам вадароду і высушваюцца. А калі трэба з саломкі нешта змайстраваць, то яна вымочваецца ў кіпені, пасля чаго робіцца гнуткай.

Прыемна, што на Лельчыцкай зямлі ёсць майстры, якія ствараюць і шануюць прыгажосць, перадаюць свой талент, любоў да нацыянальных рамёстваў маладому пакаленню.

Святлана ЛІПСКАЯ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3104
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.02.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 609
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686